ІНСТЫТУТ ЛІТАРАТУРЫ ІМЯ ЯНКІ КУПАЛЫ АН РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ
БЕЛАРУСКАЯ ЭНЦЫКЛАПЕДЫЯ

# БІЯБІБЛІЯГРАФІЧНЫ СЛОЎНІК

## У 6 ТАМАХ

МІНСК
БЕЛАРУСКАЯ ЭНЦЫКЛАПЕДЫЯ
ІМЯ ПЕТРУСЯ БРОЎКІ
1992

ІНСТЫТУТ ЛІТАРАТУРЫ ІМЯ ЯНКІ КУПАЛЫ АН РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

БЕЛАРУСКАЯ ЭНЦЫКЛАПЕДЫЯ

# БЕЛАРУСКІЯ ПІСЬМЕННІКІ

## БІЯБІБЛІЯГРАФІЧНЫ СЛОЎНІК

### ТОМ 1

### АБУХОВІЧ - ВАТАЦЫ

МІНСК
БЕЛАРУСКАЯ ЭНЦЫКЛАПЕДЫЯ
ІМЯ ПЕТРУСЯ БРОЎКІ
1992

ББК 91.09:83.3Бел
Б 43



Это издание — настольный справочник для всех, кто занимается и интересуется белорусской культурой. В нем представлено более 1100 статей, содержащих полные, всесторонние и систематизированные сведения о жизни и деятельности всех представителей белорусской литературы, которые творили на старославянском, белорусском, русском, латинском, польском и других литературных языках Белоруссии. В библиографических сведениях представлено свыше 600 тыс. различных публикаций.

Б $\frac{4406010000-013}{М\ 318(03)-92}$ 16–91

ISBN 5-85700-060-2

ISBN 5-85700-061-0 (т. 1)

## ПРАДМОВА

У беларускай літаратуры, якая налічвае амаль тысячу гадоў гісторыі, вялікія мастацкія здабыткі, прызнаныя сёння ва ўсім свеце. Яна прыцягвае да сябе ўсё большую колькасць чытачоў. Яе вывучэннем займаюцца многія даследчыкі — як савецкія, так і замежныя. Іх намаганні скіраваны на аб'ектыўнае ўзнаўленне ўсёй складанай гісторыі беларускай літаратуры, барацьбы ў ёй розных ідэйна-мастацкіх напрамкаў і плыняў, на ліквідацыю ў гэтай гісторыі шматлікіх прагалаў.

На шляху чытача і даследчыка, на жаль, узнікаюць значныя цяжкасці. Найпершая з іх — недастатковасць навуковай інфармацыі, недаступнасць многіх першакрыніц. Амаль кожнаму даследчыку, які вырашыў вывучаць творчасць таго ці іншага беларускага пісьменніка або рыхтаваць да выдання яго спадчыну, даводзіцца пачынаць сваю работу літаральна з нуля: самому складаць адпаведную бібліяграфію, перагортваць дзеля гэтага мноства зборнікаў, манаграфій і перыядычных выданняў, якія, да таго ж, раскіданы па бібліятэках і архівах розных гарадоў краіны і за мяжой.

Задача даведніка «Беларускія пісьменнікі. Біябібліяграфічны слоўнік» заключаецца ў тым, каб даць чытачу — літаратуразнаўцам, выкладчыкам і студэнтам вышэйшых навучальных устаноў, настаўнікам-філолагам, краязнаўцам, вучоным братніх рэспублік і замежных краін — дакладную, аб'ектыўную і, па магчымасці, поўную інфармацыю пра асноўны «кантынент» беларускай літаратуры, усіх яе прыкметных прадстаўнікоў незалежна ад іх поглядаў і мастацкіх прынцыпаў. Такая інфармацыя будзе спрыяць інтэнсіфікацыі працы даследчыкаў, дасць ім фактычную аснову для комплекснага, сістэмнага вывучэння гісторыі беларускай літаратуры, будзе істотна стымуляваць навуковую арганізацыю працы як спецыялістаў у дадзенай галіне, так і прадстаўнікоў сумежных дысцыплін.

Рыхтуючы гэты даведнік, аўтарскі калектыў абапіраўся на нацыянальныя традыцыі (М. Гарэцкі, Я. Карскі і інш.) і на вопыт аналагічных выданняў, якія ўжо выйшлі або выходзяць у Расіі, на Украіне, у Літве, Польшчы, іншых краінах. У прыватнасці, шырока выкарыстаны метадычныя рэкамендацыі, распрацаваныя ў выдавецтве «Советская энциклопедия» пры падрыхтоўцы слоўніка «Русские писатели. 1800—1917». Аднак у многіх выпадках аўтарскі калектыў ішоў сваім, адметным шляхам.

У слоўнік уключаны каля 1100 артыкулаў пра дарэвалюцыйных і савецкіх пісьменнікаў, якія цалкам або часткова пісалі на беларускай мове ці (у старажытны перыяд) на агульных для некалькіх народаў літаратурных мовах свайго часу (стараславянскай, лацінскай, польскай). Улічваўся сінкрэтычны характар старой беларускай літаратуры. Пачынаючы з артыкулаў пра пісьменнікаў 19 ст. дзейнічае моўны прынцып адбору персаналіяў. Зыходзячы з яго, у Слоўнік уключаны артыкулы пра У. Сыракомлю і І. Легатовіча, у спадчыне якіх ёсць творы на беларускай мове, і не ўвайшлі артыкулы пра ўраджэнцаў Беларусі А. Міцкевіча і Э. Ажэшка, у якіх такіх твораў няма (ці яны пакуль што не выяўлены). Нешматлікасць пісьменніцкіх імёнаў у дакастрычніцкай літаратуры паўплывала на тое, што ў Слоўніку прадстаўлены нават аўтары аднаго беларускага верша (П. Багрым, І. Легатовіч і інш.). У дачыненні да савецкіх пісьменнікаў крытэрыі адбору некалькі іншыя. У Слоўніку ёсць арты-

кулы і пра тых аўтараў, якія пісалі ці пішуць на рускай, яўрэйскай (ідыш), польскай і літоўскай мовах, але жылі ці жывуць на тэрыторыі БССР, уваходзілі ці ўваходзяць у склад СП БССР (яго нацыянальных секцый у 30-я гады), папярэдніх літаратурных арганізацый («Маладняк», «Полымя», «Узвышша», БелАПП), актыўна ўдзельнічалі ці ўдзельнічаюць у літаратурным жыцці рэспублікі. У дачыненні да нашых сучаснікаў асноўнымі крытэрыямі для ўключэння ў Слоўнік з'яўляліся: а) членства ў СП БССР; б) персаналія ў «Энцыклапедыі літаратуры і мастацтва Беларусі»; в) наяўнасць кніг па беларускай літаратуры (для дактароў і кандыдатаў навук, якія не з'яўляюцца членамі СП БССР). У Слоўніку змешчаны таксама артыкулы (з адпаведнымі ацэнкамі) пра тых беларускіх пісьменнікаў, якія ў свой час удзельнічалі ў літаратурным жыцці БССР ці Заходняй Беларусі, але потым па розных прычынах апынуліся ў эміграцыі. У выданне ўключаны і звесткі пра беларускіх аўтараў, якія жывуць у ПНР і ўваходзяць у склад польскіх пісьменніцкіх арганізацый. Спісы персаналій, дабаўленні і змяненні ў ім абмяркоўваліся і зацвярджаліся на пасяджэннях аддзелаў і Вучонага савета Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы АН БССР.

Усе артыкулы ў Слоўніку размешчаны ў алфавітным парадку прозвішчаў (або асноўных псеўданімаў) пісьменнікаў (калі прозвішча і псеўданім ужываліся прыкладна ў аднолькавай ступені, то яны абодва прыведзены ў загалоўку артыкула і потым, у артыкуле, не размяжоўваюцца). Калі пісьменнік увайшоў у гісторыю літаратуры пад сваім манаскім імем (Афанасій Філіповіч, Іпацій Пацей, Сімяон Полацкі і г. д.), то артыкул размяшчаецца ў адпаведнасці з гэтым імем.

Кожны артыкул складаецца з двух раздзелаў: біяграфічнага і бібліяграфічнага.

**Біяграфічны раздзел.**

Асновай для напісання гэтага раздзела артыкула з'яўляліся аўтабіяграфіі пісьменніка, успаміны пра яго, яго асабовыя справы ў Саюзе пісьменнікаў БССР і архівах рэспублікі, адпаведныя звесткі ў энцыклапедычных выданнях, даведніках і літаратуразнаўчых манаграфіях, а таксама гутаркі з роднымі ці знаёмымі пісьменніка. Нашым сучаснікам артыкулы пасылаліся на візу.

Біяграфія пісьменніка падаецца ў артыкуле ў храналагічнай паслядоўнасці. Усе падзеі па магчымасці датуюцца. Адступленні ад храналагічнай паслядоўнасці дапускаюцца толькі ў асобных выпадках (напрыклад, калі дзеля сцісласці выкладання асобныя факты групуюцца па «сюжэтных лініях»).

У кожным артыкуле з большай або меншай ступенню падрабязнасці дадзены па магчымасці ўсе абавязковыя звесткі. Да іх ліку адносяцца: а) прозвішча, імя і імя па бацьку пісьменніка, яго псеўданімы; б) даты і месцы нараджэння і смерці; в) дэфініцыя; г) паходжанне — сацыяльнае і нацыянальнае (у выпадку неабходнасці); д) адукацыя; е) сфера і характар пазалітаратурнай дзейнасці; ж) грамадская пазіцыя; з) геаграфія (дзе і ў якія гады жыў пісьменнік); і) першае выступленне ў друку; к) сувязь з літаратурнымі плынямі і кірункамі, належнасць да літаратурных і літаратурна-грамадскіх груповак, супрацоўніцтва ў органах друку; л) кароткая характарыстыка творчасці; м) месца пахавання (пры наяўнасці звестак), ушанаванне памяці.

Даты і месцы нараджэння і смерці. Для асоб, якія нарадзіліся ў межах Расійскай імперыі да 1(14) лютага 1918 г., даты жыцця ўказваюцца паводле старога і новага стылю (новы стыль — у дужках). Для пісьменнікаў, што нарадзіліся або памерлі да 1918 за мяжой, даты даюцца толькі паводле новага стылю. Калі дакладная дата невядома, указваецца месяц і год або толькі год; калі невядомы і год — ставіцца пытальнік. Пры адсутнасці дакладных звестак могуць ужывацца прыблізныя («1820-я г.») або абмежавальныя («пасля 1897», «не пазней 1905», «паміж 1905 і 1913») указанні. Пры адсутнасці нават прыблізных звестак пра гады нараджэння і смерці перыяд творчай дзейнасці пісьменніка ўказваецца ў дэфініцыі («празаік-палеміст 1-й паловы 17 ст.»). Месцы нараджэння і смерці ў дакастрычніцкі перыяд указваюцца як паводле ранейшага, так і паводле сучаснага адміністрацыйнага падзелу (з улікам змен геаграфічных назваў). Даты ці месцы нараджэння і смерці, у якіх няма цвёрдай упэўненасці, суправаджаюцца пытальнікам, а разначытанні ў іх агаворваюцца.

Дэфініцыя. У вызначэннях аўтары артыкулаў імкнуліся быць кан-

крэтнымі: «паэт, драматург, тэатральны крытык», «дзіцячы пісьменнік» і г. д. Дэфініцыя «пісьменнік», як таўталагічная ў дачыненні да назвы Слоўніка і вызначэнне «беларускі», як правіла, не выкарыстоўваюцца. У адпаведных выпадках пры дэфініцыі ўказваецца: «пісаў на рускай мове», «пісаў на лацінскай мове», «пісаў на беларускай і польскай мовах», «піша на беларускай і рускай мовах». Разам з тым канкрэтнасць дэфініцыі не ператварае яе ў поўны пералік літаратурных заняткаў пісьменніка. Некалькі апавяданняў або рэцэнзій вядомага паэта паказаны ў бібліяграфічным раздзеле артыкула, таму ў дадзеным выпадку вызначэнні «празаік» і «крытык» у дэфініцыі адсутнічаюць. Указанні на ўдзел у пазалітаратурных сферах грамадскай дзейнасці («педагог», «вучоны», «рэвалюцыянер»), або на дачыненне да іншых родаў мастацтва («мастак», «акцёр») уключаны ў характарыстыку толькі тады, калі гэтыя віды дзейнасці маюць асаблівае значэнне для біяграфіі пісьменніка. У дэфініцыі, якая складаецца з двух або больш вызначэнняў, на першае месца ставіцца найбольш істотнае з іх.

Паходжанне. Сацыяльнае паходжанне пісьменніка вызначаецца па магчымасці канкрэтна: «сын прыгоннага селяніна», «з сям'і калгаснікаў», «з дробнай шляхты» і г. д. У адпаведных выпадках улічваецца і нацыянальны аспект паходжання. Падаюцца кароткія звесткі пра бацькоў і продкаў пісьменніка. Указваецца сваяцтва з асобамі, пра якіх ёсць асобныя артыкулы ў Слоўніку (прозвішчы іх набіраюцца курсівам), іншымі грамадскімі і культурнымі дзеячамі.

Адукацыя. Апрача важных у многіх выпадках звестак пра хатняе выхаванне, паведамляецца, калі і ў якіх навучальных установах вучыўся пісьменнік і ці завяршыў адукацыю. Універсітэцкая адукацыя канкрэтызуецца ўказаннем факультэта або аддзялення.

Пазалітаратурная дзейнасць. Аўтары артыкулаў імкнуліся даць уяўленне пра сферу і характар пазалітаратурнай дзейнасці пісьменніка — яго службу ў дзяржаўных установах, сацыяльнае і маёмаснае становішча. Па магчымасці пералічваюцца службовыя перамяшчэнні, дзяржаўныя ўзнагароды.

Удзел у грамадскім жыцці. У артыкулах Слоўніка з большай або меншай падрабязнасцю адлюстраваны грамадзянская пазіцыя і грамадская дзейнасць пісьменніка — палітычная, рэдактарская, выдавецкая, педагагічная, асветніцкая і г. д. Адзначаецца ўдзел у войнах, рэвалюцыйным і іншых рухах, палітычных арганізацыях, літаратурных і літаратурна-грамадскіх групоўках свайго часу, а таксама блізкасць да пэўных органаў друку. У артыкулах пра літаратараў, якія прымалі ўдзел у рэвалюцыйна-вызваленчым руху, паведамляецца аб праследаваннях з боку ўлад. У выпадку, калі пісьменнік быў рэпрэсіраваны, а затым рэабілітаваны, звесткі пра гэта прыводзяцца на падставе інфармацыі, атрыманай рэдкалегіяй ад КДБ БССР.

Пачатак літаратурнай дзейнасці. Дата (год) першага выступлення пісьменніка ў друку, а таксама (калі гэта не адно і тое ж) першай уласна літаратурнай публікацыі, як правіла, уключаны ў біяграфічны раздзел. У неабходных выпадках прыводзяцца звесткі пра творчасць пісьменніка да яго дэбюту ў друку.

Літаратурная творчасць. Падрабязны аналіз усёй мастацкай творчасці пісьменніка не ўваходзіць у задачы падобных выданняў. Называюцца толькі асноўныя (этапныя) зборнікі (творы), даецца іх агульная характарыстыка. Вызначаюцца найбольш характэрныя рысы творчай індывідуальнасці пісьменніка. Акрэсліваюцца праблематыка яго творчасці, яго літаратурна-эстэтычныя погляды. Прыводзяцца звесткі (паколькі яны адсутнічаюць у бібліяграфічным раздзеле) пра экранізацыі твораў, іх пастаноўкі ў тэатрах, выкарыстанне кампазітарамі і мастакамі.

Звесткі пра смерць. У большасці артыкулаў яны паведамляюцца перад дэфініцыяй. Аднак у шэрагу выпадкаў паўстала неабходнасць у дадатковым асвятленні. Гэта датычыцца, па-першае, значных па аб'ёму артыкулаў, дзе гаворыцца пра абставіны, якія папярэднічалі смерці пісьменніка, прывялі да яе. Па-другое, датычыцца фактаў прымусовай смерці: на вайне, на катарзе, у выніку пакарання смерцю, забойства, самазабойства, няшчаснага выпадку. Калі пісьменнік быў пахаваны ў Мінску ці іншым горадзе, дзе ёсць некалькі могілкаў, указваецца (пры наяўнасці звестак) канкрэтнае месца пахавання.

У заключэнне паведамляецца пра ўшанаванне памяці пісьменніка (помнікі, музеі, мемарыяльныя дошкі, вуліцы і да т. п.). У буйных артыкулах гаворыцца пра лёс бліжэйшых членаў сям'і (жонкі, дзяцей). Указваецца месцазнаходжанне рукапіснай спадчыны.

Памер біяграфічнага раздзела артыкула не абавязкова адпавядае значнасці напісанага — у некаторых выпадках ён залежыць ад цікавасці лёсу самога пісьменніка, яго вывучанасці. Ад гэтых абставін у многім залежыць і стыль выкладання (рыхтуючы артыкулы да друку, рэдкалегія не імкнулася да яго поўнай уніфікацыі).

**Бібліяграфічны раздзел.**

У гэтым раздзеле прыводзяцца звесткі пра творы пісьменніка, апублікаваныя асобнымі выданнямі, у зборніках, перыядычным друку, перакладзеныя на іншыя мовы, а таксама літаратура пра пісьменніка (не ўказваюцца ў бібліяграфіі песні на словы паэта, іканаграфічны і ілюстрацыйны матэрыял, пароды і шаржы, дробныя карэспандэнцыі і інфармацыі). Асобныя кніжныя публікацыі даюцца ўсе (апошняй датай з'яўляецца дата здачы чарговага тома ў вытворчасць), матэрыялы ў зборніках і перыёдыцы абмежаваны 1985 (выключэнне зроблена толькі для найбольш важных публікацый, якія маюць прынцыповае значэнне — напрыклад, для твораў, якія апублікаваны па архіўных крыніцах). У аснову бібліяграфічных апісанняў пакладзены ДАСТ 7.1—84 з некаторымі адступленнямі, прынятымі для Слоўніка. Скарачэнні робяцца ў адпаведнасці са стандартамі па скарачэнні рускіх і беларускіх слоў, распрацаванымі кніжнымі палатамі СССР і БССР.

За аснову бібліяграфічнага апісання бярэцца назва самога твора. Захоўваюцца яго лексічныя асаблівасці (выпраўляецца толькі правапіс). Пры апісанні беларускіх кніг, якія друкаваліся лацінскім алфавітам, гэты алфавіт таксама захаваны, аднак у калектыўных зборніках, часопісах і газетах (многія з іх выходзілі паралельна) ён пераведзены на кірыліцу. Назвы публікацый, як правіла, не скарачаюцца (выключэнні: Зб. тв.; Выбр. тв.). Усе вызначэнні, якія адсутнічаюць у крыніцы і паходзяць ад бібліёграфа, даюцца ў квадратных дужках. Пры паўтарэнні крыніцы замест яе назвы даецца: Там жа; пры паўтарэнні прозвішча аўтара — Яго ж (г. зн. таго ж самага аўтара — і для жанчыны).

У бібліяграфічным раздзеле кожнага артыкула прыводзяцца звесткі пра апублікаваныя творы пісьменніка (1) і літаратуру пра яго на мове арыгінала (2).

У першай (1) частцы ў аснову пакладзены храналагічны і храналагічна-алфавітны прынцыпы ўкладання інфармацыі.

**1.1.** Прыводзяцца звесткі пра зборы твораў і выбраныя творы пісьменніка. У кожнай з гэтых дзвюх падгруп захоўваецца свая храналогія. У лік выбраных твораў уключаюцца таксама серыйныя выданні тыпу «Бібліятэка беларускай паэзіі», «Бібліятэка беларускай прозы» (апрача «Школьнай бібліятэкі» і зборнікаў, якія па сутнасці з'яўляюцца зборамі твораў, але гэтага не відаць з іх загалоўкаў). Пасля кожнага выдання ўказваюцца рэцэнзіі на яго (у алфавітным парадку прозвішчаў аўтараў або назваў, калі рэцэнзіі ананімныя; прытым спачатку ідуць рэцэнзіі на мовах народаў, якія карыстаюцца кірыліцай, а потым — лацінкай). Апісанне кожнага збору твораў і выбраных твораў пачынаецца з новага радка.

**1.2.** Падаецца інфармацыя пра кніжныя выданні твораў пэўнага аўтара, у тым ліку пра напісаныя ім падручнікі, тэксты альбомаў, брашуры, аўтарэфераты дысертацый. Прынцып размяшчэння — храналагічны. Калі ў адным годзе выйшла некалькі кніг пісьменніка, то ўказваюцца яны ў алфавітным парадку назваў. Перавыданні кнігі аб'ядноўваюцца (аднак толькі ў тым выпадку, калі на перавыданне прама ўказана ў выхадных звестках). Пры апісанні ўказваюцца: загаловак кнігі, падзагаловак, месца выдання (скарочана: Мн. замест Мінск, М. замест Масква, Л. замест Ленінград, Спб. замест Санкт-Пецярбург, Пб. замест Пецярбург, Пг. замест Петраград, К. замест Кіеў; астатнія гарады называюцца поўнасцю), год выдання (калі на тытульнай старонцы ён не ўказаны, але вядомы паводле іншых крыніц, падаецца ў квадратных дужках), назва серыі, псеўданім або прозвішча аўтара (калі ёсць разыходжанне з псеўданімам ці прозвішчам, вынесеным у загаловак артыкула), а таксама, пры неабходнасці, інфармацыя пра сааўтарства ці ананімнасць выдання. Рэцэнзіі на кнігі падаюцца ў тым жа парадку, што і ў 1.1.

**1.3.** Змешчаны звесткі пра публікацыі твораў пісьменніка (у тым ліку публіцыстычных артыкулаў, рэцэнзій, прамоў, інтэрв'ю) у калектыўных зборніках і перыядычных выданнях. Прынцып укладання — храналагічна-алфавітны. Публікацыі кожнага года выдзелены абзацам, унутры якога матэрыял размеркаваны наступным чынам: спачатку ідуць публікацыі ў зборніках, альманахах і калектыўных манаграфіях (у алфавітным парадку выданняў), далей — публікацыі ў часопісах (паводле алфавіту іх назваў) і газетах (у тым жа парадку). Калі на працягу года адзін і той жа твор (або творы) друкаваўся некалькі разоў пад аднолькавай назвай, то такія публікацыі аб'ядноўваюцца (з указаннем усіх крыніц адпаведна схеме). У выпадку, калі адзін і той жа твор друкаваўся ў розных крыніцах пад рознымі (адметнымі) назвамі, такія публікацыі не аб'яднаны, паколькі аналітычная тэксталагічная работа складальнікамі бібліяграфіі не праводзілася. Доўгія назвы перыядычных выданняў скарачаюцца (гл. спіс скарачэнняў). Творы цыкла не пералічваюцца, калі цыкл вершаў ці апавяданняў мае сваю назву. Калі ж у адной і той жа крыніцы розныя творы пісьменніка апублікаваны пад рознымі яго псеўданімамі ці крыптанімамі або ў розным сааўтарстве, гэтыя звесткі ўказваюцца не пасля крыніцы (як звычайна), а пасля кожнага адпаведнага твора.

У **1.3.** бібліяграфічная інфармацыя прыводзіцца ў наступным парадку. Год выносіцца ў пачатак абзаца. Пры апісанні твораў, апублікаваных у зборніках і анталогіях, спачатку ўказваецца назва твора (твораў), потым — іх жанравае вызначэнне (адсутнасць такога вызначэння сведчыць, што публікацыя з'яўляецца артыкулам), называецца крыніца і месца выдання. Старонкі, на якіх надрукаваны творы пісьменніка, указваюцца толькі ў тых выпадках, калі іх нельга вызначыць па змесце кнігі. Пры апісанні твораў, апублікаваных у часопісах, даюцца назва (назвы) твораў, назва часопіса, нумар (таксама для часопісаў, якія выдаюцца кнігамі) або том (рымскія іх нумары пераводзяцца ў арабскія). Пры апісанні твораў, змешчаных у газетах, замест нумара указваецца дата. Выключэнне робіцца для тых выданняў, якія не захаваліся і таму апісаны не de visu. Звесткі пра іх узяты з ранейшых бібліяграфічных крыніц, дзе звычайна ўказваўся нумар — у такіх выпадках ён, як выключэнне, пакінуты. Матэрыялы з тыднёвіка «Голас Радзімы», апублікаваныя да 1976, калі ў выданні не ўказвалася дата, падаюцца сярод часопісных публікацый, пасля 1976 — сярод газетных. Такі ж разнабой пакінуты (услед за летапісамі друку) пры апісанні публікацый у «Книжном обозрении». У дарэвалюцыйных газетах, датаваных старым і новым стылем («Наша ніва» і інш.) прыводзіцца толькі першая дата. У выпадку, калі паралельна выходзіла беларускае і рускае выданне («Вячэрні Мінск» і «Вечерний Минск», «Калгасная праўда» і «Колхозная правда», абласныя газеты), апісанне зроблена паводле беларускага варыянта. Творы пісьменніка, напісаныя ім на мовах з лацінскім алфавітам, указваюцца (у межах кожнага года) пасля кірылічных публікацый.

**1.4.** Указаны пераклады, зробленыя пісьменнікам з іншых моў. Спачатку ў храналагічным парадку ўказваюцца перакладзеныя кнігі, а потым — пераклады ў калектыўных зборніках, альманахах і перыёдыцы (кожны год выносіцца ў пачатак абзаца, як у 1.3.). Указваецца (скарочана) мова, на якой напісаны арыгінал (літаратура, да якой ён належыць). Гэтая мова часта разыходзіцца з мовай, з якой рабіўся пераклад (выкарыстанне рускіх перакладаў, падрадкоўнікаў). Прозвішчы перакладзеных аўтараў прыведзены так, як у публікацыі (праўкі тут датычацца толькі правапісу).

**1.5.** Зафіксаваны выяўленыя пераклады твораў пісьменніка на мовы народаў СССР і замежных краін. Паколькі ўстанавіць назву беларускага арыгінала ў большасці выпадкаў (асабліва ў перакладах вершаў) цяжка ці нават немагчыма (беларускія і ўсесаюзныя летапісы указваюць гэтыя назвы ў перакладзе на рускую мову), бібліяграфічная інфармацыя падаецца тут на мове арыгінала (па тэхнічных прычынах у тэксце на мовах народаў СССР апушчаны толькі дыякрытычныя знакі). Выключэнне зроблена для моваў, якія карыстаюцца алфавітамі, адметнымі ад кірылічнага і лацінскага (арабская, армянская, грузінская, карэйская, кітайская, яўрэйская) — у такіх выпадках ўсе звесткі перакладзены на беларускую мову.

Уся інфармацыя ў 1.5. размешчана ў адпаведнасці з алфавітным парадкам назваў моваў (выключэнне зроблена толькі для моваў народаў Югаславіі, якія не дыферэнцыруюцца). Унутры кожнай з моўных падгруп па храналогіі

ўказваюцца кнігі (як у 1.2.), затым — астатнія публікацыі (у тым жа парадку, што і ў 1.3., але без дзялення па гадах). У інфармацыі, набранай лацінскім шрыфтам, жанравае вызначэнне творам не даецца, а замяняльнікі «Яго ж» і «Там жа» не ўжываюцца. Прозвішча перакладчыка падаецца ў назоўным склоне.

**1.6.** Указаны кнігі і іншыя публікацыі, дзе пісьменнік выступае як рэдактар, складальнік і інш. У кожным выпадку ўказваецца, якую канкрэтную работу выканаў ён пры падрыхтоўцы выдання. Рэцэнзіі на такія кнігі, як правіла, не прыводзяцца. Не ўказваюцца выданні, адрэдагаваныя па службоваму абавязку (як выдавецкім работнікам). Перавыданні падручнікаў аб'ядноўваюцца (указваюцца толькі крайнія гады).

У частцы 2 змешчана інфармацыя пра літаратуру, прысвечаную пісьменніку. Спачатку указваюцца бібліяграфічныя апісанні яго твораў **(2.1)**, потым — прысвечаныя яму манаграфіі, зборнікі ўспамінаў, аўтарэфераты дысертацый **(2.2.)**, артыкулы ў зборніках і перыядычных выданнях **(2.3.)**, мастацкія творы, прысвечаныя пісьменніку або напісаныя на падставе яго твораў **(2.4.)**. Прынцып размяшчэння твораў моўна-алфавітны. У кожнай падгрупе яны спачатку падзяляюцца паводле алфавіта моў, на якіх яны апублікаваны (як і ў 1.5), а ўнутры кожнай падгрупы — паводле алфавіта прозвішчаў аўтараў і назваў артыкулаў (публікацыі, падпісаныя ініцыяламі ці крыптанімамі, выносяцца наперад). Калі існуе некалькі публікацый аднаго і таго ж артыкула (мастацкага твора), то ўказваецца апошняя, найбольш аўтарытэтная (напрыклад, у зборы твораў). Паколькі аналітычны аналіз бібліяграфічнага матэрыялу не ўваходзіў у задачы аўтараў слоўніка, то асобна ўказаны публікацыі аднаго і таго ж артыкула, якія розняцца паміж сабой назвамі (загалоўкамі). У 2.3 і 2.4 падзагалоўкі ў назвах кніг і артыкулаў апускаюцца. У 2.4 апушчаны эпіграмы і пародыі.

У апошняй частцы **(3.1)** указаны асноўныя рукапісныя матэрыялы — як самога пісьменніка, так і прысвечаныя яму. Звесткі тут размешчаны ў алфавітным парадку сховішчаў. Пры апісанні архіўных матэрыялаў указваецца справа (спр.), бібліятэчных рукапісаў — адзінка захавання (адз. зах.).

Бібліяграфічныя раздзелы артыкулаў заснаваны на фундаментальнай рэтраспектыўнай картатэцы, створанай у 1983—86 у Інстытуце літаратуры імя Янкі Купалы АН БССР, у якой налічваецца каля 800 тысяч адзінак інфармацыі. Апрача асобных кніжных выданняў твораў пісьменнікаў для гэтай картатэкі распісаны (пераважна de visu) змест калектыўных зборнікаў, альманахаў, літаратуразнаўчых манаграфій, газет і часопісаў, якія выходзілі на беларускай мове на тэрыторыі Беларусі і за яе межамі, а таксама выданняў на іншых літаратурных мовах Беларусі, перакладаў твораў беларускіх пісьменнікаў і даследаванняў (артыкулаў) пра іх, якія з'явіліся ў друку саюзных рэспублік і за мяжой. Акрамя крыніц, якія захоўваюцца на Беларусі, былі выкарыстаны кніжныя, часопісныя, газетныя і рукапісныя зборы з бібліятэк, архіваў і музеяў Масквы, Ленінграда, Вільнюса, Кіева, Рыгі, Варшавы, Берліна, Сафіі і Лондана, дзе працавалі члены аўтарскага калектыву. Істотна ўзбагацілі картатэку нацыянальныя бібліятэкі і кніжныя палаты ўсіх саюзных і некаторых аўтаномных рэспублік, а таксама замежных краін, якія прыслалі звесткі пра пераклады (за гэта выказваем ім шчырую ўдзячнасць). Вялікую дапамогу калектыву аказалі кафедра бібліяграфіі Мінскага інстытута культуры, Кніжная палата БССР, Дзяржаўная бібліятэка СССР імя У. І. Леніна, Дзяржаўная бібліятэка БССР імя У. І. Леніна. De visu супрацоўнікамі Інстытута літаратуры быў распісаны змест такіх выданняў, як «Наша ніва», «Полымя», «Маладняк», «Узвышша», «Маладосць», «Беларусь», «Неман», «Літаратура і мастацтва» і інш. Побач з тым звесткі пра публікацыі ў агульнапалітычных, маладзёжных і дзіцячых газетах давялося браць з беларускіх і ўсесаюзных летапісаў друку, якія павінны падзяліць з намі адказнасць за магчымыя памылкі. Не распісваліся для картатэкі раённыя і шматтыражныя газеты, гектаграфаваныя выданні, якія прыраўнаваны да рукапісаў.

Нягледзячы на старанныя пошукі, многія нумары беларускіх перыядычных выданняў і паасобныя зборнікі не выяўлены ні ў Беларусі, ні за яе межамі. Гэты істотны прагал часткова запаўняўся за кошт розных даваенных бібліяграфій і картатэк, таксама няпоўных і недасканалых.

Вялікую работу па стварэнні картатэкі правялі супрацоўнікі інстытута А. Атаева, М. Барташэвіч (сакратар бібліяграфічнай групы), П. Васючэнка,

Я. Гарадніцкі, В. Грышкевіч, А. Гурская, Т. Дасаева, Г. Дубянецкая, У. Ківатыцкі, Г. Кісялёў, В. Козіч, У. Ларчанка, А. Мальдзіс, У. Мархель, Т. Махнач, Г. Рэўт, В. Смольская, Т. Тарасава, Я. Янушкевіч. На грамадскіх пачатках картатэку істотна дапоўнілі М. Абала (Рыга), І. Алуф (Полацк), Т. Андрэйчанка (Мінск, пераклады ў Чэхаславакіі), Т. Бэрд (Нью-Йорк), Ц. Ванкава (Сафія), А. Гардзіцкі, Т. Голуб (Мінск), Л. Даговіч (Масква), А. Жлутко (Мінск), М. Зіма (Прага), А. Калганава (Масква), У. Кароткі (Мінск), М. Ланюс (Берлін), А. Лапінскене (Вільнюс), А. Людчык (Ташкент), Н. Ляшковіч (Вільнюс), Л. Мазанік, Э. Мартынава (Мінск), З. Мельнікава (Брэст), Б. Мельцар (Мінск), Ю. Мыцык (Днепрапятроўск), А. Ненадавец (Бабруйск), В. Няфёдаў (Мінск, пераклады ў Індыі), В. Русілка (Віцебск), У. Сіўчыкаў (Мінск, пераклады ў Грузіі), У. Стохель (Варшава), Г. Старожык (Берлін), Сюй Чанхань (Харбін), Ю. Трачук (Варшава), Л. Ферэнчы (Будапешт), В. Целеш (Рыга), В. Чамярыцкі, І. Чарота (пераклады ў Югаславіі), С. Шупа, К. Шэрман (Мінск) і інш. Некаторыя звесткі пра рэпрэсіраваных пісьменнікаў атрыманы ад пісьменніка Э. Белтава (Масква). У рэдагаванні пісьменніцкіх біяграфій прымалі ўдзел (апрача членаў рэдкалегіі) Г. Кісялёў, М. Мушынскі, І. Саверчанка, В. Чамярыцкі і інш. Удакладненні па бібліяграфіі дапамагалі рабіць бібліятэчныя работнікі Н. Адамчык, І. Суворава, М. Ягель. Ілюстрацыйны матэрыял — з архіваў выдавецтва «БелСЭ», Інстытута літаратуры, асабістых архіваў пісьменнікаў.

Як і ў кожным выданні такога тыпу, у Слоўніку несумненна будуць бібліяграфічныя пропускі і недакладнасці (хаця б з-за таго, што не выяўлены і не распісаны ўсе крыніцы). Іх пажадана запоўніць і выправіць. Таму рэдкалегія звяртаецца да чытачоў з просьбай прысылаць свае заўвагі, каб зрабіць адпаведныя дапаўненні і ўдакладненні ў апошнім томе выдання.

# А

## АБУХОВІЧ АЛЬГЕРД

*Абуховіч Альгерд (Альгерд-Якуб) Рышардавіч [псеўд. Граф Бандзінелі; 25.7(6.8).1840, в. Калацічы Бабруйскага пав. Мінскай губ., цяпер Глускага р-на Магілёўскай вобл. — 10(22).8.1898, Слуцк], паэт, мемуарыст, перакладчык.*

Паходзіў з багатай і радавітай памешчыцкай сям'і, якая была ў сваяцтве з вядомым італьянскім графскім родам Бандзінелі, што даў свету нямала знакамітых гістарычных асоб, у тым ліку выдатнага скульптара Бандзінелі Бачо (працаваў у 16 ст. ў Фларэнцыі) і нават папу рымскага Аляксандра III Бандзінелі (12 ст.). А. Абуховіч ганарыўся неардынарнасцю свайго роду (адсюль яго псеўданім). На схіле дзён, жывучы ў вялікай беднасці, ён адзначаў у сваіх мемуарах: «Я падпісваюся на маіх беларускіх творах «Граф Бандзінелі»; гэта прозвішча маёй бабкі, апошняй з гэтага роду... Пазываючыся ў подпісы на дзядоў сваіх, грудзі мае парушае пачуццё нечага вялікага, сільнага...» (Беларуская літаратура XIX ст.: Хрэстаматыя. Мн. 1971. С. 287—288). Імёны продкаў пісьменніка не адзін раз згадваюцца ў гісторыі краю. У 17 — пачатку 18 ст. род Абуховічаў вылучыў некалькі відных дзяржаўных і ваенных дзеячаў Вялікага княства Літоўскага, якія пакінулі таксама след у літаратуры, былі аўтарамі цікавых дыярушаў (аднаму з іх адрасаваны вядомы сатырычны «Ліст да Абуховіча»). Дзед Альгерда Юзаф Абуховіч быў шамбелянам (камергерам) польскага двара, удзельнічаў у паўстанні Т. Касцюшкі, пасля чаго хаваўся некалькі гадоў на Украіне; прычыніўся ён і да паўстання 1830—31. Бацька пісьменніка меў тытул суддзі Мазырскага пав., яму належалі буйныя маёнткі Калацічы ў Бабруйскім і Грабава ў Мазырскім паветах. «...Тысяча «душ» людзей мелі працаваць на хлеб для маладога Ольдзі...»,— з поўнай падставай адзначалася ў мемуарах пісьменніка (Там жа. С. 284). А. Абуховіч атрымаў добрае хатняе выхаванне. Выдатна валодаў французскай, італьянскай, англійскай і нямецкай мовамі, лёгка чытаў па-іспанску. Адным з яркіх уражанняў дзяцінства была паездка ў Кіеў у 1852, дзе хлопчыку зрабілі даволі складаную на той час хірургічную аперацыю (ён меў ад нараджэння «заечую губу»). Увосень таго ж 1852 Альгерд паступіў у Слуцкую кальвінскую гімназію. Маці, Караліна Абуховіч (з роду Эсткаў), спецыяльна пераехала на гэты час на жыццё ў Слуцк. Навучанне ў гімназіі супала з часам вялікага грамадскага ўздыму ў краіне, які адыграў вырашальную ролю ў фарміраванні дэмакратычнага светапогляду будучага пісьменніка. «Растучы, я развіваўся, а перада мною штораз харашэй рассцілаўся свет... настаді часы, аб каторых можна сказаць, што людзей нікчэмных яны не бачылі»,— пісаў ён пазней у сваіх мемуарах (Там жа. С. 285). У гімназіі А. Абуховіч правучыўся некалькі год, але не скончыў яе. У юнацкія і маладыя гады шмат падарожнічаў, жыў у Жэневе і Парыжы, дзе сустракаўся з многімі выдатнымі людзьмі таго часу, у тым ліку з кіраўнікамі польскай эміграцыі А. Чартарыскім і Л. Мераслаўскім, прычым праніклівa разгледзеў адмоўныя рысы апошняга. У Жэневе ўмацавалася цікавасць А. Абуховіча да кальвінскага вучэння. У 1862 пісьменнік некалькі разоў прыязджаў у Вільню, ёсць няпэўныя звесткі пра сувязі яго з У. Сыракомлем. Паводле некаторых звестак, не пацверджаных пакуль што архіўнымі крыніцамі, А. Абуховіч удзельнічаў у паўстанні 1863—64, быў сасланы (у гэтай сувязі называецца нават Сібір, што выклікае сумненні). Вядома, што ў другой палове 60-х гадоў пісьменнік ажаніўся (жонка ў 1873 памерла), у 1878 зноў наведаў Кіеў. У мемуарных крыніцах (успаміны Я. Дылы) гаворыцца пра рэзкі канфлікт А. Абуховіча са сваякамі і памешчыцкім асяроддзем: пісьменнік хацеў усю зямлю аддаць сялянам, і яму прыгразілі, што аб'явяць яго вар'ятам. Тады ён пакінуў родны дом, забраўшы з сабой толькі любімыя кнігі. Гэта здарылася, як можна зразумець з успамінаў Я. Дылы, каля 1876. Спачатку А. Абуховіч жыў у свайго прыяцеля — удзельніка паўстання 1863—64 Расудоўскага (маёнтак Курганы на Случчыне), потым перабраўся ў Слуцк. Цікава, што паводле афіцыйных дакументаў за А. Абуховічам яшчэ ў 1884 лічыліся маёнткі Калацічы і Заполле ў Бабруйскім пав. (1362 дзесяціны зямлі), якія ацэньваліся амаль на 25 тыс. руб. Але яны былі закладзены ў Віленскім зямельным банку (сума доўгу — каля 14 тыс. руб.). Асобна ў закладных дакументах называўся бацькоўскі маёнтак Грабава (1876 дзесяцін, ацэнка каля 17 тыс. руб., доўг каля 10 тыс.

руб.) Неаднаразова ў газетах аб'яўляўся продаж гэтых маёнткаў за даўгі (калі продаж адбыўся — невядома). Паводле ўспамінаў Я. Дылы, А. Абуховіч туліўся ў Слуцку бедным кватарантам ва ўладальніцы невялікага доміка Федаровіч на Іванаўскай вул. (цяпер вул. Р. Люксембург). Адзіным яго багаццем была вялікая шафа з кнігамі. З ім падтрымлівалі сяброўскія адносіны згаданы Расудоўскі, а таксама другі ўдзельнік паўстання 1863—64 — К. Аколаў. Збіраліся вакол яго і маладыя сябры, з асяроддзя якіх выйшла нямала дзеячаў вызваленчага руху, культуры, навукі: Я. Дыла, П. Карповіч, І. Чудоўскі, А. Ярэміч і інш. А. Абуховіч быў знаёмы з Ф. Багушэвічам, паказваў яму свае творы, абмяркоўваў з ім пытанні развіцця беларускай літаратурнай мовы, прысвяціў яму чатырохрадкоўе «У гаворцы ёсць ружніца...». І спосабам жыцця, і светапоглядам пісьменнік быў шчырым дэмакратам. У прыватнасці, лічыў, што няўдача паўстання 1863—64 заключалася ў тым, што землеўласнікі баяліся ўзняць на паўстанне беларусаў-сялян, бо тады трэба было б аддаць ім зямлю.

А. Абуховіч увайшоў у гісторыю беларускай літаратуры як пісьменнік-рэаліст, адзін з заснавальнікаў жанру байкі, мастацкай прозы і мемуарыстыкі. На жаль, пры жыцці яго творы не друкаваліся і да нас дайшла невялікая частка яго творчай спадчыны: байкі «Ваўкалак», «Старшына», «Суд», «Воўк і Лісіца», верш «Дума а Каралю XII», мемуары (фрагменты?), дзе А. Абуховіч часам цытуе некаторыя свае іншыя вершы. У байках ён не толькі абапіраўся на вопыт І. Крылова (часткова непасрэдна наследаваў яму), але здолеў напоўніць гэты жанр новым зместам, узняць новыя тэмы і праблемы (напрыклад, праблема свабоды асобы ў «Ваўкалаку»). Пісьменнік па-майстэрску пераклаў на беларускую мову творы многіх паэтаў свету (І. В. Гётэ, Ф. Шылер, В. Гюго, Дж. Байран, А. Дантэ, А. Пушкін, М. Лермантаў, А. Міцкевіч, М. Канапніцкая, У. Сыракомля), але пераклады, на жаль, не зберагліся. Асобнае месца ў творчасці А. Абуховіча займаюць мемуары (пісаліся ў 1894 у Слуцку і часткова ў Зарэччы на Глушчыне) — нязмушанае пісьменніцкае апавяданне пра сябе і сваю эпоху, напоўненае роздумам пра час, літаратуру, вечныя праблемы чалавечага жыцця.

Пісьменнік пахаваны на могілках у Слуцку (помнік адшуканы ў 1966 краязнаўцам Р. Родчанкам). Архіў А. Абуховіча не захаваўся. Асобныя рукапісы-аўтографы ў ЦБ АН Літвы і Нацыянальнай бібліятэцы ў Варшаве. *Г. В. Кісялёў.*

## Бібліяграфія


1.3.

**1914.** Ваўкалак; Старшына: [Байкі] // Беларускі каляндар на 1915 год. Вільня.

**1916.** Суд; Воўк і лісіца: [Байкі] // Родныя зярняты. Вільня; З папераў Альгерда Абуховіча: [З мемуараў] // Гоман. 6, 9, 13, 16, 20, 23, 27, 30 чэрв.; З папераў Альгерда Абуховіча; Дума а Каралю XII: [Верш] // Там жа. 1 жн.

**1919.** Суд: [Байка] // Родны край: Другая пасля лемантара кніга для чытання / Скл. Л. Чарняўшчынка. Вільня.

**1921.** Ваўкалак; Старшына: [Байкі] // Дэкламатар. Вільня; Воўк і лісіца; Суд: [Байкі] // Родны край: Другая пасля лемантара кніга да чытання. 2 выд. Мн.; Воўк і лісіца; Суд; Старшына: [Байкі] // Родны край. Вільня; Ваўкалак; Старшына: [Байкі] // Бел. вед. 7 ліст.

**1923.** Ваўкалак; Старшына: [Байкі]; З мемуараў // Гарэцкі М. Хрэстаматыя беларускае літаратуры. Вільня; Воўк і лісіца; Суд; Старшына: [Байкі] // Родны край: Другая пасля лемантара кніга да чытання. Выд. пераробл. Вільня, 1923; Вільня, 1929.

**1924.** Ваўкалак: [Байка] // Беларускі дэкламатар. Мн.

**1956.** Ваўкалак; Старшына: [Байкі]; З папераў А. Абуховіча: [Успаміны] // Беларускія пісьменнікі другой паловы XIX стагоддзя. Мн.

**1958.** Старшына: [Байка] // Ніва. 18 мая.

**1961.** Ваўкалак; Старшына: [Байкі] // Анталогія беларускай паэзіі: У 3 т. Мн. Т. 1.

**1971.** Ваўкалак; Старшына: [Байкі]; Мемуары // Беларуская літаратура XIX стагоддзя: Хрэстаматыя. Мн.

**1978.** Літаратурнае апраўданне: [Урыўкі] // Уводзіны ў літаратуразнаўства: Хрэстаматыя. Мн.

1.5.

**На рускую мову.** Волкулак; Староста: [Байкі] / Пер. В. Алексеев // Белорусские басни. Л., 1959.

**На татарскую мову.** Староста: [Байка] /Нури тэрж.// Казан утлары. 1980. № 1.

2.2.

**На беларускай мове.** Родчанка Р. Альгерд Абуховіч-Бандынэлі: Нарыс жыцця і творчасці. Мн., 1984. Рэц.: Сідарэвіч А. Неад'емная частка карціны // Полымя. 1985. № 10.

2.3.

**На беларускай мове.** Альгерд Абуховіч// Пачынальнікі. Мн., 1977; Барысенка В. Францішак Багушэвіч і праблема рэалізма ў беларускай літаратуры XIX стагоддзя. Мн., 1957. С. 171—173; Гарэцкі М. Альгерд Абуховіч // Гарэцкі М. Гісторыя беларускай літаратуры. Вільня, 1920; 2 выд. Вільня, 1921; 3 выд. Вільня, 1924; 4 выд. Мн., 1926; Гісторыя беларускай дакастрычніцкай літаратуры: У 2 т. Мн., 1969. Т. 2. С. 83—84; Гісторыя беларускай літаратуры: XIX — пачатак XX ст. Мн., 1981. С. 97—99; Гулевіч Я. 1709—1916 // Гоман. 1916. 1 жн.; Дыла Я. Пісьменнік-дэмакрат Альгерд Абуховіч // Дыла Я. Творы. Мн., 1981; Казека Я. Беларуская байка. Мн., 1960. С. 44—47, 63—64, 71—72; Яго ж. Няходжанай дарогай. Мн., 1973. С. 36—39, 52—53; Каханоўскі Г. Альгерд Абуховіч на тэлеэкране // ЛіМ. 1981. 5 чэрв.; Кісялёў Г. Абуховіч // Там жа. 1981. 9 кастр.; Яго ж. Дзекабрыст у мемуарах Абуховіча//Кісялёў Г. Героі і музы. Мн., 1982; Кулеша Т. [Дыла Я.]. Пісьменнік-дэмакрат Альгерд Абуховіч//Пачынальнікі. Мн., 1977; Лойка А. Гісторыя беларускай літаратуры: Дакастрычніцкі перыяд. Мн., 1977. Ч. 1. С. 214—217; Майхровіч С. Альгерд Абуховіч//ЛіМ. 1956. 24 ліст.; Яго ж. Нарысы беларускай літаратуры XIX стагоддзя. Мн., 1957. С. 381—388; Мн., 1959. С. 287—294; Мальдзіс А. Па слядах архіва Абуховіча // Мальдзіс А. Падарожжа ў XIX стагоддзе. Мн., 1969; Яго ж. Сляды продкаў // ЛіМ. 1970. 23 кастр.; Яго ж. Таямніцы старажытных сховішчаў. Мн., 1974. С. 26—27; Родчанка Р. Горад жыў неспакоем // ЛіМ. 1976. 19 сак.; Яго ж. З гуртка Альгерда Абуховіча // Там жа. 1984. 19 кастр.; Яго ж. Магіла Альгерда Абуховіча // Там жа. 1966. 11 ліст.; Яго ж. Па слядах Альгерда Абуховіча // Там жа. 1976, 10 вер.; Яго ж. Паплечнікі Альгерда Абуховіча // Там жа. 1967. 4 крас.; Яго ж. Усталяванне адной даты // Беларуская літаратура. Мн., 1979. Вып. 7; Родчанка Р., Матусевіч Т. Жыццё Альгерда Абуховіча // Маг. праўда. 1973. 23 ліст.; Семяновіч А. Проза Якуба Коласа: (Дакастрычніцкі перыяд). Мн., 1953. С. 33—34; Содаль У. Пясняр шукае песняра // ЛіМ. 1980. 1 жн.

На рускай мове. История белорусской дооктябрьской литературы. Мн., 1977. С. 372—373; Карский Е. Белорусы. Пг., 1922. Т. 3. Вып. 3. С. 76—77, 376, 446.

На Югаславіі мове. Dren I. O Belorusih in beloruskem slovstvu // Luc. 1933. Br. IX.

3.1.

Нац. б-ка ў Варшаве (ПР), аддз. рукап., адз. зах. 2981; ЦБ АН Літвы, ф. 21. адз. зах. 431; ЦДГА БССР (Мінск), ф. 319, воп. 2, спр. 2292; ЦДГА СССР (Ленінград), ф. 1343, воп. 26, спр. 300.

*Г. І. Рэут.*

# АБУХОВІЧ МІХАЛ

***Абуховіч Міхал Лявон (год і месца нараджэння невядомы — 16.10.1668), мемуарыст, дзяржаўны і ваенны дзеяч Вялікага княства Літоўскага.***

Нарадзіўся ў шляхецкай сям'і Піліпа Казіміра *Абуховіча* і Софіі Абрынскай. З дакументаў відаць, што ў 1645 вывучаў філасофію ў Віленскай езуіцкай акадэміі, пісаў панегірычныя вершы. Пасля заканчэння вучобы стаў давераным дваранінам у свіце караля Яна Казіміра Вазы, які пасля сейма 1650 паслаў яго да цара Аляксея Міхайлавіча ў Маскву. У 1651, у час нацыянальна-вызваленчай вайны Б. Хмяльніцкага, прымаў удзел у ваенным паходзе супраць яго ў складзе каралеўскіх войск. У жніўні і снежні 1653 ездзіў паслом у Маскву. У 1656 прымаў удзел у бітвах са шведамі пад Варшавай. Пасля смерці бацькі 6.9.1656 камандаваў яго палком. Тады ж атрымаў ад караля маёнткі Цырын (цяпер Карэліцкі р-н) і Гожу (цяпер Гродзенскі р-н). У адным з баёў захапіў частку архіва Я. і Б. Радзівілаў. У 1658 са сваім палком знаходзіўся ў Брэсцкім ваяв., пасля ў Ковелі. Узначаліўшы 8 казацкіх і 5 драгунскіх харугваў, рушыў у бок Літвы. У Брэсцкім ваяв. паміж Мальчам і Блуднам 21.1.1660 адбылася бітва з рускім войскам пад камандаваннем князя П. Хаванскага, у якой атрад М. Абуховіча быў акружаны і разбіты. Паранены, трапіў у палон, быў вывезены ў Маскву. Там яго разам з В. Гансеўскім, палявым гетманам Вялікага княства Літоўскага, таксама захопленым у палон, пасялілі ў адным доме. За час знаходжання ў Маскве двойчы (1661 і 1662) быў прыняты царом Аляксеем Міхайлавічам. У 1662 М. Абуховіча вывезлі ў Смаленск, дзе абмянялі на шэсць рускіх военачальнікаў. Вярнуўшыся на радзіму, паехаў у Свяцк Гродзенскага пав., каб прыняць там землі, падараваныя каралём. У 1662 заняў пасаду мазырскага падкаморага, якая стала вакантнай пасля смерці яго дзядзькі Фёдара Міхала Абуховіча. У 1663 як адзін з дзевяці дэлегатаў сканфедэраванага войска вёў перагаворы з каралеўскімі камісарамі. У 1664 прымаў удзел у паходзе велікакняжацкага войска на Браншчыну. На сейме 1664—65 выступіў з прамовай супраць забойцаў В. Гансеўскага і ў абарону яго ўдавы. Тады ж атрымаў пасаду падкаморага Навагрудскага ваяв. У 1665 і 1666 ездзіў да караля Рэчы Паспалітай як пасол ад велікакняжацкага войска. У 1668 прызначаны стражнікам войск Вялікага княства Літоўскага. У той жа год захварэў у Дарагаве (цяпер Карэліцкі р-н) і пасля працяглай хваробы памёр. Пахаваны ў езуіцкім касцёле ў Навагрудку.

Пасля сябе М. Абуховіч пакінуў два сціслыя дыярыушы на польскай мове. Першы з іх ахоплівае час ад 21.1.1660 да 16.7.1662. У ім пераважна гаворыцца пра палоннае жыццё ў Маскве. Другі дыярыуш пачынаецца 1663 і даведзены да 3.7.1665, заключае ў сабе апісанне ваеннага паходу на Севяршчыну ў 1664. Тэксты гэтых твораў апубліканы М. Балінскім (1859). *А. Ф. Коршунаў.*

## Бібліяграфія

1.3.

**1859.** Dyaryusz Michała Obuchowicza, strażnika WXL // Pamiętniki historyczne. Wilno.

2.3.

**На польскай мове.** Codello. Konfederacja wojskowa na Litwie w l. 1659—1663. Warszawa, 1960. S. 20—46; Relacja obrotów wojennych pod Tykocinem // Przegląd Historyczno-wojskowy. 1938. T. X; Wasilewski T. Obuchowicz Michał Leon // Polski Słownik Biograficzny. Wrocław etc., 1978. T. 2, 3. Z. 3.

3.1.

Гал. архіў стараж. актаў (Варшава, ПР), ф. Радзівілаў, воп. II, спр. 10—1326, 1360, 1362; воп. III, спр. 4; воп. V, спр. 235; Цэнтр. дзярж. архіў стараж. актаў у Маскве, Літоўская метрыка, кн. запісаў 131, л. 48—49, 51—53.

*М. П. Барташэвіч.*

# АБУХОВІЧ ПІЛІП

***Абуховіч Піліп Казімір (год і месца нараджэння невядомы — 6.9.1656), мемуарыст, адрасат і галоўная дзейная асоба «Ліста да Абуховіча», дзяржаўны дзеяч Вялікага княства Літоўскага.***

Шляхецкі род Абуховічаў паходзіў з Валыні, потым перасяліўся ў Мазыр, які адносіўся да Мінскага ваяв. Адна галіна гэтага роду, з якой паходзіў Піліп, асела ў Навагрудскім ваяв., дзе яе прадстаўнікі займалі розныя пасады. Паводле сцверджання гетмана Я. Радзівіла, дзед Піліпа быў возным у Мазыры, а бацька, Фёдар,— мазырскім суддзёй. Адукацыю П. Абуховіч атрымаў у Замойскай акадэміі, з якой вынес добрыя веды па рыторыцы, сведчаннем чаго з'яўляюцца яго прамовы на лацінскай і грэчаскай мовах у гонар П. Замойскага, апублікаваныя ў 1617 у Замосці. Служыў пры двары віленскага ваяводы, канцлера Вялікага княства Літоўскага Л. Сапегі, з родам якога звязаны шматгадовай дружбай. Спадчынным уладаннем П. Абуховіча была в. Ліпа ў Навагрудскім ваяв. (цяпер Нясвіжскі р-н Мінскай вобл.). Службовая дзейнасць яго пачалася з пасады намесніка мазырскага «войскага» (кашталяна). У 1632 быў выбраны паслом ад Мазырскага пав. ў Літоўскі трыбунал, дзе абараняў маёмасныя справы католікаў. На віленскім канвакацыйным сейме 1634 выступаў як прадстаўнік Мазырскага пав., а на сеймах 1638, 1639, 1640, 1645, 1646 — як пасол ад Навагрудскага ваяв. Нейкі час быў у антыкаралеўскай апазіцыі. Як пасол Навагрудскага ваяв. прысутнічаў на канвакацыйным сейме 1648 і быў выбраны прадстаўніком ад Вялікага княства Літоўскага ў савет («раду») пры прымасе (гнезненскім архібіскупе) М. Лубенскім. На выбарчым сейме П. Абуховіча вылучылі маршалкам пасольскай палаты. Тады ж прысутныя ацанілі яго як дзеяча вялікага розуму і рэдкага красамоўства («элаквенцыі»). У цяжкай палітычнай сітуацыі выказаў шмат развагі і вынаходлівасці ва ўладжванні канфліктаў. Захаваліся віншавальныя прамовы П. Абуховіча, звернутыя да караля, а таксама адказы каралеўскім паслам і паслам каралевіча Карла Фердынанда Вазы. З таго часу выступаў як рашучы прыхільнік караля і кіраўнік каралеўскай партыі. На каранацыйным сейме 1649 у Кракаве адкрываў цырымоніі як маршалак папярэдняга сейма. Тады ж быў выбраны ў камісію па перагаворах са Швецыяй. У 1651 прызначаны вялікім паслом ад Вялікага княства Літоўскага да цара Аляксея Міхайлавіча, каб заключыць дагавор з Расіяй супраць татар. У Маскве ён знаходзіўся з сакавіка да чэрвеня 1651. У 1653 кароль Ян Казімір Ваза накіраваў П. Абуховіча з драгунамі пад камандай Г. Дэнгофа пад Сучаву, на дапамогу малдаўскаму гаспадару В. Лупу ў вайне супраць запарожскіх казакаў. У тым жа годзе стаў ваяводам смаленскім, што выклікала супраціўленне гетмана Я. Радзівіла і былога намесніка смаленскага ваяводы П. Вяжэвіча, які не хацеў пусціць П. Абуховіча ў смаленскі замак, узбунтаваў супраць яго салдат. Смаленская шляхта таксама выступіла на сейміку супраць такога прызначэння. Пасля гэтага П. Абуховіч завагаўся і папрасіў караля адмяніць намінацыю. Але кароль абяцаў дапамогу, а мясцовай шляхце загадаў быць паслухмянай. 21.12.1653 ваенны гарнізон смаленскай крэпасці нарэшце адкрыў свае брамы перад новым ваяводам. Паколькі гетман Я. Радзівіл не аказваў ніякай дапамогі, П. Абуховіч сам энергічна ўзяўся за падрыхтоўку Смаленска да магчымай абароны — аднаўляў муры, насыпаў валы, сцягваў у крэпасць правіянт. Аднак, калі ў 1654 пад камандаваннем Аляксея Міхайлавіча рускае войска аблажыла Смаленск, П. Абуховічу не хапіла сіл для абароны. Тым не менш нешматлікі гарнізон праявіў стойкасць і адбіў некалькі штурмаў. Але П. Абуховіч не змог аб'яднаць усіх абаронцаў, праявіць камандзірскія здольнасці. Калі ж да гарнізона дайшлі весткі аб ваенных няўдачах літоўскага гетмана пад Шапялевічамі, а сам П. Абуховіч быў паранены, ён вырашыў здаць Смаленск рускаму цару. Рашэнне аб капітуляцыі прыспешыла і здрада часткі войска і шляхты, якія, не чакаючы завяршэння перагавораў, пакінулі замак і перайшлі ў лагер рускіх. Сам ваявода капітуляваў на выгадных умовах. Ён з рэшткай гарнізона выйшаў пад канвоем да Дуброўны. Частка ж гарнізона перайшла на бок цара. 23.10.1654 П. Абуховіч падпісаў у Докшыцах пратэст супраць «здраднікаў», якія здалі цару крэпасць і прысягнулі яму на вернасць. Нягледзячы на гэта, нядобразычліўцы абвясцілі П. Абуховіча здраднікам. Па руках пачалі хадзіць зласлівыя «пашквілі» і сярод іх «Ліст да Абуховіча», напісаны 6.7.1655 у Тулянах Іванам Цыпрыянам Каманякам (Каманэнькам), дзе сцвярджалася: «Пане Піліпе, лепей табе было сядзець у сваёй Ліпе, а не на ваяводстве смаленскім».

У маі 1655 разам з афіцэрамі смаленскага гарнізона В. Корфам і М. Тызенгаўзам П. Абуховіч быў выкліканы на сейм для апраўдання здачы смаленскай крэпасці. Але паслоў больш хвалявала небяспека шведскай агрэсіі, і яны адклалі разгляд справы да наступнага разу. Часова ж П. Абуховічу адмовілі ў праве засядаць у сенаце. Аднак Ян Казімір Ваза не вінаваціў яго і разам з Сапегамі, заступнікамі ваяводы, імкнуўся абараніць яго. Даючы П. Абуховічу магчымасць даказаць сваю вернасць, кароль даверыў яму камандаванне літоўскімі палкамі ў бітве са шведамі пад Варшавай 1656. У ліпені 1656 П. Абуховіч накіраваўся са сваім атрадам пад Брэст, дзе захварэў і памёр. Пахаваны ў сямейным склепе ў езуіцкім касцёле ў Навагрудку. Толькі стараннямі сыноў П. Абуховіча надзвычайны сейм 1658 апраўдаў яго разам з іншымі абаронцамі Смаленска. Праведзенае сеймавай камісіяй спецыяльнае следства ўстанавіла, што Смаленск капітуляваў не ў выніку змовы П. Абуховіча з рускім царом, а з-за спрыяльнасці Маскве мясцовых жыхароў і дрэннай падрыхтоўкай крэпасці да абароны.

П. Абуховіч пакінуў пасля сябе польскамоўны «Дыярыуш...», які ахоплівае падзеі 1630—54 (апублікаваны ў 1859 М. Балінскім), а таксама запісы пра абарону Смаленска і шляхецкія выбары 1632. Мемуары яго вельмі сціслыя, але прыведзеныя ў іх звесткі запісваліся адразу ж пасля падзей і таму маюць вялікую гістарычную каштоўнасць. У дыярыушы гаворыцца пра войны, пасяджэнні сеймаў, пасольства ў Маскву і пра больш дробныя здарэнні (анамаліі ў надвор'і, хваробы). Услаўляецца дабрачыннасць Сапегаў. Мемуары П. Абуховіча сведчаць пра тое, што ён быў патрыётам аб'яднанай Рэчы Паспалітай, фанатычным католікам, ворагам «рускага хлопства». Бацькаву справу працягвалі сыны П. Абуховіча і яго жонкі Софіі з Абрынскіх — Міхал Лявон і Тодар Іеранім, якія таксама вялі дзённікавыя запісы.

*А. Ф. Коршунаў.*

Мн., 1976. Рэц.: Лецка Я. Пра крытыка і грамадзяніна // ЛіМ. 1977. 17 чэрв.

2.3.

**На беларускай мове.** Гародня А. Тры аркушы бессаромнае фальсіфікацыі // Маладняк. 1929. № 4; Гісторыя беларускай дакастрычніцкай літаратуры: У 2 т. Мн., 1968. Т. 1. С. 36; Глебка П. Нацдэмаўшчына, замаскіраваная марксісцкай фразай: (Пра літаратуразнаўчую працу Бабарэкі) // Узвышша. 1931. № 2, 3; Гніламёдаў У. Традыцыі і наватарства. Мн., 1972. С. 62—63; Дубоўка У. Шчаслівы, што ведаў яго: [Успаміны] // Полымя. 1969. № 10; Жыцень Л. Блакітная анамалія // Сав. Бел. 1924. 24, 26 жн.; За пашырэнне «Маладога аратара» // Малады араты. 1925. № 13; Камінскі М. Ён клікаў да новых вышынь: Да 70-годдзя з дня нараджэння А. Бабарэкі // ЛіМ. 1969. 17 кастр.; Карабан С. Нарысы гісторыі беларускай савецкай крытыкі 20—30-х гадоў. Мн., 1971. С. 10—11, 32—33, 98, 106, 132—133, 146—148, 161—164; Конан У. Адам Бабарэка // Полымя. 1965. № 1; Яго ж. Развіццё эстэтычнай думкі ў Беларусі (1917—1934). Мн., 1968. С. 108—112, 126—132; Яго ж. «Чужых думак не пераказваў...» // ЛіМ. 1965. 1 кастр.; Крапіва К. «Узвышша» на новым шляху // Узвышша. 1931. № 1; Лужанін М. Старэйшы сябар // Лужанін М. З ранку да вечара. Мн., 1978; Мажэйка А. Здольны пісьменнік, удумлівы крытык // Беларусь. 1974. № 10; Мушынскі М. Беларуская крытыка і літаратуразнаўства (20—30-я гады) // Мн., 1975. С. 16—18, 56—57, 117—120, 211—215, 218—219, 237—238, 242—243, 251—254, 256—258, 265—266; Пісьменнікі Савецкай Беларусі: Кароткі даведнік. Мн., 1981; Сідаровіч А. Памяці Адама Бабарэкі // ЛіМ. 1969. 28 кастр.; Собаль В. На заранку новага жыцця // Віцеб. рабочы. 1979. 13 кастр.; Становішча мастацкай літаратуры // Палес. праўда. 1933. 4 крас.; Тычына М. Адзін з першых // ЛіМ. 1979. 12 кастр.; Чыгрын І. Проза «Маладняка». Мн., 1985. С. 11—17, 20-23, 25—26; Шушкевіч С. Мой літаратурны настаўнік // Шушкевіч С. Выбр. тв.: У 2 т. Мн., 1978. Т. 2.

**На рускай мове.** Читатель. Заметки читателя // Звезда. 1926. 5 дек.

3.1.

ЦНБ АН БССР, аддз. рукап., ф. 5, воп. 1, адз. зах. 1, л. 19—20. *Г. І. Рэут.*

# БАГДАНАЎ ЮРЫЙ



*Багданаў Юрый Мікалаевіч (н. 8.8.1944, г. Горкі, цяпер Ніжні Ноўгарад, РСФСР), паэт, крытык, перакладчык. Піша на рускай і беларускай мовах. Член СП СССР з 1989.*

Нарадзіўся ў сям'і служачага. У 1945 сям'я пераехала ў г. Баранавічы, дзе ён атрымаў сярэднюю адукацыю і адначасова скончыў музычную школу (1960). Вучыўся ў Мінскім музычным вучылішчы імя М. Глінкі (1960—64), пасля заканчэння якога выкладаў у Баранавіцкай музычнай школе (1964—71). У 1969—74 студэнт Літаратурнага інстытута імя А. М. Горкага (Масква). У 1974 быў накіраваны ў Дзяржаўны камітэт БССР па кінематаграфіі, у 1975—88 — намеснік начальніка, начальнік аддзела пракату фільмаў Дзяржкіно БССР. Адначасова быў рэдактарам кінабюлетэня «На экранах Беларусі». У лютым — сакавіку 1988 старшы рэдактар кінастудыі «Беларусьфільм». У сакавіку 1988 — студзені 1990 сакратар партыйнай арганізацыі кінастудыі. Са студзеня 1990 вядучы рэдактар Міністэрства культуры БССР. Узнагароджаны Граматай Вярхоўнага Савета БССР і медалём. Член КПСС з 1969.

Першы верш «Паэзія» Ю. Багданава быў надрукаваны ў баранавіцкай раённай газеце «Знамя коммунизма» ў 1964. Потым яго вершы змяшчаліся ў брэсцкай абласной газеце «Заря», часопісе «Неман». Аўтар зборнікаў паэзіі «Прыкмета шчасця», «Рака часу», «Узлётнае поле», «Чырвоная соль», «Бераг сусвету». Першыя два зборнікі прысвечаны роднай зямлі, беларускай прыродзе, працавітым людзям, іх штодзённым клопатам, каханню. Вянок санетаў «Кліч» і паэма «Песня пра Марыю» — успамін пра гераічнае мінулае нашага народа. У наступных зборніках Ю. Багданаў філасафічна асэнсоўвае «вечныя» пытанні жыцця. Яго герой неадрыўны ад свайго першага «ўзлётнага поля», дзе нарадзіўся, вырас, адчуў любоў да Радзімы. Паэта непакоіць прызначэнне чалавечай асобы на зямлі, вытокі яе духоўнага росту. Ю. Багданаў выкарыстоўвае разнастайныя вершаваныя формы — ад трыялета да свабоднага верша, ад вянка санетаў да паэмы. У яго суседнічаюць філасофская і пейзажная лірыка, мініяцюры і бытавыя сцэнкі. Аўтар рэцэнзій на кнігі беларускіх пісьменнікаў. Пераклаў на рускую мову асобныя вершы П. Панчанкі, П. Прыходзькі, А. Вярцінскага, Г. Бураўкіна, А. Разанава і інш., з поль-

скай на рускую — У. Бранеўскага, Ю. Тувіма і інш. Вершы Ю. Багданава пакладзены на музыку І. Лучанком («Верныя мы памяці бацькоў»), Э. Наско («Беларусь, мая шчырая маці...»). Жыве ў Мінску. *Г. М. Урупіна.*

## Бібліяграфія


**1.2.**

Признак счастья: Стихи. Мн., 1974. (Первая книга поэта). Рэц.: А в р у т и н А. Все ритмы земли родной // Неман. 1975. № 8.

Река времени: Стихи и поэма. Мн., 1977. Рэц.: А ў р у ц і н А. Другая спроба... // ЛіМ. 1977. 30 вер.

Взлетное поле: Стихи и поэмы. Мн., 1981.

Красная соль: Стихи. М., 1983.

Берег Вселенной. Мн., 1988.

**1.3.**

**1968.** Осень: [Верш] // Заря. 20 нояб.

**1971.** «Зеленое лето...»; Играет Бах: [Вершы] // Неман. № 10.

**1972.** Знаешь ты...: [Верш] // Сел. газ. 15 окт.

**1973.** Ёсць такое правіла...: Маленькае апавяданне // Мін. праўда. 25 крас.

**1974.** Белоруссии: [Верш] // Дзень паэзіі—74. Мн.

**1975.** Адчуванне рэчаіснасці: [Рэц. на кн.: П р ы х о д з ь к а П. На пераправе. Мн., 1974] // Беларусь. № 8; Цэласнасць: [Рэц. на кн.: В я р ц і н с к і А. З'яўленне. Мн., 1975] // Там жа. № 12; Радость бытия: [Рэц. на кн.: С т р а л ь ц о ў М. На ўспамін аб радасці. Мн., 1974] // Неман. № 4; Жизнь прожить...: [Рэц. на кн.: Б р о в к а П. Пишу о сердце человечьем... М., 1974] // Там жа. № 6.

**1976.** «Земля моя, каким высоким слогом...»: [Верш] // Неман. № 6; Выпрабаванне характару: [Рэц. на кн.: П а в л о в В. Ежелиха; Спелые травы; Нас поле не насеяно. Мн., 1975] // Вяч. Мінск. 20 жн.; «За кожны шчыры дзень...»: [Рэц. на кн.: К а л е с н і к І. Юнацтва. Мн., 1975] // ЛіМ. 11 чэрв.

**1977.** Дачыненне да свету: [Рэц. на кн.: А ў р а м ч ы к М. Радовішча. Мн., 1976] // Беларусь. № 6; Высокое напряжение: [Рэц. на кн.: Ж д а н О. Во время прощания. Мн., 1975] // Неман. № 2; Живое чувство сопричастности: [Рэц. на кн.: И п а т о в а О. Крыло. М., 1976] // Там жа. № 5; [Рэц. на кн.: М е л ь н и к о в А. Спасибо, жизнь!.. Мн., 1977] // Там жа. № 12; Хлеб; «Бежит по улице метель...»; «Школьный двор, пионерские дали...»; [Вершы] // Вяч. Мінск. 24 студз.

**1978.** «Железо гнуть...»; «Старик был худ и прям, как гвоздь...»; «Перевези меня, паром...»; «О войне вспоминая гражданской...»; «Над рощей вечерней сиреневый цвет...»; «Выкапываем тонкие деревья...»; «Хор лягушек за рекою...»: [Вершы] // Вяч. Мінск. 5 кастр.

**1979.** Зямное прыцягненне // Беларусь. № 7; «Железо гнуть...»; «Басовитое пенье шмеля...»; «Песня смолкнет за рекою...»: [Вершы] // Неман. № 9; Целина; «Работа уверенность, силу придает...»: [Вершы] // Вяч. Мінск. 4 ліп.

**1980.** Героі — побач: [Рэц. на кн.: П а р а х н е в і ч М. Прыгарадная камандзіроўка. Мн., 1979] // Беларусь. № 1; Пошук сябе: [Рэц. на кн.: Т ы ч ы н а М. Дажынкі. Мн., 1979] // Там жа. № 12; Шахтеры: [Верш] // Мін. праўда. 26 студз.

**1981.** Сослуживцы: [Верш] // Дзень паэзіі—81. Мн.; Прага жыцця: [Рэц. на кн.: Г а ў р у с ё ў С. Азарэнне. Мн., 1980] // Беларусь. № 8.; Святло бяроз: [Рэц. на кн.: З а к о н н і к а ў С. Пакуль жыве мая бяроза. Мн., 1981] // Маладосць. № 9; Краю роднага рысы: [Рэц. на кн.: Ц в і р к а К. Сцежка дадому. Мн., 1980] // Полымя. № 9.

**1982.** «Прощай, прощай, Высокий берег...»; Фрески XII века: [Вершы] // Дзень паэзіі—82. Мн.; Шаги по земле: [Верш] // Неман. № 1; [Рэц. на кн.: С к о р и н к и н В. Разрешите взлет. М., 1980] // Там жа. № 12.

**1983.** Берег Вселенной: [Верш] // Дзень паэзіі—83. Мн.

**1984.** «Последние капли малины...»: [Верш] // Дзень паэзіі—84. Мн.; Крылья — в небе, а корни — в земле: [Рэц. на кн.: Н я к л я е ў У. Знак аховы. Мн., 1983; Я г о ж. Местное время. М., 1983] // Неман. № 4; [Рэц. на кн.: К а з а к Г. Сегодня на заре. Мн., 1983] // Там жа. № 8.

**1985.** [Рэц. на кн.: Т у л у п а в а Н. Гарывада. Мн., 1984] // Неман. № 1; Исток памяти: [Рэц. на кн.: З а к о н н и к о в С. Встань раньше солнца. М., 1985] // Там жа. № 11.

**1.4.**

**1973.** П р и х о д ь к о П. Курский меридиан: [Верш] / С бел. // Во славу Родины. 15 июня; Я г о ж. Мамаев курган: [Вершы] / С бел. // Вяч. Мінск. 27 жн.

**1975.** П р и х о д ь к о П. Мамаев курган: [Верш] / С бел. // Во славу Родины. 1 июня. *Т. М. Махнач.*


# БАГДАНОВІЧ АДАМ



Багдановіч Адам (Адольф) Ягоравіч [псеўд. А. Б., А. Б-о в и ч, А. Б-в и ч, А. Б о р и с о в с к и й, Г р о д н е н с к и й о б ы в а т е л ь; 20.3(1.4).1862, паводле інш. звестак 25.3(6.4).1862, м. Халопенічы Барысаўскага пав. Мінскай губ., цяпер Крупскага р-на Мінскай вобл.— 16.4.1940, Яраслаўль; пахаваны там жа], этнограф, фалькларыст, мемуарыст. Бацька паэта М. Багдановіча.

З сям'і беззямельнага селяніна, былога прыгоннага, які быў дваровым (кухарам) у памешчыка і пры вызваленні надзелу не атрымаў. У сям'і існавалі багатыя традыцыі народнай культуры. Выдатнай знаўцай народнай творчасці, таленавітай апавядальніцай была бабка Рузаля (Разалія Казіміраўна Осьмак). Маючы ўчэпістую памяць, А. Багдановіч з дзяцінства назапасіў багатыя веды ў галіне беларускага фальклору, якія выкарыстаў пазней у сваіх фальклорна-этнаграфічных працах. Адам Ягоравіч рана спазнаў нястачы, з 7 год быў аддадзены на працу ў маёнтак. Узімку здольны хлопчык паспяхова вучыўся ў пачатковай школе ў Халопенічах і ў Мінску, куды ў пошуках заробкаў часова перабраўся бацька. Пасля заканчэння школы працаваў памочнікам настаўніка ў Халопенічах, вучыўся ў Мінску розным рамёствам (у кандытара, у чыгуначным дэпо і слясарнай майстэрні). У час вучобы ў Нясвіжскай настаўніцкай семінарыі (1879—82) арганізаваў сярод семінарыстаў гурток самаадукацыі. Пасля выпуску з семінарыі быў накіраваны настаўнікам у сельскую школу ў в. Пагарэлае Ігуменскага пав. У той жа час стаў актыўным членам мінскай арганізацыі рэвалюцыянераў-нарадавольцаў. З 1885 загадчык гарадскога пачатковага вучылішча ў Мінску. У 1892 выбраў службу па Сялянскаму зямельнаму банку і пераехаў у Гродна. Пастаянна займаўся самаадукацыяй, у прыватнасці, вывучыў самастойна нямецкую, французскую, польскую, лацінскую, грэчаскую і старажытнаяўрэйскую мовы, што дапамагала яму ў навукова-асветніцкай дзейнасці. Яшчэ ў семінарскія гады А. Багдановіч перадаў некаторыя свае фальклорныя запісы настаўніку П. А. Увядзенскаму, які супрацоўнічаў з вядомым фалькларыстам П. В. Шэйнам. З цягам часу і сам А. Багдановіч стаў непасрэдным карэспандэнтам-супрацоўнікам Шэйна, які надрукаваў у сваіх «Матэрыялах для вывучэння побыту і мовы рускага насельніцтва Паўночна-Заходняга краю» (т. 1—3, 1887—1902) зробленыя А. Багдановічам запісы народных песень, казак, легенд, апісанне абрадаў беларускага вяселля і інш. У 1896, пасля смерці жонкі (Марыі Апанасаўны Мякоты, маці Максіма), быў пераведзены па службе ў Ніжні Ноўгарад, дзе адразу ж увайшоў у кола перадавой мясцовай інтэлігенцыі, пасябраваў з М. Горкім. Неўзабаве блізкія сяброўскія сувязі дапоўніліся сваяцкімі: сястра жонкі Горкага, Кацярыны Паўлаўны, Аляксандра Паўлаўна Волжына стала жонкай Адама Ягоравіча. Яна хутка памерла, але сваяцкія ўзаемаадносіны А. Багдановіча і яго дзяцей з Кацярынай Паўлаўнай захаваліся надоўга. Працуючы ў сялянскім банку ў Ніжнім Ноўгарадзе, Адам Ягоравіч адстойваў інтарэсы сялян, у сувязі з чым выклікаў варожасць у мясцовага дваранства і ў 1907 быў пераведзены ў Яраслаўль, дзе пражыў амаль без перапынкаў да канца жыцця. Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі быў прызначаны кіраўніком Яраслаўскага аддзялення сялянскага банка. Пасля скасавання банка (1920) перайшоў на педагагічную працу — выкладаў у тэхнікумах Яраслаўля. Перапісваўся з М. Горкім. Пайшоўшы ў 1931 на пенсію, яшчэ з большым захапленнем заняўся навуковай працай.

З 1886 А. Багдановіч пачаў выступаць у перыядычным друку (у «Минском листке», «Минских губернских ведомостях», «Гродненских губернских вдомостях», «Виленском вестнике») з артыкуламі па гісторыі і этнаграфіі, народнай асвеце і зямельнаму пытанню, рэцэнзіямі і артыкуламі пра навінкі рускай і заходнееўрапейскай літаратуры, тэатральныя пастаноўкі і інш. Асабліва каштоўныя былі апублікаваныя ім этнаграфічныя працы: «Нарыс становішча жанчыны ў сялянскім асяроддзі беларускага краю», «Педагагічныя погляды беларускага народа» (1896), «Пра паншчыну» (1894). Манаграфія «Перажыткі старажытнага светасузірання ў беларусаў» (Гродна, 1895) атрымала высокую ацэнку рускіх і польскіх вучоных. Звыш 10 год аддаў ён галоўнай сваёй навуковай працы — двухтомнай манаграфіі «Мова зямлі. Утварэнне водарачных імёнаў і вытворных ад іх», у якой раскрыў сувязь рачной і азёрнай наменклатуры краіn Еўропы, Азіі, Паўночнай Афрыкі з глыбокімі этнагенічнымі працэсамі старажытнасці. Нягледзячы на высокую ацэнку вучоных і падтрымку М. Горкага, кнігу ў тагачасных умовах выдаць не ўдалося. На тэарэтычнай аснове гэтай манаграфіі А. Багдановіч напісаў таксама даследаванні «Этнічны склад народаў славянскіх і рускіх», «Этнічны склад беларускага народа» (засталіся ў рукапісах), «Мова зямлі. Насельніцтва Верхняга Паволжа, Акі і Камы» (апубл. у 1966 у Яраслаўлі). Талент Багдановіча — пісьменніка і вучонага — у поўнай меры раскрыўся ў аўтабіяграфічных мемуарах, якія ён пачаў у 1934 і працягваў пісаць да канца жыцця. Гэта мастацкі твор і адначасова даследаванне па этнаграфіі, фальклору, народнай асвеце, культуры і сацыялогіі Беларусі 2-й паловы 19 ст. Выдатным мемуарным помнікам з'яўляюцца і ўспаміны пра М. Горкага (пісаліся ў 1928—35). А. Багдановіч таксама аўтар прац «Рэвалюцыйны рух у г. Мінску і губерні ў 80 і пачатку 90-х гг.», «Да гісторыі партыі «Народнай волі» у Мінску і Беларусі, 1880—1892 г.», «З мінулага мястэчка Халопенічы» (засталіся ў рукапісах).

А. Я. Багдановіч адыграў значную ролю ў станаўленні асобы свайго сына Максіма. Ён захаваў яго рукапісную спадчыну, якую ў 1923 асабіста прывёз у Мінск і перадаў у Інбелкульт. На іх аснове ў 1927—28 былі выдадзены Збор твораў Максіма Багдановіча ў 2-х тамах (самі рукапісы загінулі ў часы Вялікай Айчыннай вайны). А. Багдановіч напісаў таксама каштоўныя ўспаміны пра сына — «Матэрыялы да біяграфіі Максіма Багдановіча» (1923, апубл. у 1960). Уласны архіў і бібліятэка А. Багдановіча моцна пацярпелі ў час пажару ў Яраслаўлі ў 1918. Тое, што захавалася, у тым ліку рукапісы прац А. Я. Багдановіча савецкага перыяду, у 1957 перадалі ў Інстытут літаратуры АН БССР яго сыны Павел і Мікалай. Кнігазбор зберагаецца ў ЦНБ АН БССР.

*Г. В. Кісялёў.*

## Бібліяграфія

**1.2.**

Про панщину: Рассказ из белорусской жизни времен крепостного права. Гродно, 1894. (Отд. оттиск из «Гродн. губ. вед.». 1894).

Пережитки древнего миросозерцания у белоруссов: Этнографический очерк. Гродно, 1895. (Отд. оттиск. из «Науч. обозрения». 1894. № 33). Рэц.: Исторический Вестник. 1896. Кн. 21; Ламанский В.

// Живая старина. 1895. № 3—4; Михневич В. // Новости. 1895. № 230; Научное обозрение. 1895. № 33; Witort J. // Wisła. 1897. Т. 11.

Страницы из жизни Максима Горького; Материалы к биографии Максима Богдановича; Мои воспоминания. Мн., 1965. Рэц.: Булацкі Р. Ён сябраваў з А. М. Горкім // Звязда. 1965. 23 ліп.; Бурьян Б. Приближение поэта // Сов. Бел. 1966. 7 сент.; Есакоў А. Цікавыя ўспаміны // Беларусь. 1965. № 12; Лойка А. Калі ажывае мінулае // Полымя. 1965. № 11; Суприн М. Рукопись стала книгой // Сов. рабочий. 1965. 1 авг.

Язык земли. Ярославль, 1966.

**1.3.**

**1886.** Очерк положения женщины в крестьянской среде Белорусского края // Мин. листок. 19, 22, 29 авг. / Пад крыпт. А. Б.; Педагогические воззрения белорусского народа: Очерк // Там жа. 18 нояб., 5 дек. / Пад крыпт. А. Б.

**1887.** Материалы для изучения быта и языка русского населения Северо-западного края // Сборник ОРЯС. Т. 41. № 3; 1890. Т. 51. № 3; 1893. Т. 57. № 4; Воззрения белоруссов на праздиества пасхи // Мин. листок. 10 апр. / Пад крыпт. А. Б.

**1888.** Униятский вопрос в 1772—1827 гг. // Виленский календарь на 1889. Вильно / Пад крыпт. А. Б.

**1893.** Деревенская драма: (Рассказ из белорусской жизни) // Гродн. губ. ведом. 23, 27 окт., 3 нояб. / Пад крыпт. А. Б-овичъ; Летучие заметки: (Публичной библиотеке) // Там жа. № 77 / Пад псеўд. Гродненский обыватель; «Дзеды»: Этнографический очерк // Там жа. № 94; Летучие заметки // Там жа. № 98, 100.

**1894.** Пережитки древних верований у белоруссов // Научное обозрение. Т. 33—36, 42—45; От редакции: (О задачах провинциальной печати) // Гродн. губ. вед. № 1 / Ананімна; Дучкарь: (Из бел. розсказней) // Там жа. 5 янв. / Пад крыпт. А. Б-ович; Детские приюты в деревне // Там жа. № 10; Про панщину // Там жа. 5, 9 февр., 1 марта; К вопросу о школах грамоты // Там жа. № 12; О необходимости возобновления народных чтений в нашем городе // Там жа. № 14; Отцы и дети в белорусской деревне // Там жа. 16, 23 марта, 23 апр.; О народных чтениях в деревне // Там жа. № 25; К вопросу об открытии у нас народной библиотеки // Там жа. № 28; Об улучшении быта народных учителей // Там жа. № 31; 33; Непонятное недоразумение: (О подыменной торговле) // Там жа. № 37; Школьная страда // Там жа. 11, 15, 22 июня / Пад крыпт. А. Б.; К вопросу о распространении сельскохозяйственных знаний в народе // Там жа. № 52; Летучие заметки: (О санитарном состоянии города) // Там жа № 56; К проекту об учреждении курсов пчеловодства для учителей церковно-приходских школ Гродненской губ. // Там жа. № 57; Деревенская темнота. Поверия, суеверия, предрассудки: Этнографический очерк // Там жа. № 58, 63; Насущная потребность сельского хозяйства в Гродненской губернии // Там жа. 31 авг. / Пад крыпт. А. Б.; Об учителях для церковно-приходских школ // Там жа. № 72; К пересмотру законодательства о крестьянах: (О праве участия женщин в сходах) // Там жа. № 75; Пережитки в миросозерцании белорусов // Мин. листок. 27 сент.

**1895.** Спорный вопрос крестьянского самоуправления: (Об обложении мирскими сборами земель шляхетских и помещичьих) // Гродн. губ. ведом. № 2; К вопросу о фельдшеризме и знахарстве // Там жа. № 3, 4; Пережитки древнего миросозерцания у белорусов: (Этнографический очерк) // Там жа. 4, 8, 11, 18 февр., 4, 8, 11, 18, 22, 25, 29 марта, 1, 29 апр., 6, 17, 20, 24 мая, 3, 7, 14 июня; К вопросу о деятельности Гродненского Софийского братства: (Об устройстве читальни и народных чтений) // Там жа. № 15, 16; С Брест-Литовского пожарища // Там жа. № 36 / Ананімна; К вопросу о телесном наказании по приговорам волостных судов: (Из записок и наблюдений волостного писаря) // Там жа. № 48, 50; Помощь самообразованию: (Об организации домашнего чтения) // Там жа. № 73—75; Гастроли Федоровой // Там жа. № 79, 80, 84, 86—88, 90—92, 94, 97; Необходимое дополнение к курсу учительских семинарий: (Сельское хозяйство и элементарные сведения по медицине) // Там жа. № 90.

**1896.** Плоды просвещения // Гродн. губ. вед. № 2, 24, 33; Помощь самообразованию: (По поводу программ чтения для самообразов. Особые отделы Комитета Педагогического музея Военно-учебн. заведен.) // Там жа. № 10; Тарас на Парнасе: Шуточный рассказ в стихах на белорусском языке // Там жа. № 19, 21; Выходы горючего сланца на берегу р. Немана между гор. Гродно и имен. Понемунь // Там жа. № 27; «Романтики» Ростана // Там жа. № 34; Древний могильник: Археологическая заметка // Там жа. № 43; Гастроли Петипа: Любовь и предрассудок; Гувернер Корней Отлегаев // Там жа. № 50; Помощь самообразованию: О деятельности и изданиях Московского комитета по организации домашнего чтения // Там жа. № 71.

**1899.** Потонувший колокол: Сказка-драма Гергардта Гауптмана: Критический очерк // Нижегородский листок. № 42, 43; Об упадке общинного начала // Там жа. № 63 / Пад псеўд. А. Борисовский; Крестьянский банк: Обзор его деятельности в Нижегородской губ. // Там жа. № 153, 156, 160 / Пад псеўд. А. Борисовский; Из скандинавской литературы. «Гергорд Грим» — драматическая поэма Тота Педберга// Там жа. № 207, 213.

**1900.** По Волге, Каме и Белой: Путевые заметки // Нижегородский листок. № 181, 182, 189, 190, 213.

**1921.** Памяти Н. А. Некрасова // Жизнь и труд. № 2.

**1926.** Типические черты переселенческих хозяйств в Ярославской губ. // Наш труд. № 1.

**1936.** Письмо его друга // Сталин. смена. 24 июня; Через полицейские кордоны: Из воспоминаний об А. М. Горьком // Там жа. 26 июня.

**1959.** Воспоминания о Максиме Горьком // Сов. Отчизна. № 3, 4.

**1960.** Материалы к биографии Максима Адамовича Богдановича // Беларуская літаратура: Даследаванні і публікацыі. Мн. Вып. 3.

**1975.** Материалы к биографии Максима Адамовича Богдановича; Перапіска А. Я. Багдановіча пра спадчыну М. Багдановіча // Шлях паэта. Мн.

**1.4.**

**1895.** Захер-Мозох. Сумасшедший из Фирлеевки: (Из галицийских рассказов) / З франц. // Гродн. губ. ведом. 22 ноября; 1896. 3, 6 янв. / Пер. пад крыпт. А. Б-вич.

**1896.** Конопницкая М. Похороны: Рассказ / С пол. // Гродн. губ. ведом. 31 янв. / Пер. пад крыпт. А. Б-вич.

**1.5.**

**На беларускую мову:** У зімовыя вечары; Янутка-маляр: [Урыўкі з успамінаў] / З рус. // Полымя. 1962. № 3.

**2.2.**

Зуборев Л. И. Крик Буревестника: Ист-докум. повесть о М. Горьком и Богдановичах. Мн., 1989.

Пширков Ю. А. Е. Богданович. Мн., 1966. Рэц.: Бурьян Б. Подвижник // Неман. 1967. № 1; Прашковіч М. Ён варты ўдзячнасці // ЛіМ. 1966. 16 жн.; Юрчанка Г. Народу свайму ўслугуючы... // Полымя. 1966. № 9.

**2.3.**

**На беларускай мове.** Бандарчык В. К. Адам Багдановіч // Голас Радзімы. 1962. № 27; Яго ж. Гісторыя беларускай этнаграфіі XIX ст. Мн., 1964. С. 215—226; Бачыла А. Дарогамі Максіма. Мн., 1971. С. 10—11, 27—31, 38—43, 47—50, 57—64; Выд. 2, перапрац. і дап. Мн., 1983. С. 10—13, 23—34, 36—39, 41—42, 45—58, 64—65, 70—81, 96; Бойка У. Максім Горкі і Адам Багдановіч // ЛіМ. 1959. 19 жн.; Ватацы Н. Яшчэ раз пра эпісталярый А. Я. Багдановіча // Полымя. 1986. № 5; Гарэцкі Г. Горкі і беларускі фальклор // Там жа. 1966. № 6; Гілевіч Н. З клопатам пра песні народа. Мн., 1970. С. 86—88; Грамадска-педагагічная дзейнасць А. Я. Багдановіча // Асвета і педагагічная думка ў Беларусі. Мн., 1985; Дамінікоўскі Ф.

Этнограф Адам Багдановіч // Беларусь. 1947. № 3. Зубараў Л. Пешкавы і Багдановічы // Маладосць. 1988. № 1; Казлоўскі А. Сябра М. Горкага // Мін. праўда. 1982. 29 ліп.; Колас Я. Ліст А. Багдановічу // Колас Я. Зб. тв.: У 14 т. Мн., 1977. Т. 13; Ларчанка М. Па шляху рэалізма. Мн., 1959. С. 102—106; Лойка А. Выдатны беларускі вучоны: Да 100-годдзя з дня нараджэння А. Я. Багдановіча // ЛіМ. 1962. 23 сак.; Пшыркоў Ю. Максім Горкі і Адам Багдановіч // Полымя. 1968. № 3; Садоўскі Я. Краязнаўчы пошук А. Багдановіча // Голас Радзімы. 1984. 22 ліст.; Яго ж. Настаўнік-этнограф // Наст. газ. 1970. 31 студз.; Стральцоў М. Ад Максіма кніжніка пачатак: Нарысы // Полымя. 1968. № 9; Яго ж. Загадка Багдановіча. Мн., 1969. С. 14—31; Шыханцова В. А. Я. Багдановіч аб настаўніку // Веснік БДУ. Сер. 4. 1976. № 3; Яе ж. А. Я. Багдановіч як педагог // Нар. асвета. 1978. № 5; Яе ж. Пытанні народнага выхавання ў работах А. Я. Багдановіча // Веснік БДУ. Сер. 4. 1976. № 1.

На рускай мове. Березкин Г. Человек на заре. Рассказ о Максиме Богдановиче — белорусском поэте. М., 1970. С. 5—13; Ефимова Н. Библиотека А. Е. Богдановича // Книга в Белоруссии. Книговедение, источники, библиография. Мн., 1981; Калач Е. Пережитки древнейших верований и обрядов у белорусов (по работам А. Е. Богдановича) // IX Всесоюзная студенческая этнографическая конференция: Краткие тезисы. 4—7 мая 1972 г. М., 1972; Крень И., Пширков Ю. Адам Егорович Богданович // Богданович А. Страницы из жизни Максима Горького; Материалы к биографии М. Богдановича; Мои воспоминания. Мн., 1965; «Литература у нас крайне серьезное дело»: Из писем А. М. Горького // ЛГ. 1986. 25 июня; Рощин И. «По мере сил и возможностей...» // Неман. 1966. № 10; Степунин И. История одной легенды // Неман. 1970. № 8; Шиханцова В. Взгляд А. Е. Богдановича на школу и воспитание // Педагогика. 1980. Вып. 18.

3.1.

Інстытут літаратуры АН БССР, рукап. фонд № 1, ф. А. Багдановіча, адз. зах. 1—88; ЦНБ АН БССР, аддз. рукап., ф. 5, воп. 1. адз. зах. 1, л. 24—25.

*З. У. Драздова.*

## БАГДАНОВІЧ ІРЫНА



*Багдановіч Ірына Эрнстаўна (н. 30.4.1956, Ліда Гродзенскай вобл.), паэтэса, літаратуразнавец, крытык. Кандыдат філалагічных навук (1985). Член СП СССР з 1989.*

Нарадзілася ў сям'і інжынераў. Маці памерла, калі Ірыне было 14 гадоў. З двухгадовага ўзросту яна жыла ў Гомелі, выхоўвалася ў дзеда і бабулі (бацькавы бацькі), якія былі для дзяўчынкі і выхавацелямі, і дарадцамі, і апекунамі на працягу дзяцінства і юнацтва. У 1973 І. Багдановіч скончыла сярэднюю школу і паступіла на гісторыка-філалагічны факультэт Гомельскага універсітэта (скончыла ў 1978). Вучылася ў аспірантуры пры інстытуце літаратуры АН БССР (1978—83), дзе зараз працуе навуковым супрацоўнікам.

Першая публікацыя — верш «Лялька» у газеце «Гомельская праўда» (1973). У студэнцкія гады пачала пісаць па-беларуску, друкавалася ў часопісах «Полымя», «Неман», «Маладосць», «Работніца і сялянка», газетах «Літаратура і мастацтва», «Чырвоная змена» і інш. Першая кніга паэзіі — «Чаравікі маленства» (1985). Трывогі і клопат сучаснасці, праблемы экалогіі, зямля бацькоў і яе працавітыя людзі, гісторыя і культура беларускага народа — усё гэта ў цэнтры ўвагі паэтэсы.

Выступае таксама з артыкуламі і рэцэнзіямі па пытаннях сучаснага літаратурнага працэсу, займаецца вывучэннем творчасці Я. Купалы, беларускай паэзіі 20-х гадоў, сучаснай паэзіі.

Жыве ў Мінску. *Л. М. Гарэлік.*

### Бібліяграфія

1.2.

Романтические мотивы в дореволюционном творчестве Янки Купалы: Автореферат дисс. ... канд. филол. н. Мн., 1985.

Чаравікі маленства: Вершы. Мн., 1985. Рэц.: Баравікова Р. Разуменне душы чалавечай // ЛіМ. 1985. 6 снеж.; Дзялун М. «Сонца лезе... вешацца» // Там жа. 1985. 6 снеж.; Кажамякін Ц. «Пой-

дзеш заўтра ў свет вялікі» // Гомел. праўда. 1985. 10 вер.; Мінчанка З. «Хай будуць душы розныя...» // Работніца і сялянка. 1985. № 12.

Фрэскі: Вершы і паэма. Мн., 1989.

Янка Купала і рамантызм. Мн., 1989.

1.3.

**1973.** Кукла; Наш старый сад: [Вершы] // Гомел. праўда. 13 студз.; Весенние стихи // Там жа, 3 сак.

**1974.** Чаканне: [Верш] // Гомел. праўда. 10 жн.

**1975.** Мой шлях: [Верш] // Гомел. праўда. 31 мая; Мая Радзіма: [Верш] // ЛіМ. 7 сак.; Мой кут; Сталасць; Родная Рагачоўшчына: [Вершы] // Там жа. 16 мая.

**1976.** Моўны скарб: [Верш] // Гомел. праўда. 2 кастр.

**1977.** Песня роднай старонцы: [Верш] // Гомел. праўда. 17 снеж.; «В зеленой роще мне назавещала...»: [Верш] // Знамя юности. 25 июня (спец. вып.).

**1978.** «Перо мой покой зачеркнуло...»; Родина; «Как узок мир моей мечты...»; Летняя сессия: [Вершы] // Гомел. праўда. 14 студз.

**1979.** Несці людзям — сваё: [Рэц. на кн.: Шклярава Н. Міг і вечнасць. Мн., 1978] // ЛіМ. 7 снеж.

**1980.** Дакрананне сэрцам: [Рэц. на кн.: Якубовіч Л. Я з вамі, вёсны. Мн., 1979] // ЛіМ. 1 лют.; Праз мінуўшчыну — у сучаснасць // Там жа. 31 кастр.; Вышыня купалаўскага сонца: [Рэц. на кн.: Купала Я. Выбранае. Мн., 1980] // Там жа. 21 ліст.

**1981.** «Калі на сумныя дамы...»: [Верш] // Дзень паэзіі—81. Мн.; Мастацкі метад дакастрычніцкай творчасці Янкі Купалы // Весці АН БССР. Сер. грамад. н. № 1.

**1982.** Лялька; Акварэлі; Лясанка: [Вершы] // Полымя. № 5.

**1983.** Структура рамантычнага канфлікту ў паэмах Янкі Купалы // Весці АН БССР. Сер. грамад. н. № 3; Суніцы: (Максіму Багдановічу); Старыя стагі: [Вершы] // Полымя. № 3; Яшчэ толькі ў прадчуванні // ЛіМ. 25 лют.; Шышкі... на бярозах // Там жа. 18 сак.; Не толькі словы...: [Рэц. на кн.: Дудзюк З. Праводзіны птушак. Мн., 1983] // Там жа. 14 кастр.; «Я веру ў тайну абнаўлення...»: [Рэц. на кн.: Грачанікаў А. Палессе. Мн., 1983] // Там жа. 16 снеж.

**1984.** Беларусь; Краіна характва; Маналог чытача да маладога паэта; «Твая далонь назвалася раллёй...» «Аднойчы даверам веснім...»: [Вершы] // Маладосць. № 1; Патрэба заглыбленасці: [Рэц. на кн.: Пісарык А. Белы май. Мн., 1983] // Там жа. № 3; Отсветы огня: [Рэц. на кн.: Арочка М. Курганне. Крэва. Мн., 1982] // Неман. № 3; У полі зроку — рамантызм: [Рэц. на кн.: Казбярук У. Рамантычны пошук. Мн., 1983] // Полымя. № 9.

**1985.** Рамантычны герой адчаю і бунту // Беларуская літаратура. Мн. Вып. 13. *М. П. Барташэвіч.*

# БАГДАНОВІЧ МАКСІМ



Багдановіч Максім Адамавіч [псеўд. Б-ч, М. Б., Максім Б-віч, Максім Крыніца, М. Осьмак, Ек. Февралёва, Ив. Ф-лёв, Ив. Февралёв, Эхо, Зритель, Rion; 27.11(9.12).1891, Мінск — 12(25).5.1917, Ялта; пахаваны там жа] паэт, перакладчык, крытык і гісторык літаратуры. Пісаў на беларускай, рускай і ўкраінскай мовах.

Бацька паэта — вядомы беларускі этнограф, фалькларыст і мовазнавец А. Я. *Багдановіч* — у час нараджэння Максіма працаваў загадчыкам і настаўнікам Мінскага гарадскога пачатковага вучылішча. У кватэры пры вучылішчы (зараз на гэтым месцы дом № 25 па вул. Горкага) і нарадзіўся будучы паэт. Маці паэта — Марыя Апанасаўна Мякота (1869—4.10.1896) скончыла Мінскае Аляксандраўскае вучылішча і некалькі курсаў жаночай настаўніцкай школы ў Пецярбургу. Яна аўтар апавядання «Напярэдадні каляд», змешчанага ў газ. «Гродненские губернские ведомости» (1893, № 102). Акрамя Максіма, у шлюбе А. Я. Багдановіча і М. А. Мякоты было яшчэ трое дзяцей: сыны Вадзім (1890—1908) і Леў (1894—1918) і дачка Ніна (1896—97). У ліпені 1892 сям'я Багдановічаў пераехала з Мінска ў Гродна (Адаму Ягоравічу было прапанавана там новае месца працы ў Сялянскім банку), дзе і прайшлі раннія дзіцячыя гады будучага паэта. Сярод найбольш яркіх уражанняў гэтага перыяду яго жыцця — паездка летам 1895 ў маёнтак Вяззе (зараз Асіповіцкі раён), дзе жыла родная цётка з боку маці і дзе ён акунуўся ў натуральную стыхію беларускай мовы (асяроддзе, у якім выхоўваўся паэт, было ў аснове сваёй рускамоўнае). Калі Максіму было 5 гадоў, ад раптоўных сухотаў памерла яго маці, і ў сярэдзіне лістапада 1896 Адам Ягоравіч з дзецьмі пераехаў ў Ніжні Ноўгарад (куды атрымаў перавод па службе). Выхаваннем асірацелых дзяцей займалася спачатку іх родная цётка Марыя Ягораўна, а пасля другая жонка бацькі — Аляксандра Паўлаўна Волжына. Апошняя неўзабаве таксама памерла, і дзя-

цей даглядала матчына сястра Аляксандра Апанасаўна Мякота, якая ў хуткім часе стала жонкай (спачатку пазашлюбнай) Адама Ягоравіча. Сяброўскія і сваяцкія адносіны Адама Ягоравіча з Максімам Горкім (яго жонкай была сястра А. П. Волжынай Кацярына Паўлаўна), а таксама багатае культурнае асяроддзе горада спрыялі фарміраванню поглядаў і густаў Максіма, абуджэнню ў ім цягі да мастацкай творчасці. Прыблізна у 10—11 гадоў будучы паэт паспрабаваў пісаць на беларускай мове, якой авалодваў самастойна, абапіраючыся на беларускія выданні бацькавай бібліятэкі (пазней хросная маці В. Е. Сёмава выпісала для Максіма беларускія газеты «Наша доля» і «Наша ніва»).

Атрымаўшы грунтоўную хатнюю адукацыю (пачатковай адукацыяй дзяцей займаўся сам Адам Ягоравіч), у 1902 М. Багдановіч паступіў у Ніжагародскую мужчынскую гімназію. Навучанне ішло спачатку паспяхова, але рэвалюцыйныя падзеі 1905—07 і найперш заняткі беларусікай, якая, паводле слоў бацькі, «як не меўшая ніякага дачынення да яго класных заняткаў, хутчэй замінала яго поспехам, чым спрыяла». У 1906—07 Максіма пакінулі ў 4 класе на паўторны курс. Паколькі ў сям'і была пагроза спадчыннага захворвання на сухоты, Адам Ягоравіч неаднаразова прадпрымаў для сваіх дзяцей паездкі ў Башкірыю для кліматычнага лячэння. Першая такая паездка адбылася прыблізна ў 1900 (Багдановічы жылі тады ў в. Караякупава недалёка ад ст. Чышмы), другая — у 1904 у г. Белебей. Самастойна М. Багдановіч наведаў Белебей з той жа мэтай у 1913. У сувязі з пераводам Адама Ягоравіча на новае месца працы, у маі — чэрвені 1908 Багдановічы пераехалі ў Яраслаўль, дзе паэт прадоўжыў сваё навучанне ў гімназіі. Прыблізна з вясны 1909 у Максіма пачаў развівацца ў лёгкіх туберкулёзны працэс, і ўлетку таго ж года ён паехаў на лячэнне ў Ялту (жыў у пансіёне на малочнай ферме «Шалаш» ля Аутки). Тут ён пазнаёміўся з М. А. Кіціцынай (асоба не ўстаноўлена), якой, мяркуецца, прысвечаны вершы «Я, бальны, бескрыдлаты паэт», «Цемень», «Мы гаварым удвух» і інш. Важнай падзеяй у жыцці паэта стала паездка ў Беларусь пасля заканчэння Яраслаўскай гімназіі летам 1911. Ён быў запрошаны супрацоўнікамі рэдакцыі «Наша ніва» — братамі І. і А. Луцкевічамі і з чэрвеня па жнівень жыў у фальварку Ракуцёўшчына (цяпер Маладзечанскі раён), які належаў роднаму дзядзьку братоў — В. Лычкоўскаму. Паводле некаторых звестак, тут было створана 16 вершаў і 2 паэмы, якія пазней склалі паэтычныя цыклы «Старая Беларусь», «Места» і «Мадонны».

Вялікі след у жыцці паэта пакінула Ганна Рафаілаўна Кукуева (1890—1961), сястра аднакласніка М. Багдановіча па гімназіі, знаёмства з якой адносіцца да 1910—12. Вобразам гэтай абаяльнай жанчыны, таленавітай піяністкі, чалавека дасціпнага і разумнага, навеяны такія паэтычныя шэдэўры, як «Вераніка», «Учора шчасце толькі глянула нясмела», «Больш за ўсё на свеце жадаю я» і інш.

М. Багдановіч марыў займацца беларускай філалогіяй у Пецярбургскім універсітэце пад кіраўніцтвам А. Шахматава, але з-за матэрыяльных цяжкасцей гэтым планам не суджана было збыцца. У 1911 ён паступіў у Дзямідаўскі юрыдычны ліцэй (Яраслаўль). Пасля яго заканчэння ў верасні 1916 пераехаў ў Мінск, дзе ўладкаваўся на працу ў губернскую земскую ўправу сакратаром харчовага камітэту. Самы актыўны ўдзел браў ў рабоце Беларускага таварыства дапамогі пацярпелым ад вайны (Мінскі аддзел). У лютым 1917 здароўе М. Багдановіча рэзка пагоршылася, і сябры адправілі яго на лячэнне ў Ялту. Там паэт неўзабаве і памёр (пахаваны на гарадскіх могілках).

Літаратурны дэбют Максіма Багдановіча адбыўся 6.7.1907: у газ. «Наша ніва» было змешчана алегарычнае апавяданне «Музыка». У той жа газеце былі надрукаваны і першыя вершы паэта — «Над магілай» і «Прыйдзе вясна» (1909). Перыяд навучання ў Дзямідаўскім юрыдычным ліцэі быў пазначаны выключна плённай літаратурна-крытычнай і публіцыстычнай дзейнасцю паэта. Ён напісаў гадавыя літаратурныя агляды («Глыбы і слаі», 1911; «За тры гады», 1913), нарысы па гісторыі беларускай пісьменнасці («Кароткая гісторыя беларускай пісьменнасці да XVI сталецця», 1911; «За сто гадоў», 1911; «Беларускае адраджэнне», 1914), дзе з рэвалюцыйна-дэмакратычных пазіцый ацаніў здабыткі сучаснай яму беларускай літаратуры, паказаў яе глыбокія сацыяльна-гістарычныя вытокі. Актыўна выступаў ў рускім і ўкраінскім перыядычным друку (час. «Сатирикон», «Русский экскурсант», «Жизнь для всех», «Национальные проблемы», «Украинская жизнь» і інш.; газ. «Голос»; «Северная газета», «Нижегородский листок»), змяшчаючы ў ім шматлікія рэцэнзіі, публіцыстычныя артыкулы, пераклады і ўласныя мастацкія творы (проза, паэзія). Асобна трэба адзначыць літаратурна-крытычныя даследаванні пра Т. Шаўчэнку («Краса і сіла», «Памяці Т. Р Шаўчэнкі», 1914), у якіх паэт упершыню даследаваў форму паэтычных твораў Кабзара, раскрыў іх сусветнае значэнне. У галіне мастацкага перакладу абапіраўся на пушкінскія прынцыпы творчых адносін да арыгінала, захавання яго нацыянальнага каларыту, ідэйна-эстэтычных вартасцей, паэтычнага стылю (перакладаў на беларускую і рускую мовы). У канцы 1913 у Вільні выйшла адзіная прыжыццёвая кніга М. Багдановіча — паэтычны зборнік «Вянок».

У 1914 М. Багдановіч быў прыняты ў правадзейныя члены «Усерасійскага таварыства дзеячоў перыядычнага друку і літаратуры». У гэтым жа годзе, у сувязі з пачаткам першай сусветнай вайны выйшлі брашуры паэта «Чырвоная Русь», «Угорская Русь» і «Браты-чэхі», прысвечаныя тэме славянства.

З гадамі хвароба ўсё больш давала аб сабе знаць, і ў 1915 М. Багдановіч едзе на лячэнне ў Стары Крым. Уражанні ад гэтай паездкі ляглі ў аснову цыкла нарысаў «З летніх ўражанняў». У гэты цяжкі для Беларусі час былі створаны шэдэўры багдановічавай паэзіі — вершы «Пагоня» і «Страцім-лебедзь», распачата праца над літаратурнай хрэстаматыяй для пачатковай школы. Незадоўга да смерці паэт напісаў вершы «Набягае яно...»; «Пралятайце вы дні», «У краіне светлай, дзе я ўміраю...». Глыбока сімвалічна, што ў апошнія дні свайго жыцця ён працаваў над складаннем беларускага лемантара.

М. Багдановіч — адзін са стваральнікаў беларускай літаратуры і літаратурнай мовы новага часу. Адна з асноўных яго заслуг — узбагачэнне здабыткамі нацыянальнага беларускага мастацтва сусветнай культуры. Ён адзін з першых у роднай літаратуры пачаў распрацоўку такіх складаных вершаваных форм, як санет, актава, тэрцыны,

трыялет, рандо, скерца, імкнучыся сцвердзіць вялікія вобразна-выяўленчыя магчымасці беларускай мовы. З гэтай жа мэтай шырока культываваў мастацкі пераклад, узнаўляючы на нацыянальнай глебе творы антычных, рускіх і заходнееўрапейскіх аўтараў, а таксама ўзоры песень розных народаў свету. Разам з Я. Купалам стаў заснавальнікам пейзажнай і інтымнай лірыкі, першы ў беларускай літаратуры звярнуўся да ўрбаністычных матываў. Апавяданні М. Багдановіча ляжаць ля вытокаў нацыянальнай прозы, а яго крытычныя даследаванні шмат у чым прадвызначылі развіццё літаратурнай крытыкі, сталі фундаментальнай асновай ў вывучэнні гісторыі літаратуры.

Паэзія М. Багдановіча трывала ўвайшла ў духоўную скарбніцу беларускага народа. Шматлікія творы паэта пакладзены на музыку М. Аладавым, Л. Абеліёвічам, А. Багатыровым, Л. Захлеўным, І. Лучанком, С. Палонскім, Г. Сурусам, А. Туранковым, Э. Тырманд, М. Шчагловым («Пагоня») і інш., некаторыя вершы бытуюць як народныя песні («Зорка Венера», «Слуцкія ткачыхі»). Паводле жыцця і творчасці М. Багдановіча створана опера «Зорка Венера» (кампазітар Ю. Семеняка, лібрэта А. Бачылы, паст. 1970). Яго вобраз увасоблены ў жывапісных, графічных і скульптурных творах С. Вакара, Г. Вашчанкі, П. Драчова, А. Лапіцкай, М. Манасзона, А. Марачкіна, А. Мятліцкага, І. Раманоўскага, Р. Сітніцы і інш. У 1981 была праведзена Рэспубліканская мастацкая выстаўка, прысвечаная 90-годдзю з дня нараджэння паэта, зняты дакументальныя кінафільмы, выпушчаны плакаты і школьныя дапаможнікі, паштоўкі, значкі. Імем паэта названы вуліцы ў Мінску, Яраслаўлі, Гродне, Гомелі, Быхаве, Чэхаве (б. Аутка), школа і бібліятэка ў Мінску. Засведчылі месцазнаходжанне паэта мемарыяльныя дошкі ў Мінску, Гродне, Вяззі, Горкім, Яраслаўлі, Ялце, Чэхаве. Помнікі М. Багдановічу пастаўлены ў Місхоры (1957) і Мінску (1981), мемарыяльны знак — у Ракуцёўшчыне (1977), дзе праводзяцца прысвечаныя М. Багдановічу Рэспубліканскія святы паэзіі. Там жа разбіты «Сад Максіма». У 1981 у Мінску створаны літаратурны музей паэта, у 1986 — літаратурны аддзел Гродзенскага гісторыка-археалагічнага музея-запаведніка, экспазіцыя якога цалкам прысвечана М. Багдановічу.

Архіў паэта, перададзены ў 1923 А. Я. Багдановічам Інстытуту беларускай культуры, страчаны ў час Вялікай Айчыннай вайны. Асобныя рукапісы зберагаюцца ў сховішчах Вільнюса, Мінска, Масквы, Кіева, Ленінграда, а таксама за мяжою. *Т. М. Кароткая.*

## Бібліяграфія


**1.1.**

Зб. тв.: У 2 т. Мн., 1968. Т. 1. Вершы, паэмы, пераклады. Т. 2. Проза, літаратурна-крытычныя і публіцыстычныя артыкулы, пісьмы. Рэц.: Гилевич Н. // Неман. 1970. № 1.

Творы М. Багдановіча. Мн., 1927—28. Т. 1. Вершы, апавяданні. Т. 2. Празаічныя творы. Рэц. Адамовіч А. // Узвышша. 1929. № 9—10; Аляхновіч М. // Маладняк. 1920. № 3; Барычэўскі А. Акадэмічнае выданне твораў Багдановіча // Звязда. 1927. 16 кастр.; Яго ж. Аб акадэмічным выданні твораў М. Багдановіча // Запіскі аддзелу гуманітарных навук. Мн., 1928. Кн. 2. Працы клясы філёлёгіі. Т. 1; Выданне твораў М. Багдановіча // Сав. Бел. 1928. 28 жн.; Гальперин В. О пережитках буржуазного национализма в белорусском литературоведении // ЛГ. 1948. 12 мая; Драй-Хмара М. // Украіна. 1930. № 41; Крывіч // Полымя. 1927. № 6; Л. П. Кнігапіс // Там жа. 1929. № 7; Чаржынскі У. // Запіскі аддзела гуманітарных навук. Мн., 1929. Кн. 9. Т. 3; Slavische Rundschau. 1929. № 6.

Выбр. тв. Мн., 1940. Рэц.: Бовдзей Л. Новое издание М. Богдановича // Сов. Бел. 1941. 16 янв.; Жалязняк Р. Аб новым выданні М. Багдановіча // ЛіМ. 1940. 14 снеж.; Рос А. «Выбр. тв.» М. Багдановіча // Чырв. змена. 1941. 5 студз.; Садовский Е. Однотомник М. Богдановича // ЛГ. 1940. 14 июля.

Выбр. тв. Мн., 1946. Рэц. Агіевіч У. Новае выданне твораў Максіма Багдановіча//Звязда. 1946. 2 крас.; Избранные произведения Максима Богдановича // Сов. Бел. 1946. 31 марта; Новыя кнігі // Сав. селянін. 1946. 28 ліп.

Выбр. тв. Вершы, апавяданні і артыкулы. Мн., 1952.

Творы: Вершы, апавяданні, нарысы. Мн., 1957. Рэц.: Крышталь В. Поўны Зб. тв. // ЛіМ. 1957. 25 мая; Лапідус Н. Каментарыі да каментарыяў // Полымя. 1959. № 2.

Выбранае. Мн., 1977. (Б-ка бел. паэзіі).

**1.2.**

Вянок: Кніжка выбраных вершаў. Вільня, 1913. Рэц.: Г. Б. Пясняр чыстай красы // Н. н. 1914. 21 лют.; Огурцов А. // Голос. 1914. 31 мая; 2 выд., папр. Вільня, 1927. Рэц.: Нг. Fr. Slovanský přehled. 1929. Т. 21.

Братья-чехи. М., 1914. (Б-ка войны, № 28). Рэц.: Новости литературы // Рус. школа. 1914. № 9—10.

Краса и сила: Опыт исследования стиха Т. Г. Шевченко. Отдельный оттиск из жур. «Украинская жизнь» № 2, 1914 г. М., 1914.

Угорская Русь. М., 1914. (Б-ка войны, № 24).

Червонная Русь: Австрийские украинцы. М., 1914. (Б-ка войны, № 8—9). Рэц.: Новости литературы // Рус. школа. 1914. № 9—10; Обзор главнейшей литературы, появившейся в связи с интересом к войне // Что и как читать детям. 1915. № 1; Сивков К. Обзор популярной литературы на современные темы // Вестник воспитания. 1914. № 8; Славинский М. // Вестник Европы. 1915. Кн. 4.

Белорусское возрождение: (Издание «Украинской жизни»). Отдельный оттиск из журн. «Украинская жизнь» № 1—2, 1915. М., 1916.

Білоруське відрожене. Відень, 1916.

Обзор деятельности Минской губернской продовольственной комиссии по 1 янв. 1917 г. Мн., 1917.

Мушка-зелянушка і камарык-насаты тварык: Вельмі жаласная гісторыя, выкладзеная згодна з праўдай беларускім вершам. Мн., 1940; Мн., 1947; Мн., 1952; Мн., 1961; Мн., 1975.

Вершы. Мн., 1967. (Школьная б-ка). Выд. 2. Мн., 1973. (Школьная б-ка).

Маладзік: Лірыка. Мн., 1968.

Вершы. Мн., 1981. (Школьная б-ка). Рэц.: Вішнеўскі А. Кнігапіс // ЛіМ. 1981. 16 кастр.

Вянок: Кніжка выбраных вершаў. Мн., 1981. (Факс. выд.: Вільня, 1913).

Вянок: Кніжка выбраных вершаў. Мн., 1985. (Факс. выд.: Вільня, 1913). Рэц.: Гринчик М. Мир образов и созвучий // Неман. 1986. № 11.

**1.3.**

**1907.** Музыка: [Апавяданне] // Н. н. 6 ліп. / Пад псеўд. Максім Б-віч.

**1909.** Над магілай: [Верш] // Н. н. 1 студз. / Пад псеўд. Максім Б-віч; Прыдзе вясна!: [Верш] // Там жа. 5 сак. / Пад псеўд. Максім Б-віч; Лясун: [Вершы] // Там жа. 3 вер. / Пад псеўд. Максім Б-віч; Над возерам: [Верш] // Там жа. 10 вер. / Пад псеўд. Максім Б-віч; «Край мой радзімы! Як выкляты богам...»: [Верш] // Там жа. 17 вер. / Пад псеўд. Максім Б-віч; З песняў беларускага мужыка: [Верш] //

Звязда. 1982. 13 студз.; Я г о ж. «Я несамотны, я кнігу маю...»: [Верш] // ЛіМ. 1981. 4 снеж.; Я н і ш ч ы ц Я. Смерць Максіма Багдановіча: [Верш] // Янішчыц Я. Снежныя грамніцы. Мн., 1970; Я г о ж. Ялта — 1917: [Верш] // Янішчыц Я. Пара любові і жалю. Мн., 1983; Я с а к а р [Бядуля З.]. М. Багдановічу: [Верш] // Вольная Бел. 1918. 26 мая.

**На рускай мове.** А в р а м ч и к М. На могиле паэта: [Верш] / Пер. М. Казаков // Сов. Крым. 1981. 6 дек.; А с т а ш о н о к А. Возвращение: [Апавяданне] // Неман. 1981. № 12; Б у р ь я н Б. У синей бухты: [Аповесць] // Сов. Отчизна. 1953. № 1; Рэц.: Б о й к о В. Повесть о мужестве поэта // Знамя юности. 1958. 16 сент.; Г р е ч а н и к о в А. Памяти Максима Богдановича: [Верш] / Пер. И., Л. Михайловы // Неман. 1978. № 9; Л о й к о О. Как огонь, как вода: [Раздзелы з кнігі] / Пер. Г. Бубнов // Там жа. 1981. № 9; С а д о в с к и й Е. Детство поэта: [Урывак з аповесці] // Зорька. 1945. 12 июля; Я г о ж. Жизнь поэта: [Раздзелы з аповесці «Максим Богданович») // Отчизна. 1946. № 2; Я г о ж. Максим Богданович в Минске: Отрывок из повести «Песняр» // Сов. Бел. 1945. 29 июля; Т а н к М. Над могилой М. Богдановича: [Верш] / Пер. К. Титов // Там жа. 1941. 9 мая; Я н и щ и ц Е. Смерть Максима Богдановича: [Верш] / Пер. В. Элькин // Неман. 1976. № 10.

3.1.

ЦНБ АН БССР, аддз. рукап., ф. 5, воп. 1, адз. зах. 1, л. 26—27; ЦБ АН Літвы, аддз. рукап., ф. 21, адз. зах. 38, 39, 289; ЦНБ АН УССР, аддз. рукап., ф. 1, рук. № 11226; ЦДАЛІМ СССР, ф. 66, воп. 1, спр. 1378; ф. 76, воп. 2, л. 48; ЦДАМЛіМ БССР, ф. 153, воп. 1, спр. 1—180. *В. І. Козіч, Н. К. Мазоўка.*

# БАГРЫМ ПАЎЛЮК



*Багрым Паўлюк [Павел Восіпавіч; 2(14).11.1812, в. Крошын Навагрудскага пав. Гродзенскай губ., цяпер Баранавіцкага р-на Брэсцкай вобл.— 1891 (?); пахаваны на Крошынскіх могілках], паэт.*

Сын вясковага рамесніка (каваля). Вучыўся ў пачатковай парафіяльнай школе, фундатар якой, ксёндз В. Магнушэўскі, абвінавачваўся ў патуранні сялянам-бунтаўшчыкам. Настаўнікі школы — арганіст Г. Арлоўскі і селянін М. Парфімовіч — у матэрыялах следства па справе Крошынскага бунту (1828) характарызуюцца як вальнадумцы, здольныя прывіць дзецям небяспечныя думкі. Самадзейныя настаўнікі адкрыта захапляліся паэтычнымі здольнасцямі вясковага юнака, давалі яму чытаць прагрэсіўныя творы польскіх і інш. паэтаў. Многія вершы (Эзопа, А. Нарушэвіча) П. Багрым ведаў на памяць. Багрым быў памочнікам незвычайнага ксяндза-ліберала, таму выклікаў асаблівую цікавасць следчых як перапісчык і пашыральнік крамольных літаратурных твораў (у прыватнасці, верша Я. Баршчэўскага «Бунт хлопаў»). Рана пачаў пісаць сам. Паводле ўспамінаў навагрудскага пісьменніка і юрыста І. Яцкоўскага, цэлы сшытак беларускіх твораў паэта-самародка быў адабраны папячыцелем Віленскай навучальнай акругі М. Навасільцавым і рэктарам Віленскага універсітэта В. Пеліканам. У якасці пакарання быў здадзены ў рэкруты (магчыма, не адразу пасля паўстання). Вярнуўшыся на радзіму ў сталым узросце, працаваў кавалём. У 1864 ажаніўся з удавой-шляхцянкай з-пад Крошына К. Тышлоўскай. Дасягнуў выдатных поспехаў у кавальскім майстэрстве. Жырандоль Крошынскага касцёла, прасла на магільнай агароджы настаўніка і апекуна В. Магнушэўскага, агароджа на магіле самога паэта, выкананыя П. Багрымам,— узоры сапраўднай мастацкай коўкі. Жырандоль — каштоўны помнік беларускага мастацтва 19 ст.

З вершаў маладога паэта захаваўся толькі адзін — «Зайграй, зайграй, хлопча малы», упершыню апублікаваны ў кн. І. Яцкоўскага «Аповесць з майго часу, або Літоўскія прыгоды» (1 выд. Лондан, 1854; 2 выд. Познань, 1858). Невялікі па аб'ёму твор кранае шчырасцю і сілай пачуцця, высокай трагедыйнасцю, гарачым пратэстам супраць прыгону, арганічнасцю формы і

зместу, нацыянальным каларытам паэтычных вобразаў. Верш — адзін з першых узораў і адначасова шэдэўраў беларускай лірыкі 19 ст.

Рукапісы П. Багрыма, забраныя пры допыце, не захаваліся. Паэту-самародку, які мог бы стаць у іншых умовах беларускім Шаўчэнкам, прысвяцілі свае творы многія беларускія пісьменнікі (С. Гаўрусёў, Я. Дыла, В. Іпатава, У. Караткевіч, М. Танк і інш.), мастакі (З. Азгур, А. Марачкін, П. Сергіевіч і інш.). У 1985 у Крошыне адкрыты музей народнага мастацтва і рамёстваў імя Паўлюка Багрыма.

*Н. В. Тарэлкіна.*

## Бібліяграфія


**1.3.**

**1854.** Заграй, заграй, хлопча малы: [Верш] // Jackowski I. Powieść z czasu mojego, czyli przygody litewskie. Londyn; Wyd. 2. Poznań, 1858.

**1921.** «...Зайграй, зайграй, хлопча малы...»; Гутарка Данілы з Сцяпанам; Размова пана з мужыком пасля прыгону: [Вершы] // Зборнік «Беларускіх ведамасцей». № 1. Вільня. [Аўт. другога, трэцяга твора прыпісана П. Багрыму беспадстаўна]; Зайграй, зайграй, хлопча малы...: [Верш] // Беларускія ведамасці. 23 вер.

**1923.** Зайграй, зайграй, хлопча малы...: [Верш] // Гарэцкі М. Хрэстаматыя беларускай літаратуры. Вільня.

**1937.** Wierszy Paŭluka Bachryma // Stankiewicz A. Mahnušeŭski, Paŭluk Bachrym, Babroŭski. Wilnia.

**1940.** Заграй, заграй, хлопча малы...: [Верш] // Беларуская літаратура XIX ст. Мн.

**1950.** «Заграй, заграй, хлопча малы...»: [Верш] // Беларуская літаратура XIX ст. Мн.

**1953.** Заграй, заграй, хлопча малы... // Беларуская літаратура: Хрэстаматыя для пед. вучылішчаў. Мн.

**1961.** Заграй, заграй, хлопча малы...: [Верш] // Анталогія беларускай паэзіі: У 3 т. Мн., Т. 1.

**1971.** «Зайграй, зайграй, хлопча малы...»: [Верш] // Беларуская літаратура XIX ст.: Хрэстаматыя. Мн.

**1977.** Зайграй, зайграй, хлопча малы...: [Верш] // Беларуская літаратура XIX — пач. XX ст. Мн.

**1.5.**

**На англійскую мову.** Play, Then, Play...: / Transl. V. Rich // Like Water, Like Fire. London, 1971.

**На польскую мову.** Zagraj, zagraj, chłopcze mały... / Tł. J. Huszcza // Antologia poezji białoruskiej. Wrocław, 1978.

**На рускую мову.** Гей, берись, парнишка малый...: [Верш] / Пер. Д. Бродский // Антология белорусской поэзии. М., 1952; Поэзия народов СССР: XIX — нач. XX в. М., 1977; Белорусские поэты (XIX — нач. XX в.). М.; Л., 1963; Заиграй, заиграй, хлопчик малый...: [Верш] // Пер. В. Владимиров // Антология белорусской поэзии. Л., 1948.

**На ўкраінскую мову.** Заграй, заграй, хлопче малий...: [Верш] / Пер. Р. Лубківський // Слов'янська ліра. К., 1983.

**2.2.**

**На беларускай мове.** Stankeiwicz A. Mahnušeŭski, Paŭluk Bachrym, Babroŭski. Wilnia, 1937.

**2.3.**

**На беларускай мове.** Александровіч С. Два невядомыя вершы // ЛіМ. 1965. 16 лют.; Яго ж. Колькі талентаў звялося...: Да 150-годдзя з дня нараджэння П. Багрыма // Там жа. 1963. 27 снеж.; Яго ж. Мае заўвагі: (Аб праекце праграмы па гісторыі бел. літаратуры) // Наст. газ. 1949. 3 лют.; Яго ж. Ручаёк, які ніколі не перасыхаў // Александровіч С. Па слядах паэтычнай легенды. Мн., 1965; Яго ж. Рэдкае выданне // Беларусь. 1960. № 9; Яго ж. Слядамі легенды // ЛіМ. 1956. 4 жн.; Маладосць. 1958. № 3; Незабыўнымі сцежкамі. Мн., 1959; Тут зямля такая... Мн., 1974; Мн., 1985; Астрэйка А. Нашчадкі Багрыма // ЛіМ. 1977. 11 лют.; Бас І. Каму належаць вершы?? // Беларусь. 1963. № 11; Яго ж. Невядомы варыянт верша Яна Баршчэўскага // Дзень паэзіі-69. Мн., 1969; Яго ж. Новыя факты да біяграфіі Паўлюка Багрыма: (З архіўных матэрыялаў) // ЛіМ. 1954. 15 мая; Яго ж. Паўлюк Багрым // Полымя. 1955. № 3; Літаратурныя пошукі, знаходкі, даследаванні. Мн., 1969. С. 61—76, 133—140; Яго ж. Подпіс Паўлюка Багрыма // Беларусь. 1956. № 10. Рэц.: Zima M. // Cesk. rusist. 1957. N 2; Бярозкін Р. Свет Купалы; Звенні. Мн., 1981. С. 14—15; Віцьбіч Ю. Каб я каршуном радзіўся...: Да 50-годдзя з дня смерці Паўлюка Багрыма. 1891—1941 // ЛіМ. 1941. 25 студз.; Власт. Пятрок з Крошына // Н. н. 1911. 28 ліп.; Вярхоў П. Верш П. Багрыма «Зайграй, зайграй, хлопча малы» // ЛіМ. 1959. 25 ліст.; Гарэцкі М. Паўлюк Бахрым // Гарэцкі М. Гісторыя беларускае літаратуры. Вільня, 1920; 2 выд. Вільня, 1921; 3 выд. Вільня, 1924; 4 выд. Мн., 1926; Яго ж. Паўлюк Бахрым — першы вядомы ў нашай літаратуры пясняр сялянскага роду // Бел. ведамасці. 1921. 26 вер.; Гісторыя беларускай дакастрычніцкай літаратуры: У 2 т. Мн., 1969. Т. 2; С. 29—30; Гісторыя беларускай літаратуры: XIX — пач. XX ст. Мн., 1981. С. 36—37; Грынчык М. Фальклорныя традыцыі ў беларускай дакастрычніцкай паэзіі. Мн., 1969. С. 29—33; Яго ж. Шляхі беларускага вершаскладання. Мн., 1973. С. 88—91; Дрозд С. Карціна пра П. Багрыма // ЛіМ. 1966. 24 мая; З вучнёўскай акадэміі ў Віленскай беларускай гімназіі // Да працы. 1928. 12 снеж.; Задарожны С. Памяць Крошына // Звязда. 1985. 19 кастр.; І. Н. Магнушэўскі і Паўлюк Бахрым // Шлях моладзі. 1937. № 9; Іпатава В. Ваўкалакам абярнуся... // Голас Радзімы. 1983. 24 ліст.; Маладосць. 1984. № 8; Каваленка В. Вытокі. Уплывы. Пасконасць: Развіццё бел. літаратуры XIX — XX ст. Мн., 1975. С. 93—94, 97—99; Клімковіч М. Аб жыватворчым уплыве рускай літаратуры на беларускую літаратуру. Мн., 1953. С. 21—23; Мн., 1955. С. 22—24; Лазарук М. Станаўленне беларускай паэмы: (Жанр паэмы і некаторыя асаблівасці развіцця бел. літаратуры ў першай палавіне XIX ст.). Мн., 1968. С. 41—42; Ларчанка М. Жывая спадчына. Мн., 1977. С. 73—76; Яго ж. На шляхах да рэалізма. Мн., 1958. С. 146—149; Лойка А. Адам Міцкевіч і беларуская літаратура. Мн., 1959. С. 84—85; Яго ж. Гісторыя беларускай літаратуры: Дакастрычніцкі перыяд. Мн., 1977. Ч. 1. С. 68—73; Магнушэўскі і Паўлюк Бахрым // Шлях моладзі. 1937. № 8; Майхровіч С. Беларуская літаратура XIX ст. // Полымя. 1952. № 9; Яго ж. Нарысы беларускай літаратуры XIX ст. Мн., 1957. С. 27—30; Мн., 1959. С. 26—29; Мальдзіс А. Бясспрэчнае і гіпатэтычнае // Полымя. 1970. № 9; Яго ж. Падарожжа ў XIX ст.: З гісторыі бел. літаратуры, мастацтва і культуры. Мн., 1969. С. 3—4; Навіна А. Паўлюк Багрым // Родны край. Выд. перароб. Вільня, 1923; Вільня, 1929; Налівайка А., Бурэйка Т. Беларуская літаратура. Мн., 1971. С. 23—24; Панізнік С. Жаўранкі над Крошынам // Голас Радзімы. 1975. № 28; Пархута Я. Лотаць цвіце вясною // Родная прырода. 1978. № 2; Паўлюк Багрым // Пачынальнікі. Мн., 1977; Паўлюк Бахрым — першы вядомы ў нашай літаратуры пясняр сялянскага роду // Зборнік «Беларускіх ведамасцей». № 1. Вільня, 1921; Бел. вед. 1921. 23 вер.; Прашковіч М. Паўлюк Багрым // Звязда. 1964. 3 студз.; Пятровіч М. В. Дунін-Марцінкевіч // Матэрыялы да гісторыі беларускай літаратуры. Мн., 1936. Т. 1; Ралько І. Вершаскладанне: Даследаванні і матэрыялы. Мн., 1977. С. 9—11; Сахута Я. Багрымавы жаўранкі // Бел. мова і літ. ў шк. 1988. № 6; Свістуновіч С. Каваў Багрым // ЛіМ. 1984. 9 ліст.; Смірноў М. Першы партрэт Паўлюка Багрыма // Беларусь. 1966. № 10; Суніца Р. М-ко Крошын // Беларус. 1915. 4 чэрв.; Сыс А. Мастак верша і кавадла // Голас

Радзімы. 1985. 10 кастр.; Федарук А. Ні помніка, ні кветак // ЛіМ. 1967. 22 снеж.; Чамярыцкі В. Песня ў няволі // Мін. праўда. 1964. 10 студз.; Энцыклапедыя Бярозкі...: З падстрэшша рук Скарынавых // Бярозка. 1977. № 6 / Скл. Я. Кулік; Юнчык Л. Далягляды памяці // Звязда. 1983. 11 вер.; Ягоўдзік У. Жаўрукі Багрыма // ЛіМ. 1985. 20 вер.; Янулайціс А. Аб маладым паэце з Крошына: (Паўлюк Багрым) // Маладая Бел. 1913. Сер. 1. Сш. 3; Янушкевіч Я. «Ледзьве здымкі ўратаваў...»: Новае пра сям'ю Паўлюка Багрыма // ЛіМ. 1988. 4 ліст.; Ярош М. Янка Купала і беларуская паэзія. Мн., 1971. С. 23—24; Яскевіч А. Загадкі пачынальнікаў // Вобраз-81. Мн., 1981.

На нямецкай мове. Kleine slawische Bibliographie. Wiesbaden, 1958. S. 31—32.

На польскай мове. Gloger Z. Trzy dni nad Szczarą i Serweczą // Charitas. Petersburg, 1894; Gloger Z. Z Litwy, w październiku // Kraj. 1889. N 43; Huszcza J. «Gwoli historycznej prawdy...» // Huszcza J. Opowieści w czarnych ramkach. Łódź, 1979; Jackowski I. Powieść z czasu mojego, czyli przygody litewskie. Londyn, 1854. S. 257—265; Poznań, 1856. S. 257—265; Mościcki H. Pod znakiem Orła i Pogoni. Lwów; Warszawa, 1923. S. 57, 213; Paŭluk Bahrym // Antologia poezji białoruskiej. Wrocław, 1978.

На рускай мове. Виноградов В. Белорусская литература. М., 1969. С. 22. История белорусской дооктябрьской литературы. Мн., 1977. С. 331—332; Карский Е. Белорусы. Пг., 1922; Т. 3. Ч. 3. С. 73—74; Киркевич А. Знаменитый кузнец из Крошина // Гродн. правда. 1964. 7 янв.; Ляшук В. Приписываются Павлюку Багриму // Заря. 1984. 5 окт.; Прокопович М. На родине Павлюка Багрима // Там жа. 1985. 2 окт.; Смирнов М. Портрет Павлюка Багрима // Тувин. правда. 1967. 17 февр.

На югаслаўскай мове. Stefanava R. Značilnosti razvoja beloruske literature // Jezik in slovstvo. 1979—80. № 2.

2.4.

На беларускай мове. Барадулін Р. Крылы Паўлюка Багрыма: [Верш] // Барадулін Р. Вечалле. Мн., 1980; Брыль Я. Зб. тв.; У 5 т. Мн., 1981. Т. 5. С. 349—350; Вітка В. Беларуская калыханка // Полымя. 1968. № 5; Гаўрусёў С. «Загаворыць Паўлюк Багрым...»: [Верш] // Там жа. 1985. № 12; Дыла Я. Юнак з Крошына; Драматычныя сцэны // Дыла Я. Творы. Мн., 1981; Караткевіч У. Паўлюк Багрым: [Верш] // Мары юнацкія. Мн., 1969; Летка І. Балада пра Паўлюка Багрыма: [Верш] // ЛіМ. 1984. 31 жн.; Яго ж. Паўлюк Багрым: [Верш] // Летка І. Тры крокі ад сонца; Вершы. Мн., 1967; Мархель У. Неашчаднасць песні!: [Верш] // Дзень паэзіі — 69. Мн., 1969; Мацяш Н. Дарожнае: На свяце паэзіі ў Крошыне: [Верш] // ЛіМ. 1985. 11 кастр.; Мінкін А. Думы Багрыма: [Верш] // Там жа. 1980. 26 вер.; Наўроцкі А. Паўлюк Багрым: [Верш] // Наўроцкі А. Неба ўсміхаецца маланкаю. Мн., 1962; Панізнік С. Багрым: [Верш] // Панізнік С. Слова на дабрыдзень. Мн., 1982; Яго ж. Пад Крошынам: [Верш] // Дзень паэзіі — 77. Мн., 1977; Яго ж. Узлёт жаўра: [Верш] // Панізнік С. Чало і век. Мн., 1979; Сіпакоў Я. Вечар паэзіі: [Верш] // Сіпакоў Я. Усміхніся мне. Мн., 1984.

3.1.

ЦДАКР СССР, ф. 1286, 1828 г., воп. 4, спр. 455; ЦДГА БССР у Гродна, ф. 1, воп. 2, спр. 1334; ЦДГА Літвы, ф. 567, воп. 2, спр. 2341; ЦНБ АН БССР, аддз. рукап., ф. 5, воп. 1, адз. зах. 1, л. 37.

*З. У. Драздова.*

# БАГУН МІХАСЬ



**Багун Міхась (сапр. Блошкін Міхаіл Фёдаравіч; псеўд.: Асака М., Багунец, крыпт. М. Б., Міх. Б., Баг.; 8.11.1908, Мінск — 17.2.1938, Марыінскі лагер, паводле інш. крыніц — снежань 1937), паэт, празаік, перакладчык.**

Сын паштовага служачага. М. Багуну рана давялося сутыкнуцца з суровымі жыццёвымі выпрабаваннямі. «Вучылі яго галоднае сіроцтва, служба парабкам у кулакоў»,— успамінае паэт С. Грахоўскі. Пасля сканчэння сярэдняй працоўнай школы (1927) і кароткатэрміновых курсаў пры педтэхнікуме ў Мінску (1928) М. Багун настаўнічаў у пачатковай школе ў в. Рожна Бягомльскага р-на. У 1929—30 прымаў удзел у калектывізацыі сельскай гаспадаркі. У 1931—32 супрацоўнічаў у газеце «Чырвоная Полаччына», разам з А. Дударом ездзіў на будаўніцтва аўтамагістралі Асіповічы — Магільнае. Там, у мяст. Шацк, яны чыталі калгаснікам, якія былі заняты на будаўніцтве дарогі, свае новыя вершы. З 1932, пераехаўшы ў Мінск, М. Багун працаваў стыльрэдактарам Белдзяржвыдавецтва, у 1935—36— літсупрацоўнікам газеты «Літаратура і мастацтва». У 1936 незаконна асуджаны на восем гадоў пазбаўлення волі. Пакаранне адбываў у Сібіры.

Першы верш «Браток Мікіта, сей ты жыта» М. Багун апублікаваў у газеце «Беларуская вёска» ў канцы 1925. З таго часу ён актыўна ўключыўся ў літаратурнае жыццё рэспублікі. У яго невялікай творчай спадчыне знайшлі адбітак мастацкія тэндэнцыі 1920—30 гадоў, калі паэзія страсна і імкліва адгукалася на падзеі, што адбываліся ў краіне, у свеце, аднак, яго творчасці часам не ставала заглыбленасці ў сутнасць з'яў. Лірыка М. Багуна вылучалася задушэўнасцю, рамантычнай акрыленасцю. Ён спрабаваў свае сілы таксама ў жанры паэмы («Крокі ў вяках», 1930, «Канчыта з-пад Толедо», 1936), поўны жадання стварыць нешта манументальнае, сугучнае з эпохай сацыялістычнага будаўніцтва. Першая з названых паэм не пазбаўлена рытарычнасці, пры шчырым апяванні высокіх ідэй ёй не ставала фактуры, чалавечых лёсаў. Другая паэма М. Багуна была напісана пад уплывам трагічных падзей, што адбываліся ў 1930-я гады ў Іспаніі. Узяўшы эпізод гераічнай барацьбы, паэт стварыў вобразы сапраўдных іспанскіх патрыётаў. На яго творчасць прыкметны ўплыў аказала паэзія У. Маякоўскага, творы якога перакладаў і якімі захапляўся. Пісаў М. Багун і частушкі для вясковых гарманістаў, якія змяшчаў у газеце «Бальшавіцкі шлях» і «Савецкая Беларусь». Некаторыя з іх пасля сталі шырока бытаваць у народзе, увайшлі ў фальклорныя запісы. Асобныя вершы паэта пакладзены на музыку.

У 1936 літаратурная і грамадская дзейнасць М. Багуна спынілася ў выніку несправядлівага абвінавачвання і зняволення. На адным з перасыльных лагерных пунктаў знясілены і хворы М. Багун памёр. Рэабілітаваны пасмяротна Вярхоўным судом БССР 29.12.1954.

*І. Э. Багдановіч.*

## Бібліяграфія

**1.1.**

Рэха бур: Выбр. вершы. Мн., 1931. Рэц.: Ліхадзіеўскі С., Мікуліч Б. // Полымя. 1931. № 5.

Выбранае. Мн., 1961.

**1.2.**

Рэвалюцыі: Сшытак вершаў. Мн., 1932.

Жэнька: Апавяданне. Мн., 1934. Рэц.: Укоў А. Кніжка пра Жэньку-шафёра // ЛіМ. 1935. 26 крас.

**1.3.**

**1925.** Браток Мікіта, сей ты жыта: [Верш] // Бел. вёска. 6 снеж. / Пад псеўд. Асака.

**1926.** Песня работніцы: [Верш] // Бел. вёска. 4 сак. / Пад прозв. М. Блошкін; Адцвілі васількі...: [Верш] // Чырв. Полаччына. 15 вер.

**1927.** Вясновыя ночы: [Верш] // Бел. піянер. № 9; Малады перасяленец: Урывак з паэмы // Маладняк. № 7—8; Над балотам: Паэма // Полымя. № 7; «Мне весела сягоння...»: [Верш] // Чырв. сейбіт. № 6—7 / Пад прозв. М. Блошкін; У касавіцу: [Верш] // Там жа. № 14 / Пад псеўд. М. Багунец; Раніца ўлетку; Сягоння: [Вершы] // Там жа. № 15 / Пад псеўд. М. Багунец; Малады Мікіта: [Апавяданне] // Бел. вёска. 25 жн. / Пад псеўд. М. Багунец; «Звяздзе» ў дзесятыя ўгодкі яе існавання: [Верш] // Звязда. 9 жн. / Пад псеўд. М. Багунец; Паглядзі: [Верш] // Там жа. 16 кастр.; Камсамолія: [Верш] // Там жа. 30 кастр.; Усход: [Верш] // Сав. Бел. 1 чэрв. / Пад псеўд. М. Багунец. Расстрэл паўстанца: [Верш] // Там жа. 10 ліп. / Пад псеўд. М. Багунец; Пытанні літаратурнай крытыкі // Там жа. 12 кастр. / Пад крыпт. Баг.; Узімку: [Верш] // Чырв. змена. 21 студз. / Пад псеўд. М. Багунец; Была вясна...: [Верш] // Там жа. 18 сак. / Пад псеўд. М. Багунец; Ці травеньскай ноччу: [Верш] // Там жа. 27 сак. / Пад псеўд. М. Багунец; Заходняй Беларусі: [Верш] // Там жа. 10 крас. / Пад псеўд. М. Багунец; Думкі: [Верш] // Там жа. 17 крас. / Пад псеўд. М. Багунец; Вясковы май: [Верш] // Там жа. 29 крас. / Пад псеўд. М. Багунец; На Усходзе: [Верш] // Там жа. 15 мая / Пад псеўд. М. Багунец; «Чароўнаю казкаю...»: [Верш] // Там жа. 29 мая / Пад псеўд. М. Багунец; Раніца ўлетку: Трыялет // Там жа. 2 жн. / Пад псеўд. М. Багунец; Моладзі: Дзецям Волі гэты верш прысвячаю // Там жа. 3 вер. / Пад псеўд. М. Багунец.

**1928.** Зімой у вёску: [Верш] // Чырв. сейбіт. № 2; Памяці вялікага: [Верш] // Звязда. 22 студз.; У горад: [Верш] // Сав. Бел. 1 студз.; Мюдаўцам: [Верш] // Чырв. змена. 12 кастр.; Беларусь: [Верш] // Там жа. 30 снеж.

**1929.** Сярод белых драпежнікаў: Апавяданне // Маладняк. № 11—12; Марш перамог: [Верш] // Звязда. 6—7 ліст.; Пахнуць далі бярозавым сокам: [Верш] // Рабочий. 22 окт.; Юность: [Верш] // Там жа. 27 нояб.; Крывавая сцежка: (Паўстанцу Сяргею, растралянаму панамі): [Верш] // Сав. Бел. 19 ліп.; Трывога: [Верш] // Там жа. 21 ліп.; Шлях маладосці: [Верш] // Там жа. 4 жн.; Музыка нашых дзён: [Верш] // Там жа. 1 вер.; З болем — памяці П. Труса: [Верш] // Там жа. 3 вер.; Лагер уначы: [Верш] // Там жа. 8 вер.; Сярод белых драпежнікаў: Апавяданне // Там жа. 17 кастр.

**1930.** [Рэц. на кн.: Новіч И. Певцы классового мира: («Перевал» сегодня). М., 1930] // Маладняк. № 10; Ударнымі брыгадамі...: [Верш] // Там жа. № 11; Крокі ў вяках: (Паэма без герояў) // Полымя. № 8; Зімовым раннем: [Верш] // Сав. Бел. 19 студз.; Крокі ў вяках: З паэмы // Чырв. змена. 26 снеж.; Змаганцаў кроў не прападзе: [Верш] // Чырв. Полаччына. 17 сак. / Сааўт. Т. Хадкевіч.

**1931.** Рэвалюцыі: [Верш] // Маладняк. № 1; Ударнымі брыгадамі: Песня // Чырв. змена. 6 сак.

**1932.** Ахвяра: [Верш] // Бел. калгасная. 1932. № 3; Вораг у доме: Апавяданне // Бел. калгасная. № 5; Новы дом: Нарыс // Чырв. Беларусь. № 23—24.

**1933.** Петрыкаў тысячы: [Верш] // Кастрычнік. Мн.; На дарозе: [Апавяданне]; Эпіграма на Б. Мікуліча // Заклік. № 1; На дарозе: Нарыс; Пад знакам напышлівага пустазвонства: [Рэц. на кн.: Казлоўскі В. Музыка працы. Мн., 1932] // Там жа. № 2; Эпіграма на М. Хведаровіча // Там жа. № 3; Дарога: Апавяданне // Іскры Ільіча. № 1; Адзін з лепшых: Нарыс // Там жа. № 5; Петрыкаў тысячы: [Верш] // Там жа. № 8; Янка Рыжык — важны лыжнік // Там жа. № 16; Жывыя чэрці: Апавяданне // Полымя рэвалюцыі. № 5; «Горад вятроў» Кіршона ў БДТ-2 // Віцеб. пралетарый. 30 сак. / Пад крыпт. М. Б.; У барацьбе з класавым ворагам // Калгаснік Бел. 14 снеж. / Пад. крыпт. М. Б.; Уладзімір Хадыка; Валерый Маракоў: [Эпіграмы] // ЛіМ. 18 студз.; Пісьменнікі і крытыкі ў 1933 годзе // Там жа. 28 студз.; Увагу — рабоце на радыё! // Там жа. 22 лют.; Факты гавораць // Сав. Бел. 13 лют. / Сааўт. Р. Кобец.

**1934.** Чэлюскінка Ала: [Верш] // Іскры Ільіча. № 7; Жэнька: Апавяданне // Там жа. № 10; Унукі камунараў: [Верш] // ЛіМ. 22 сак.; У лагеры: [Песня] // Піянер Бел. 28 мая / Сааўт. В. Маракоў; Слава: [Верш] // Там жа. 15 чэрв.; Паўпрэд: [Верш] // Чырв. змена 5 крас.

**1935.** Шчаслівы гарадок: Апавяданне // Работніца і калгасніца Бел. № 15; Шчаслівыя зоры ўстаюць...: [Верш] // Полымя рэвалюцыі. № 5; Абдурахман: [Верш] // Калгаснік Бел. 24 чэрв.; Шчаслівай дарогі да чытача! // ЛіМ. 30 ліп.; За паэзію гарачага пачуцця // Там жа. 28 снеж.; З лагераў: [Верш] // Піянер Бел. 24 жн. / Сааўт. В. Маракоў.

**1936.** Сэрца, спявай: [Верш] // ЛіМ. 12 студз.; Ці-

кавая і карысная кніга // Там жа. 16 студз.; Паэт лірычнага голасу: Кароткі агляд творчасці Ал. Суркова // Там жа. 27 студз.; Павысіць якасць часопіса // Там жа. 8 сак.; Кніга, сапсаваная перакладчыкам // Там жа. 21 крас.; Пародыя на Цішку Гартнага // Там жа. 16 мая; У возеры шэрай вадзічкі // Там жа. 18 ліп.; Рэдактар прыгалубіў халтуршчыка // Там жа. 27 вер.; Канчыта з-пад Толедо: [Верш] // Там жа. 27 кастр.

**1958.** Сэрца, спявай!; Растраслі старыя клёны...; Трыялет: [Вершы] // ЛіМ. 2 жн.

**1961.** Вясновы эскіз; Лагер уначы: [Вершы] // Анталогія беларускай паэзіі: У 3 т. Мн., 1961. Т. 3.

**1.4.**

П е р в а м а й с к і Л. Ваколіцы: [Раман] / З укр. Мн., 1931 / Сааўт. пер. З. Астапенка.

П а н ф ё р а ў Ф. Брускі: [Раман]. Ч. 1-ая / З рус. Мн., 1932 / Сааўт. пер. Т. Кляшторны; П а н ф ё р а ў Ф. Брускі: [Раман]. Ч. 2-я / З рус. Мн., 1932.

Г р ы г о р' е ў М. Паўтару размовы: Апавяданне дыспетчара / З рус. Мн., 1935.

І л ь і н М. Сонца па стале: Апавяданні пра асвятленне / З рус. Мн., 1935.

А с т р о ў с к і М. Як гартавалася сталь: Раман / З рус. Мн., 1936.

**1930.** С в я р ч к о ў Д. Чужы: Раман / З рус. // Полымя. № 9—10, 11—12.

**1933.** П а н ф ё р а ў Ф. Брускі: Урывак з 3-й кн. рамана / З рус. // ЛіМ. 31 кастр.

**1934.** Г а л а в а н і ў с к і С. Эпітафія Эдуарду: [Верш] / З укр. // Полымя рэвалюцыі. № 5; Г а р б а ц е н к а ў В. «Пад'ёмную песню гарманіст зайграў...»: [Верш] / З рус. // ЛіМ. 18 чэрв.; С а д о ў с к і Я. Брацкая магіла: Апавяданне / З рус. // Там жа. 12 ліп. / Пер. пад крыпт. М. Б.; Ч э х а ў А. Ванька: [Апавяданне] / З рус. // Чырв. змена. 15 ліп.

**1935.** К у д з і м а ў В. Дзівак Краўзе: (Эцюды на раман) / З рус. // Полымя рэвалюцыі. № 5 / Пер. пад крыпт. Міх. Б.; М а с а ш в і л і І. Абдурахман; Пара спеласці; Спатканне каля лёдавага поля: [Вершы] / З груз. // Віцеб. пралетарый. 15 чэрв.; Я г о ж. Пара спеласці; Абдурахман: [Вершы] / З груз. // ЛіМ. 31 мая; Я г о ж. Абдурахман: [Верш] / З груз. // Палес. праўда. 4 чэрв.; Я г о ж. Палі паэта клічуць / З груз. // Чырв. змена. 8 ліп.

**1936.** П у ш к і н А. Вязень; Цыганы; У глыбіні сібірскіх руд; Бура: [Вершы] / З рус. // Віцеб. пралетарый. 18 снеж.; Я г о ж. Цыганы / З рус. // Камуніст. 22 ліст.; І ш э м т у л а ў Б. Кастрычнік: [Верш] / З башк. // ЛіМ. 16 студз.; С а с ю р а У. «Сонца птушкаю падае за горы...»; «Іду я сцежкаю званклівай...»; «Усё крычаць цягнікі...»: [Вершы] / З укр. // Там жа. 27 студз.; М а я к о ў с к і У. Незвычайная прыгода, якая адбылася з Уладзімірам Маякоўскім улетку на дачы: [Верш] / З рус. // Там жа. 16 крас.; П у ш к і н А. Цыганы; Бура: [Вершы] / З рус. // Там жа. 26 жн.; А л ь б е р ц і Р. Савецкія жанчыны іспанскім работніцам: [Верш] / З ісп. // Там жа. 3 вер.; С т а л і н: [Верш] [З матэрыялаў для тома «Народная творчасць»] / З рус. // Там жа. 3 вер.; Л ю б ч а н к а А. Тайна: Урывак з кінасцэнарыя / З рус. // Там жа. 23 кастр.

**1.6.**

О л ь б р а х т І. Ганна пралетарка: Раман / З чэш. Пер. Ю. Лявонны. Апрац. М. Багун. Мн., 1932.

**2.3.**

**На беларускай мове.** А р о ч к а М. Беларуская савецкая паэма. Мн., 1979. С. 140; Г р а х о ў с к і С. Другое жыццё паэта // ЛіМ. 1961. 5 мая; З в о н а к А. Міхась Багун // Багун М. Выбранае. Мн., 1961; Я г о ж. Неспакойныя сэрцы. Мн., 1973. С. 133—136; Я г о ж. Паэзія Міхася Багуна // ЛіМ. 1958. 2 жн.; Я г о ж. Шляхам ясным і простым // Полымя. 1968. № 11; Н а д ч ы м працуюць паэты // ЛіМ. 1932. 15 чэрв.; П і с ь м е н н і к і Савецкай Беларусі: Кароткі даведнік. Мн., 1981; Х а т у л ё ў П. Супраць безадказных адносін да класікі // ЛіМ. 1936. 26 крас.; Х в е д а р о в і ч М. Пясняр залатой рані: Да 60-годдзя з дня нараджэння М. Багуна // Там жа. 1968. 15 ліст.; Ш у ш к е в і ч С. Выбраныя творы: У 2 т. Мн., 1978. Т. 2. С. 237—241; Я г о ж. Паэт залатой раніцы // Голас Радзімы. 1966. № 31; ЛіМ. 1978. 10 ліст.; Я г о ж. Чалавек залатой раніцы // Шушкевіч С. Вяртанне ў маладосць. Мн., 1968. *З. У. Драздова.*

# БАГУШЭВІЧ ФРАНЦІШАК



***Багушэвіч Францішак (Францішак-Бенядзікт) Казіміравіч [псеўд. М а ц е й  Б у р а ч о к, С ы м о н  Р э ў к а  з-пад  Б а р ы с а в а, D e m, D e m o s, H u s z i c z, T a m t e n, T e n, крыпт. А. Д., H-cz; 9(21).3.1840, фальв. Свіраны Віленскага пав. Віленскай губ., цяпер Вільнюскага р-на Літвы — 15(28).4.1900, в. Кушляны Ашмянскага пав. Віленскай губ., цяпер Смаргонскага р-на Гродзенскай вобл.; пахаваны ў в. Жупраны (Ашмянскі р-н)], паэт, празаік, публіцыст; рэвалюцыйны дэмакрат.***

Бацька, Казімір Восіпавіч, і маці, Канстанцыя Галаўня, паходзілі з незаможнай мясцовай шляхты. Сям'я Багушэвічаў жыла спачатку ў Свіранах, у сваякоў маці, але ў перыяд паміж 1841 і 1846 пераехала ў невялікі маёнтак Кушляны, атрыманы бацькам у спадчыну ў 1837. Дзіцячыя гады пісьменніка прайшлі ў асяроддзі, блізкім да сялянскага. У 1852 ён разам з братам Валяр'янам паступіў

у чатырохкласнае аддзяленне Віленскай гімназіі (называлася таксама па традыцыі базыльянскай школай), потым вучыўся ў гімназіі, якую скончыў у 1861. Асаблівую цікавасць выказваў да славянскіх моў, матэматыкі і заканадаўства. Яшчэ гімназістам Ф. Багушэвіч не застаўся абыякавым да гісторыі і культуры краю, усталяваў сувязі з музеем старажытнасцей у Вільні, перадаўшы туды ў 1856 некалькі прадметаў краязнаўча-археалагічнага характару. Сканчэнне гімназіі супала з магутным грамадска-палітычным уздымам як на Беларусі і ў Літве, так і ва ўсёй Расіі. Многія таварышы Ф. Багушэвіча па вучобе актыўна ўдзельнічалі ў рэвалюцыйных гуртках і палітычных дэманстрацыях. Усё гэта аказвала моцны ўплыў на яго духоўнае станаўленне. У 1861 Ф. Багушэвіч паступіў на фізіка-матэматычны факультэт Пецярбургскага універсітэта, дзе пачаліся тады студэнцкія хваляванні. Як і большасць студэнтаў, ён не прыняў матрыкул (нібыта з-за хваробы) і быў вымушаны пакінуць універсітэт. Вярнуўшыся на радзіму, прыняў удзел у грамадска-рэвалюцыйным руху, быў звязаны з рэвалюцыйным таварыствам «пянткові-чаў» на Ашмяншчыне; каб быць бліжэй да народа, уладкаваўся настаўнікам у народнай школе, арганізаванай у в. Доцішкі Лідскага пав. (цяпер Воранаўскі р-н) памешчыкам А. Звяровічам. У 1863 Ф. Багушэвіч, як і яго брат Валяр'ян, стаў паўстанцам, са зброяй у руках змагаўся супраць царызму ў атрадзе Л. Нарбута, які ўзначаліў паўстанне на Лідчыне. У адным з баёў быў паранены ў нагу і лячыўся на Аўгустоўшчыне ў нейкіх Крушэўскіх. Потым доўга хаваўся ў Вільні. Амаль уся яго сям'я (бацька, брат Апалінар, сястра Ганна) былі прыцягнуты да следства і суда за дапамогу паўстанцам. Кушляны былі секвестраваны. Улады шукалі Францішка і яго брата Валяр'яна. З дапамогай знаёмага па Доцішках Яна Карловіча (у далейшым выдатнага вучонага — мовазнаўца і фалькларыста), які даў грошай на дарогу, Ф. Багушэвічу удалося выехаць на Украіну. У 1865 ён паступіў у Нежынскі юрыдычны ліцэй, які скончыў у 1868. У час вучобы Ф. Багушэвіч зарабляў сродкі на жыццё рэпетытарствам. У 1868 паступіў на службу канцылярскім чыноўнікам у Чарнігаўскае губернскае праўленне, адкуль праз паўгода быў пераведзены ў губернскую палату крымінальнага і цывільнага суда. З таго часу пачалася яго служба судовым следчым (спачатку кандыдатам на гэтую пасаду) у розных паветах Чарнігаўскай губ. У 1871 быў кароткі перапынак у службе з-за хваробы, потым Ф. Багушэвіч зноў працаваў судовым следчым спачатку ў Валагодскай губ. (Гразавецкі пав.), пасля на Украіне — у Борзенскім пав. (цяпер Чарнігаўская вобл.), а ў 1874—84 у Канатопе (цяпер Сумская вобл.). У Канатопе ў 1874 Ф. Багушэвіч ажаніўся з зямлячкай Габрыэляй Міхайлаўнай Шкленік, сям'я якой таксама была звязана з паўстаннем 1863. У іх нарадзіліся дзеці: дачка Канстанцыя (1875) і сын Тамаш (1881). З ростам сям'і раслі і клопаты, з гадамі вырас і прафесійны вопыт Ф. Багушэвіча, а ён усё яшчэ заставаўся на сціплай і малазабяспечанай пасадзе судовага следчага. Некалькі разоў кіраўнікі Нежынскага акруговага суда рабілі прадстаўленні аб пераводзе Ф. Багушэвіча на пасаду члена акруговага суда, але міністэрства юстыцыі кожны раз адхіляла гэтыя прапановы. Магчыма, прасоўванню Ф. Багушэвіча па службе замінала яго непрыкрытае нарадалюбства, пастаянная заклапочанасць народнымі інтарэсамі, а магчыма, службовае становішча пісьменніка ўскладнялася яго каталіцкім веравызнаннем. На роздум Ф. Багушэвіча пра далейшыя жыццёвыя шляхі паўплывалі весткі з радзімы. У 1883 на Беларусі і ў Літве (з вялікім спазненнем) была праведзена судовая рэформа — суды сталі галосныя, з шырокім удзелам прысяжных засядацеляў і адвакатуры. Ф. Багушэвіч вырашыў кінуць бесперспектыўную для яго казённую службу і заняцца адвакатурай у сябе на радзіме. Атрымаўшы адстаўку (з наданнем чарговага чына надворнага саветніка), у 1884 Ф. Багушэвіч перабраўся ў Вільню, дзе стаў адвакатам толькі што ўтворанага Віленскага акруговага суда. Паводле сведчання сучаснікаў, ён быў адным з лепшых прадстаўнікоў адвакатуры краю, вылучаўся красамоўствам, значным юрыдычным вопытам. Але вялікіх капіталаў сваёй адвакацкай дзейнасцю не нажыў, часта згаджаючыся весці справы за мізэрныя ганарары, а калі яны тычыліся беднякоў, то і зусім бясплатна. Яго кватэра на вуліцы Коннай (цяпер Арклю) у Вільні заўсёды поўнілася сялянскімі хадакамі, а ў калег, звязаных з буржуазна-памешчыцкімі коламі, ён заслужыў пагардлівую мянушку «хлапамана», «мужыцкага адваката».

Калі Ф. Багушэвіч пачаў займацца літаратурнай дзейнасцю, невядома. Паводле ўспамінаў, ужо на Украіне ён пісаў вершы, якія разыходзіліся ў рукапісах сярод сяброў і знаёмых. Несумненна, традыцыі ўкраінскай дэмакратычнай літаратуры, творчасць Т. Шаўчэнкі, а таксама багаты вопыт польскай і рускай літаратур уплывалі на яго. Але найбольш плённа яго літаратурная дзейнасць разгарнулася ў віленскі перыяд. Шматлікія вершаваныя творы склалі два паэтычныя зборнікі, выдадзеныя па цэнзурных умовах за мяжою. Там жа асобным выданнем выйшла апавяданне «Тралялёначка». Адначасова Ф. Багушэвіч дасылаў свае публіцыстычныя допісы ў польскі пецярбургскі часопіс «Kraj» («Край»), супрацоўнічаў з варшаўскім этнаграфічным часопісам «Wisła» («Вісла»). Найбольш блізкімі яго сябрамі ў гэты перыяд былі мясцовы інтэлігент, выхадзец з сялян З. Нагродскі, які пакінуў цікавыя ўспаміны пра Ф. Багушэвіча, адвакат А. Карповіч (удзельнік паўстання 1863—64), блізкі сваяк (жончын пляменнік) Г. Радзевіч, адзін з першых расійскіх марксістаў, які разам з жонкай Юліяй быў высланы з Пецярбурга ў Вільню за ўдзел у рэвалюцыйным руху, а таксама Ян Карловіч, каму паэт адкрываў свае галоўныя ідэйныя і творчыя памкненні і каму дасылаў пастаянна свае беларускія творы. Быў блізка знаёмы Ф. Багушэвіч і з таленавітым кампазітарам М. Карловічам, сынам свайго варшаўскага сябра Я. Карловіча, стараўся зацікавіць яго беларускім меласам. З Вільні Ф. Багушэвіч ездзіў у Варшаву, Гродна, дзе сустракаўся з пісьменніцай Э. Ажэшка, якая высока яго цаніла. Некалькі разоў быў за мяжою. Ф. Багушэвіч уваходзіў у камітэт будаўніцтва помніка Адаму Міцкевічу ў Вільні, які ўтварыўся нелегальна ў 1897, актыўна збіраў для гэтага камітэта ахвяраванні. Працаваў над матэрыяламі для беларускага слоўніка, перапісваўся з беларускімі пісьменнікамі А. Ельскім і А. Абуховічам. У 1898 цяжка захварэў (пачатак хваробы адносіўся яшчэ да 1897, калі ў час экскурсіі на лодках па Віліі з Вільні ў Коўна разам з Радзевічам і групай віленскіх інтэлігентаў пісьменнік моцна прастудзіўся). У сувязі з гэтым перабраўся ў Кушляны, дзе праз некаторы час памёр. На яго пахаванне пры-

ехалі калегі і сябры з Вільні, прыйшлі сяляне з ваколіц Кушлян і Жупран, сярод ускладзеных на магілу вянкоў быў вянок ад сялян з надпісам: «Змоўклі песні тыя, што іграў на дудцы». На смерць Ф. Багушэвіча з'явіліся шматлікія некралогі ў польскім і рускім друку (вылучаюцца артыкулы М. Радзіна, Н. Роўбы, Л. Уэмблы; апошні ўключыў у свой артыкул шчымлівы развітальны водгук Э. Ажэшкі).

Ф. Багушэвіч — адна з буйнейшых постацей беларускай літаратуры і грамадскай думкі 2-й паловіны 19 ст. З яго імем звязаны цэлы этап у гісторыі рэвалюцыйнага дэмакратызму на Беларусі, канчатковае ўмацаванне крытычнага рэалізму ў беларускай літаратуры. Яго паэзія вылучаецца адкрытай сацыяльнасцю і тэндэнцыйнасцю. Гэта яркі абвінаваўчы акт, прысуд усяму самадзяржаўна-памешчыцкаму ладу. З імем Ф. Багушэвіча звязаны таксама першыя крокі беларускай мастацкай прозы. Яго прадмовы да паэтычных зборнікаў — сапраўдныя нацыянальна-літаратурныя маніфесты, у якіх з усёй страснасцю адстойвалася права беларускага народа на развіццё ўласнай літаратуры і культуры. Прадмовы, допісы ў «Kraj», а таксама нелегальная брашура пра здзекі царскіх улад над вернікамі ў літоўскім мястэчку Крожы (пытанне пра атрыбуцыю не вырашана канчаткова) — важкі арыгінальны ўклад Ф. Багушэвіча ў публіцыстыку 19 ст. Зразумела, што сацыяльна вострыя творы пісьменніка, за рэдкімі выключэннямі, не маглі друкавацца ва ўмовах царскай Расіі, таму яго кнігі выходзілі пад псеўданімамі за мяжою. Спрыяла Ф. Багушэвічу кракаўскае выдавецтва У. Анчыца, сувязі з якім былі наладжаны пры дапамозе Я. Карловіча. У 1891 у Кракаве надрукаваны першы паэтычны зборнік паэта «Дудка беларуская», у наступным годзе апавяданне «Тралялёначка». А зборнік Ф. Багушэвіча «Смык беларускі» (1894), калі меркаваць па выхадных звестках, надрукаваны ў Познані выдаўцом Р. Нікульскім, але такога выдавецтва ў Познані не было. Магчыма, зборнік выйшаў ва Усходняй Прусіі ў адной з літоўскіх друкарняў. У 1899 Ф. Багушэвіч здаў у Віленскую губернскую друкарню, якой загадваў блізкі яму па сумеснай грамадскай дзейнасці інжынер А. Лапінскі, свой празаічны зборнік «Беларускія расказы Бурачка», але рукапіс не прапусціла цэнзура, і лёс яго цяпер невядомы, як і лёс трэцяга паэтычнага зборніка «Скрыпка беларуская», які пісьменнік рыхтаваў да друку перад смерцю. Крытычных водгукаў на кніжкі Ф. Багушэвіча было надзвычай мала. Царскія ўлады сурова праследавалі распаўсюджвальнікаў яго твораў. Нават у 1908 Пецярбургская судовая палата палічыла занадта сацыяльна вострай, небяспечнай паэзію Багушэвіча, перавыдадзеную выдавецтвам «Загляне сонца і ў наша аконца», і асудзіла выдаўцоў.

У савецкі час творы Ф. Багушэвіча сталі духоўным набыткам усяго народа. У цэнтры Жупран і на яго магіле пастаўлены помнікі. Імя Ф. Багушэвіча прысвоена калгасу ў Ашмянскім р-не (цэнтр у Жупранах), Жупранскай сярэдняй школе (створаны школьны літаратурны музей Ф. Багушэвіча), Ашмянскаму краязнаўчаму музею (ёсць экспазіцыя, прысвечаная пісьменніку, яго асабістыя рэчы). Адрэстаўрыравана сядзіба ў Кушлянах, дзе створаны літаратурны музей. У Дзяржаўным музеі БССР яму прысвечана экспазіцыя (у тым ліку экспануюцца асабістыя рэчы, сямейны альбом Багушэвічаў). Мемарыяльная дошка ўстаноўлена ў Нежыне на будынку, дзе вучыўся Ф. Багушэвіч, яго імем названа вуліца ў Канатопе. Рукапісная спадчына паэта як адзінае цэлае не зберагалася, асобныя яго аўтографы ёсць у сховішчах Вільнюса, Ленінграда, Чарнігава, Львова.

*Г. В. Кісялёў.*

## Бібліяграфія


**1.1.**

Выбр. тв. Мн., 1940. Рэц.: Л я н д р э с І. Перавыданне літаратурнай спадчыны // ЛіМ. 1940. 23 ліп.; М у р а ш к а Р. Школьная бібліятэка беларускіх пісьменнікаў // Полымя. 1941. № 2.

Выбр. тв. Мн., 1946.

Выбр. тв. Мн., 1952.

Творы. Мн., 1967. Рэц.: М а л ь д з і с А. Новае спатканне з класікам // ЛіМ. 1968. 19 сак.

**1.2.**

Dudka Biełaruskaja Macieja Buraczka. Kraków, 1891. Рэц.: Ъ [Р а м а н а ў Е.] Дудка белорусская // Витеб. губ. вед. 1894. 14 сент.; Гродн. губ. вед. 1894. 14 сент.; S o p o d ź k o T. Z piśmiennictwa krajowego // Prz. powsz. 1892. Nr 5; 2 wyd. Kraków, 1896; 3 wyd. Pb., 1907; 4 wyd. Pb., 1914; 5 wyd. Wilnia, 1918.

Tralalonaczka: (Apawiadańnie). Kraków, 1892. [Выд. ананімнае]. Рэц.: Kraj. 1892. Nr 24.

Haspadary, dla was piszym heta apawiadańnie. Kraków, 1893 / Выд. ананімнае. Аўт. спрэчнае.

Smyk Biełaruski Szymona Reŭki z pad Barysawa. Poznań, 1894; 2 wyd., papraŭlenaje. Pb., 1908; 4 wyd. (!). Wilnia, 1918.

Дудка беларуская Мацея Бурачка. Вільня. 1921.

Смык беларускі Сымона Рэўкі з-пад Барысава. Вільня, б. г.

Дудка беларуская / Перадрук кірыліцай з 5-га выд. (лацінкай) з партрэтам пісьменніка і ўступам Я. В. Коўна, 1922.

Дудка беларуская; Смык беларускі. Мн., 1922. Рэц.: Адраджэнне. 1922. Сш. 1. С. 319.

Смык беларускі Сымона Рэўкі з-пад Барысава / Перадрук з 4 выд. Коўна, 1922.

Dudka Biełaruskaja: U 30-ja ŭhodki śmierci Fr. Bahuševiča. Wilnia, 1930.

Dudka Biełaruskaja i Smyk Biełaruski. Wilnia, 1930.

Smyk Biełaruski. Wilnia, 1930.

Вершы. Мн., 1976. (Б-ка бел. паэзіі).

Дудка беларуская. Мн., 1990 / Факс. выданне 1891.

Каму дудка паслушна: Вершы. Мн., 1990.

**1.3.**

**1885.** Wilno: (Koresp. «Kraju») // Kraj. Nr 12, 14, 22, 25, 26, 27, 29, 33 / Усе пад псеўд. Huszicz.

**1886.** Z prowincyi: Wilno, 1 marca / Пад псеўд. Huszicz; Z prowincyi: Wilno, 4 marca [Koresp. «Kraju»] / Пад крыпт. Icz. Аўт. спрэчнае // Kraj. Nr 10.

**1887.** [Listy z prowincyi]: Wilno // Kraj. Nr 2, 4, 5, 6, 9, 10, 11, 12, 15, 18, 21, 22, 25, 28, 31, 34, 37, 38, 41 / Усе пад псеўд. Huszicz; 44 / Пад псеўд. H-cz. Аўт. спрэчнае; 47, 48, 49, 51 / Усе пад псеўд. Huszicz.

**1888.** Wilno: (List «Kraju») // Kraj. Nr 3, 4, 5 / Усе пад псеўд. Huszicz; Wilno: (List «Kraju») // Kraj. Nr 9, 13, 22 / Усе пад псеўд. Demos; Wileński pow.: (List «Kraju») // Kraj. Nr 14 / Пад псеўд. Dem; Wilno: (List «Kraju») // Kraj. Nr 19 / Пад псеўд. Dem; Listy z prowincyi: Wilno // Kraj. Nr 27 / Пад псеўд. Dem; Wystawa z Wilnie // Kraj. Nr 39 / Пад псеўд. Demos.

**1889.** Wilno, 29 grudnia: (Listy z prowincyi) // Kraj. Nr 1 / Пад псеўд. Ten; Listy z prowincyi: Wilno,

10 grudnia; Wilno, 9 lutego: (Listy z prowincyi: Ruch handlowy) // Kraj. Nr 7 / Пад псеўд. Ten; Wilno, 8 marca: (Listy z prowincyi) // Kraj. Nr 12 / Пад псеўд. Ten; Wilno, 28 sierpnia: (Listy z prowincyi) // Kraj. Nr 36 / Пад псеўд. Ten; Wilno, 24 września: (Listy z prowincyi) // Kraj. Nr 40 / Пад псеўд. Tamten; Wilno, 10 października: (Listy z prowincyi) // Kraj. Nr 43 / Пад псеўд. Ten.

**1890.** [Listy z prowincyi]: Wilno // Kraj. Nr 11, 13 / Пад крыпт. А. Д.; Nr 52 / Пад. крыпт. Ten.

**1891.** Wilno, w grudniu: Listy z prowincyi: (Żydzi i my). Kraj. Nr 2 / Пад псеўд. Ten; Listy z prowincyi: Wilno, w marcu // Kraj. Nr 13 / Пад псеўд. Ten; Listy z prowincyi: Wilno, 12 grudnia // Kraj. Nr 51 / Пад псеўд. Ten.

**1894.** Do redaktora // Kraj. Nr 4.

**1896.** Listy z prowincyi: Witebsk, 7 listopada // Kraj. Nr 46 / Пад псеўд Ten. Аўт. спрэчнае.

**1904.** Дурны мужык, як варона; Як праўды шукаюць; У судзе; Мая хата; Бог не роўна дзеле; Кепска будзе; У вастрозе; Быў у чысцы; Калыханка; Панская ласка; Ахвяра; Не цурайся; Свая зямля: [Вершы] // Песні. Б. м.

**1907.** Сведка: Апавяданне // Н. н. 2 сак. / Пад псеўд. Мацей Бурачок; Палясоўшчык: (Апавяданне старога лесніка) // Там жа. 9(22) сак. / Пад псеўд. Мацей Бурачок; Дзядзіна: (Народнае апавяданне) // Там жа. 20 ліп.

**1913.** Прадмова // Беларускі каляндар «Нашай нівы» на 1913 год. Вільня / Пад псеўд. Мацей Бурачок.

**1914.** Не чурайся: [Верш] / Пад псеўд. Сымон Рэўка; Сведка; Палясоўшчык; Дзядзіна; Ігналева сякера: [Апавяданні] / Пад псеўд. Мацей Бурачок. Аўтарства апошняга твора спрэчнае // Беларускі каляндар. 1915. Вільня.

**1918.** Ясне Вяльможнай Пані Арэшчысе: [Верш] // Варта. № 1 / Пад псеўд. Мацей Бурачок.

**1919.** У судзе; Праўда; Не чурайся; Хмаркі: [Вершы] // Дыяменты беларускага прыгожага пісьменства. К. / Пад псеўд. Мацей Бурачок.

**1920.** Нявыданы верш Мацея Бурачка: Ясне Вяльможнай Пані Арэшчысе: [Верш] // Часопісь. № 2 / Пад псеўд. Мацей Бурачок.

**1921.** Дурны мужык, як варона: [Верш] // Дэкламатар. Вільня; Бел. вед. 14 снеж.; Хмаркі; Калыханка; Бог не роўна дзеле; Песня № 7: [Вершы] // Зборнік «Беларускіх ведамасцей». № 1. Вільня; Бел. вед. 14 вер.; У чысцы: [Верш] // Зборнік «Беларускіх ведамасцей». № 2. Вільня.

**1923.** Дурны мужык, як варона; Мая хата; Не цурайся: Калыханка; У вастрозе; Хрэсьбіны Мацюка; Хмаркі; Хцівец і скарб на святога Яна: [Вершы] // Выпісы з беларускае літаратуры. М.; Хрэсьбіны Мацюка; Калыханка; Хмаркі; Мая хатка; Ахвяра; Мая дудка; Не чурайся; Кепска будзе; Быў у чысцы; Дурны мужык, як варона; Бог не роўна дзеліць; Думка; Праўда: [Вершы] // Гарэцкі М. Хрэстаматыя беларускае літаратуры. Вільня; «Каб я мог напісаць тое, штq ў думцы...»: [Верш] // Крывіч. № 5.

**1924.** Быў у чысцы; У судзе: [Вершы]; Сведка: [Апавяданне] // Беларускі дэкламатар. Мн. / Пад псеўд. Мацей Бурачок; Панская ласка: [Верш] // Крывіч. № 1.

**1926.** Палясоўшчык; Сведка: [Апавяданні] // Беларускі народны каляндар: 1927. Вільня / Пад псеўд. Мацей Бурачок.

**1927.** Палясоўшчык; Сведка; Дзядзіна: [Апавяданні] // Беларускі народны каляндар. Вільня / Пад псеўд. Мацей Бурачок; Пан і мужык: [Верш] // Кастрычнік у школе. Мн. / Пад псеўд. Мацей Бурачок.

**1928.** Ахвяра; Дурны мужык, як варона: [Вершы] // Беларускі дэкламатар. Вільня; Быў у чыстцы; У судзе: [Вершы] / Пад псеўд. Мацей Бурачок; Сведка: [Апавяданне] // Дэкламатар. Мн.

**1935.** Палясоўшчык; Сведка; Дзядзіна: Апавяданні // Беларускі народна-гаспадарскі каляндар. 1935. Вільня.

**1940.** Прадмова: [Да зб. «Дудка беларуская»]; Мая дудка; Дурны мужык, як варона; Як праўду шукаюць; У судзе; Воўк і авечка; Мая хата; Праўда; Думка; Бог не роўна дзеле; Хцівец і скарб на святога Яна; Дзе чорт не можа, там бабу пашле; Кепска будзе; У астрозе; Быў у чыстцы: [Вершы]; Прадмова: [Да зб. «Смык беларускі»]; Смык: [Верш]; Песні: І. Удава; II. Гора; III. Песня; IV. Сватаны; V. Сватаная; VI. Песня; VII. Песня; VIII. Калыханка; IX. Песня; X. Хмаркі; Панская ласка; Ахвяра; Скацінная апека; Балада; Не ўсім адна смерць; Не чурайся; Свіння і жалуды: [Вершы]; Дзядзіна: [Нар. апавяданне. Зап. Ф. Багушэвіч]; Палясоўшчык: [Апавяданне старога лесніка]; Сведка: [Апавяданні] // Беларуская літаратура XIX ст. Мн.; Смык; Гора; Калыханка; [Вершы] // Полымя рэвалюцыі. № 3.

**1950.** Прадмова: [Да зб. «Дудка беларуская»]; Мая дудка; Дурны мужык, як варона; Як праўду шукаюць; У судзе; Воўк і авечка; Мая хата; Праўда; Думка; Бог не роўна дзеліць; Хцівец і скарб на святога Яна; З кірмашу; Кепска будзе!; У астрозе; Быў у чысцы; [Вершы]; Прадмова: [Да зб. «Смык беларускі»]; Смык: [Верш]; Песні: І. Удава; II. Гора; III. Песня; IV. Сватаны; V. Сватаная; VI. Песня; VII. Песня; VIII. Калыханка; IX. Песня; X. Хмаркі; Панская ласка; Ахвяра; Скацінная апека; Балада; Не ўсім адна смерць; Не чурайся; Свіння і жалуды: [Вершы]; Дзядзіна; Палясоўшчык; Сведка: [Апавяданні] // Беларуская літаратура XIX ст. Мн.

**1956.** Дудка беларуская: Прадмова; Мая дудка; Дурны мужык, як варона; Як праўду шукаць; У судзе; Воўк і авечка; Мая хата; Праўда; Здарэнне; Думка; З кірмашу; Хрэсьбіны Мацюка; Бог не роўна дзеле; Хцівец і скарб на святога Яна; Гдзе чорт не можа, там бабу пашле; Кепска будзе!; У астрозе; Быў у чыстцы: [Вершы]; Смык беларускі: Прадмова; Смык: [Верш]; Песні: І. Удава; II. Гора; III. Песня; IV. Сватаны; V. Сватаная; VI. Песня; VII. Песня; VIII. Калыханка; IX. Песня; X. Хмаркі; Панская ласка; Ахвяра; Скацінная апека; Балада; Не ўсім адна смерць; Не цурайся; Свіння і жалуды (з Крылова): [Вершы]; Вершы, якія не ўвайшлі ў зборнікі...: Яснавяльможнай пані Арышчысе; «Каму дудка паслушна...»; «Хто пад жалезнай струной запануе...»; «Сабраўшыся на тры чоўна...»; «Каб я мог напісаць тое, што ў думцы...»; «Вецер дзьме і вые...»; «Хутка дагарае веццe...» / Пер. з пол. М. Танк: [Вершы]; Апавяданні: Сведка; Палясоўшчык; Дзядзіна // Беларускія пісьменнікі другой паловы XIX ст. Мн.

**1958.** Мая хата; Праўда; Хрэсьбіны Мацюка: [Вершы] // Ніва. 23 лют.

**1959.** Бог не роўна дзеле: [Верш] // З цемры да святла. Мн.

**1960.** Тралялёначка: Апавяданне // Полымя. № 6.

**1961.** Мая дудка; Воўк і авечка; Мая хата; Праўда; З кірмашу: [Вершы]; Кепска будзе!: (Урывак з паэмы); У астрозе; Быў у чысцы; Песні: Удава; Песня; Калыханка; Хмаркі; Ахвяра; Не цурайся: [Вершы] // Анталогія беларускай паэзіі: У 3 т. Мн. Т. 1.

**1965.** Тралялёначка; Сведка: [Апавяданні] // Беларуская дакастрычніцкая проза. Мн.; Воўк і авечка; Чаго бяжыш, мужычок?; Эпіграма на магната Врублеўскага: [Вершы] // Вожык. № 6; «Szumią jodły...»: [Верш] // Czerw. szt. 3 kwiet.

**1966.** Мая дудка; Дурны мужык, як варона; Воўк і авечка; Бог не роўна дзеле; Кепска будзе!; У астрозе; Гора; Чаго бяжыш, мужычок?; Калыханка; Хмаркі; Мая хата: [Вершы] // Выбр. тв.: XIX і пач. XX ст. Мн.; Бог не роўна дзеле; Воўк і авечка; Калыханка: [Вершы] // Хрэстаматыя па беларускай дзіцячай літаратуры. Мн.

**1967.** Тралялёначка; Палясоўшчык: (Апавяданне старога лесніка); Сведка: [Апавяданні] // Анталогія беларускага апавядання: У 2 т. Мн. Т. 1; Мая дудка; Дурны мужык, як варона; Воўк і авечка; Праўда; Бог не роўна дзеле; Кепска будзе!; У астрозе; Песня [«Чаго бяжыш, мужычок...»]; Калыханка; Ахвяра; Не цурайся: [Вершы] // Беларуская дакастрычніцкая паэзія. Мн.

ва...»: [Верш] / Пер. Н. Віргуш // Молодь Черкащини. 1978. 10 жовт.; «Негадано. Немов пророчий сон...»; «Прийти, у часі помилитись...»; «Слово у серця найперше: Рідна!..»: [Вершы] / Пер. Г. Білоус // Черкас. правда. 1978. 17 вер.; Рідна мова: [Верш] / Пер. Ю. Герасименко // Ленін. зміна. 1980. 23 серп.; Гілочка тиші: [Верш] // Прикарпат. правда. 1982. 11 черв.; «Цілий світ любити можу знов...»; «Ох, ці ж мені поети! Чародії...»; «Серед зими — зелений острівець...»: [Вершы] / Пер. І. Кулик // Прапор юності. 1984. 13 груд.

**На эстонскую мову.** Ja sinu nimi... / Tlk. A. Jaaksoo // Noorus. 1978. Nr 11

**2.3.**

**На беларускай мове.** Б а р а в і к о в а Р. Твая прысутнасць на зямлі... // Работніца і сялянка. 1984. № 4; Б е ч ы к В. У чаканні галоўнага: (Слова ў дыскусіі пра сучасную паэзію) // Бечык В. Прад высокаю красою... Мн., 1984. С. 259—261; Л і п н е в і ч В. «Уласным лёсам спалучыць вякі» // Лім. 1984. 9 сак.: П і с ь м е н н і к і Савецкай Беларусі: Кароткі даведнік. Мн., 1981.

*Т. М. Махнач.*

# БОХАН ДАРАФЕЙ

***Бохан Дарафей Дарафеевіч (псеўд. Д. Б., Д. С. Д о р о ф е е в, Н. С е р е б р я н с к и й, Д. С л и ж е н ь; 4.2.1878; Мінск — ?), журналіст, паэт, празаік, перакладчык, публіцыст. Пісаў на рускай мове.***

Пра жыццё Д. Бохана вядома мала. Сын адстаўнога генерала, заснавальніка Мінскага таварыства ўзаемнага крэдыту. Вучыўся ў Полацкім кадэцкім корпусе і Канстанцінаўскім ваенным вучылішчы ў Пецярбургу. Служыў у арміі артылерыйскім штабс-капітанам. У час руска-японскай вайны 1904—05 быў, відаць, мабілізаваны: некаторыя яго вершы гэтага перыяду напісаны ў Манчжурыі. Карэнны мінчанін Д. Бохан жыў і працаваў пераважна ў родным горадзе. Пачатак літаратурна-журналісцкай дзейнасці адносіцца да канца 1890-х г. Супрацоўнічаў у газетах «Минский листок», «Северо-Западный край», «Голос провинции» (у 1907 быў яе рэдактарам), «Минские ведомости», «Северо-Западная жизнь» і інш. У 1905 намячаўся ў рэдактары беларускага часопіса «Палессе», які меркавалася выдаваць у Мінску. У перыяд рэвалюцыі 1905—07 быў ініцыятарам збору сродкаў на дапамогу ахвярам царскага тэрору ў Пецярбургу і Варшаве, падтрымліваў мінскіх забастоўшчыкаў. Выступаў з лекцыямі ў таварыстве аматараў прыгожага пісьменства. У 1907 быў асуджаны Віленскай судовай палатай і адседзеў 8 месяцаў у мінскай турме за змяшчэнне антыўрадавых матэрыялаў у газеце «Голос провинции». У пачатку 1919 быў супрацоўнікам Наркамасветы БССР. Пасля, відаць, жыў у Вільні.

Прытрымліваўся дэмакратычна-народніцкіх асветніцкіх поглядаў, але ведаў марксісцкія творы, прарэцэнзаваў кнігу У. І. Леніна «Развіццё капіталізму ў Расіі» («Минский листок», 1900), атрымліваў з-за мяжы газету «Искра». Яго творчыя інтарэсы надзвычай шырокія: пераклаў на рускую мову «Слова аб палку Ігаравым», захапляўся мінскай даўнінай, імкнуўся адрадзіць гераічна-рамантычны эпас роднага горада, сабраў і апрацаваў мясцовыя паданні («Мінскія паданні і легенды», 1901), фальклорна-этнаграфічныя матэрыялы, пісаў апавяданні, гістарычныя паэмы і вершы, у якіх праслаўляў барацьбітоў за свабоду і марыў пра светлую будучыню. Друкаваў публіцыстычныя і літаратурна-крытычныя артыкулы, рэцэнзіі, папулярныя брашуры пра А. Міцкевіча і Т. Шаўчэнку. Як крытык адстойваў ідэі рэалізму і высокага грамадскага прызначэння літаратуры, асабліва вылучаў у ідэйна-мастацкіх адносінах творчасць А. Чэхава, У. Караленкі, М. Горкага, адкідаў натуралізм і дэкадэнцтва. Выступаў за справядлівае рашэнне нацыянальнага пытання, супраць шавіністычных партый і груповак. Вітаў з'яўленне беларускага нацыянальнага друку, газету «Наша доля», высока ацаніў змешчаныя ў ёй творы Цёткі, Я. Коласа. У перыяд рэакцыі ў творах Д. Бохана з'явіліся матывы песімізму і разгубленасці.

*Г. В. Кісялёў.*

## Бібліяграфія

**1. 2.**

Глаз христов: Минское предание. Мн., 1898.

Минские предания и легенды. Мн., 1901. Рэц.: Б и б л и о г р а ф и я // Мин. листок. 1902. 24 янв.

**1. 3.**

**1898.** «Не поддавайся снам чарующих мечтаний...», «Ночь, волшебница-ночь, свой воздушный покров...»; «Славно пташки осенней порою...», «На небе тучи грозовые...» (из Ришпена); «Молись, дитя, слова святой молитвы...»; «Видение»: [Вершы] / Пад. псеўд. Н. Серебрянский; «Полные злобою, волны холодныя...»; «Свободы дайте мне, свободы и забвенья...»; Ночью; Море; «Совсем зима-снежок пушистый...»; Зима; «Все снегом покрыто...»; «Плачет буря, небо хмуря...»; Призыв; «Плачет ветер с грустной думой...»; Фантазия; «Будто звук недосказанной сказки...»; Воспоминание (памяти сестры); Проклятие певца (баллада Уланда); Сон (баллада); Гризельда; Могила Бояна: [Вершы] // Колосья: Сборник стихотворений. Мн.; Родился!: [Апавяданне] // Мин. листок. 21 июня; Критические очерки // Там жа. 23 июня; Бобыль: [Апавяданне] // Там жа. 23 июля; «Я не знаю, что было со мною...»: [Верш] // Там жа. 1 сент.; Омут: (Из минских преданий): [Паэма] // Там жа. 22 нояб.; Певец (Из летописей города Минска); [Верш] // Там жа. 20 дек.; «Мир старый свой век отживал...»: [Верш] // Там жа. 25 дек. / Пад крыпт. Б. Аўт. спрэчнае.

**1899.** Призрак: (Из прошлого города Минска) // Мин. листок. 1 янв.; Критические очерки // Там жа. 7 янв.; Князь Глеб Всеславич (Из летописей города Минска): [Паэма] / Там жа. 10 янв.; Два брата (Из Минских преданий): [Паэма] // Там жа. 17 янв.;

Зеленый человечек: [Апавяданне] // Там жа. 28 янв.; Федька Комар: (Минское предание): [Апавяданне] // Там жа. 9, 11, 16 февр.; В Белоруссии: [Вершы] // Там жа. 25 февр.; «Как то вдруг, в час ночной, стало сердцу больней...»: [Верш] // Там жа. 7 марта; Лесная фея: [Верш] // Там жа. 9 марта; Больной: Очерк // Там жа. 18 марта; «Спой, родная, песню...»: [Верш] // Там жа. 28 марта; Критические очерки: Евгений Чириков и его герои // Там жа. 30 марта; С улыбкой любви и привета...»; «О промелькнувших днях будить воспоминания...»: [Вершы] // Там жа. 4 апр.; В глуши: Рассказ // Там жа. 8, 11 апр.; Из старой тетради: [Вершы] // Там жа. 15 авг.; «В светлую минуту вдруг блеснут живые...»: [Верш] // Там жа. 22 авг.; Мишка Калинин: Рассказ старого майора // Там жа. 24, 26 авг., 3, 7, 12, 14, 16, 19, 21, 23, 26, 28, 30 сент., 5 окт.; «Не звучат одинокие песни мои...»: [Верш] // Там жа. 5 сент.; Всеслав Чародей: (Белорусская легенда) // Там жа. 19 окт.; «Таинственный светоч, огонь вдохновенья...»: [Верш] // Там жа. 21 окт.; Толпа: [Верш]; Критические очерки // Там жа. 19 дек.; «Что жизнь? Ни тьмы, ни света...»: [Верш] // Там жа. 26 дек.

**1900.** Библиография: [Рэц. на кн.: Л у н и н А. Труженица. Вольск, 1898; И л ь и н В. Развитие капитализма в России. СПб., 1899] // Мин. листок. 6 янв. / Пад крыпт. Д. Б.; Правда или вымысел: [Апавяданне] // Там жа. 11, 13 янв.; Библиография: [Рэц. на кн.: Ч е р н ы й Д-р. Философия декаденства. Спб., 1899] // Там жа. 13 янв. / Пад крыпт. Д. Б.; Водяной: Из минских преданий: [Паэма] // Там жа. 25 янв.; Библиография: [Рэц. на кн.: Г н е д и ч П. Туманы. Спб., 1900] / Пад крыпт. Д. Б.; Мелодия: [Верш] // Там жа. 1 февр.; К пристани!: [Верш] // Там жа. 10 февр.; Не зови!: [Верш] // Там жа. 22 февр.; Черт: Происшествие: [Апавяданне] // Там жа. 24 февр.; Два голоса: [Верш]; Поп: Случай с Петром Иванычем: [Апавяданне] // Там жа. 29 февр.; «О Жизнь, почему я...»: [Верш] // Там жа. 5 марта; Месть шинкаря: [Паэма] // Там жа. 12 марта; Хитроумный Сабайон: Из воспоминаний старого кадета // Там жа. 2, 13, 18 апр.; Картошка: Из рассказа старого холостяка // Там жа. 23 апр.; С. Я. Надсон как выразитель идей и стремлений современного общества // Там жа. 27 апр.; 2, 4, 9, 16, 18 мая; Ангел и Демон (Из Шамиссо): [Верш] // Там жа. 21 мая; У Креста: Рассказ // Там жа. 25 мая: О читателе: Ответ г. Ивановичу // Там жа. 13 июня; Разбойники пера: Нечто о журнале «Словцо» // Там жа. 15 июня; Грезы: Отрывки [з вершаў] // Там жа. 20 июня; Юбилей почтового союза // Там жа. 27 июня; Бессилие; Над рекою (по мотивам Гейне): [Вершы] // Там жа. 29 июня; Маленький фельетон: [Верш] // Там жа. 4 июля; Заколдованный дом: Из записной книжки офицера // Там жа. 11, 13, 16 июля; Таинственная монахиня: Рассказ помещика // Там жа. 27, 30 июля; Мир и война: Несколько мыслей по поводу недавнего события // Там жа. 1, 3, 6 авг.; На распутьи: Диалоги // Там жа. 13 авг.; Цветы: [Верш] // Там жа. 17 авг.; Во тьме: [Верш] // Там жа. 22 авг.; «Тихо плывет золотистая ночь над землею...»: [Верш] // Там жа. 27 авг.; Из области курьезов // Там жа. 7 сент.; Из старой тетради: [Вершы] // Там жа. 26 сент.; Старая канитель // Там жа. 1 окт.; «Отчего я плачу...»; «Ты вчера весь вечер...»: [Вершы] // Там жа. 3 окт.; Образец буржуазной морали: Критический очерк // Там жа. 8, 10 окт.; Из старой тетради: «Ужель она была, забытая любовь...»; «Пусть в мире зла, тревоги и насилья...»: [Вершы] // Там жа. 10 окт.; Месть: Захолустные драмы // Там жа. 12 окт.; Новый разбойник пера: Заметки читателя: Фельетон // Там жа. 24 окт.; «Вспомни о том, как когда-то...»: [Верш]; «Нам пишут из Москвы» / Пад крыпт. Д. Б. Аўт. спрэчнае; Библиография: [Рэц. на кн.: Т а н Г. Стихотворения. Спб., 1900] // Там жа. 29 окт.; Библиография: [Рэц. на кн.: П. Я. Стихотворения. Спб., 1899] // Там жа. 31 окт.; «Ночь тиха... В беспредельности тают...»: [Верш]; Ох, уж эти «литераторы»!: (Мой ответ «Киевской газете») // Там жа. 5 нояб.; На вышке: Эскиз // Там жа. 26 нояб.; Белоруссия: [Верш] // Там жа. 25 дек.

**1901.** «Зачем бесцельные упреки...»: [Верш] // Мин. листок. 1 янв.; Афоризмы; Ландыши: [Верш] // Там жа. 4 янв.; Прежде и ныне // Там жа. 26, 28 янв.; Из дневника: [Верш]; Фемиде: [Апавяданне] // Там жа. 18 февр.; Вера: [Верш] // Там жа. 4 марта; Сенька Сокол: Минское предание // Там жа. 6 марта; Критические очерки // Там жа. 11 марта; Критические очерки // Там жа. 22 марта; «Бывают минуты...»: [Верш] // Там жа. 17 апр.

**1902.** Звуки жизни: [Верш] // Мин. листок. 1 янв.; Библиография: [Рэц. на кн.: П. Я. Стихотворения. Спб., 1901. Т. 2] // Там жа. 6 янв. / Пад крыпт. Д. Б.; Куда?: [Верш] // Там жа. 10 янв.; Цветы неверности: Африканская легенда // Там жа. 13 янв.; Из забытой тетради: [Вершы] // Там жа. 22 янв.; Критические очерки // Там жа. 24 февр.; Из забытой тетради: Молитва гения; Весной: [Вершы] // Там жа. 25 апр.; Цветочница: [Апавяданне] // Там жа. 24 мая; Просьба: Из М. Романовского: [Верш] // Там жа. 3 июля; Минск и минчане: Очерки // Там жа. 21, 28 июля, 4, 11 авг.; «Над городом, сладко уснувши...»; «Словно пташки осенней порою...»: [Вершы] // Там жа. 26 июля; Поборник правды // Там жа. 12 сент.; Библиография: [Рэц. на кн.: П л е т н е в А. Типы и картинки Парижской жизни. Спб., 1902] // Там жа. 18 сент. / Пад крыпт. Д. Б.; Библиография: [Рэц. на кн.: К и п л и н г Р. По склонам нагорья и трущобам Калькутты. К., 1902] // Там жа. 22 сент. / Пад крыпт. Д. Б.; Эмиль Золя и натурализм // Там жа. 25 сент.; Этюды о польских писателях. (Александр Свентоховский) // Сев.-Зап. край. 12 дек.; Правда: [Верш] // Там жа. 13 дек.

**1903.** «Огня былого вдохновенье...»: [Верш] // Сев.-Зап. край. 12 апр. / Пад псеўд. Д. Слижень; В дороге: [Верш] // Там жа. 18 апр. / Пад псеўд. Д. Слижень; «Люблю тебя, звезда души моей...»: [Верш] / Пад крыпт. Д. С.; «Под грушой»: [Апавяданне] / Пад псеўд. Д. Слижень // Там жа. 26 апр.; Доля: [Верш] / Пад крыпт. Д. С.; Размен десятирублевки: [Апавяданне] / Пад псеўд. Д. Слижень // Там жа. 30 апр.; Поэзия: [Верш] // Там жа. 25 мая / Пад псеўд. Д. Слижень; Чудесный ключ: Восточная легенда // Там жа. 30 мая / Пад псеўд. Д. Слижень; Праздник венков и огня: (24 июня) // Там жа. 24 июня / Пад псеўд. Д. Слижень; Истинная дружба: (Турецкое сказание) // Там жа. 18 июля / Пад псеўд. Д. Слижень; Перед зарёю: [Верш] // Там жа. 20 июля / Пад псеўд. Д. Слижень; Анатом: [Верш] // Там жа. 15 авг. / Пад псеўд. Д. Слижень; На лоне природы; Меч; Звезда: [Вершы] // Там жа. 17 авг. / Пад псеўд. Д. Слижень; Этюды о польских писателях: Адам Асньік // Там жа. 16 сент. / Пад крыпт. Д. С.; Литературное обозрение // Там жа. 10 окт. / Пад псеўд. Дорофеев; Любовь: [Верш] // Там жа. 24 окт. / Пад псеўд. Д. Слижень; Адам Плуг: (Некролог) // Там жа. 25 окт. / Пад псеўд. Д. Слижень; Литературное обозрение // Там жа. 31 окт. / Пад псеўд. Дорофеев.

**1905.** Новый год: [Верш] // Сев.-Зап. край. 3 янв.; Николай Рей, отец польской поэзии: (По поводу польской поэзии) // Там жа. 26 янв.; Из польской старины // Там жа. 10 февр.; О Родина моя!: [Верш] // Там жа. 15 февр.; Слышим и видим: [Верш] // Там жа. 19 февр.; Весна: [Верш] // Там жа. 20 февр.; Наедине: [Верш] // Там жа. 8 мая; «Телячье стадо раз играло...»: (Басня) // Там жа. 14 мая: Песни узника: [Верш] // Там жа. 31 мая; Неделя революционера; «Не надо нам песен твоих...»: [Вершы] // Там жа. 1 нояб.; «Слышишь колокола звуки?..»: [Верш] // Там жа. 6 дек.

**1912.** Вучыце дзяўчат // Н. н. 29 ліст. / Пад крыпт. Б-н. Аўт. спрэчнае.

**1923.** Володька-инженер: Рассказ // Красный молот. № 2 / Пад крыпт. Б-н. Аўт. спрэчнае.

**1926.** Россия в чешской поэзии // День русской культуры (Вильно), 1926. [Вып. 1]; O mniejszość rosyjską // Prz. Wileński. Nr 22.

**1927.** Polemika o mniejszość rosyjska // Prz. Wileński. Nr 5.

1977. Сотрудникам редакции. 17 апреля 1905 г.; Слышишь колокола звуки?..»; Певцу весны; Вера; Огонёк: [Вершы] // Бас І. Літаратуразнаўчыя эцюды. Мн.

1. 4.

Игорь, князь Северский: Древнерусская поэма в поэтич. переложении Д. Бохана. Мн., 1897; 2 выд. Мн., 1897.

Из польской поэзии. Мн., 1906.

1899. Мицкевич А. Романтичность: Баллада / С пол. // Мин. листок. 8 авг.

1900. Лилль Л. де. Из песен сердца: [Верш] / С фр. // Мин. листок. 6 янв., 9 марта; Мицкевич А. Подснежник / С пол. // Там жа. 9 янв.; Сырокомля В. Почтальон: [Верш] / С пол. // Там жа. 30 ноябр.

1901. Мицкевич А. Фарис: Баллада / С пол. // Мин. листок. 15 апр.; Сырокомля В. Сон и гаданье: [Верш] / С пол. // Там жа. 10 мая.

1902. Тетмаер К. В горах: [Вершы] / С пол. // Мин. листок. 6 янв.; Адамович Б. Из «мелодий»: [Вершы] / С пол. // Там жа. 22 сент.; Витвицкий С. Морщины: [Верш] / С пол. // Сев.-Зап. край. 23 нояб.

1903. Мицкевич А. Воспоминание: Сонет / С пол. // Сев.-Зап. край. 11 мая / Пер. пад псеўд. Д. Слижень; Тетмаер К. Всегда одни: [Верш] / С пол. // Там жа. 30 мая / Пер. пад псеўд. Д. Слижень; Совинский Л. Ответ: [Верш] / С пол. // Там жа. 6 июня / Пер. пад псеўд. Д. Слижень; Гомулицкий В. К сербам: [Верш] / С пол. // Там жа. 10 июня / Пер. пад псеўд. Д. Слижень; Немоевский А. Вперед!: [Верш] / С пол. // Там жа. 21 июня / Пер. пад псеўд. Д. Слижень; Мицкевич А. Без границ: [Верш] / С пол. // Там жа. 29 июня / Пер. пад псеўд. Д. Слижень; Вержбицкий И. Туча; Гармония: [Вершы] / С пол. // Там жа. 16 июля / Пер. пад псеўд. Д. Слижень; Асных А. На поле битвы: [Верш] / С пол. // Там жа. 22 июля / Пер. пад псеўд. Д. Слижень; Вербицкий И. В море: [Верш] / С пол. // Там жа. 23 июля / Пер. пад псеўд. Д. Слижень; Ленартович Т. Бывало: [Верш] / С пол. // Там жа. 21 авг. / Пер. пад крыпт. Д. С.; Асных А. Одинокая верба: [Верш] / С пол. // Там жа. 2 авг. / Пер. пад псеўд. Д. Слижень; Дембицкий З. «Эти прекрасные руки...»: [Верш] / С пол. // Там жа. 3 сент. / Пер. пад псеўд. Д. Слижень; Конопницкая М. «Едва ли найдется где бедняк...»: [Верш] / С пол. // Там жа. 5 сент. / Пер. пад псеўд. Д. Слижень; Мицкевич А. Призыв в Неаполь: [Верш] / С пол. // Там жа. 10 сент. / Пер. пад псеўд. Д. Слижень; Глинский К. Олмен; Падишах; Бернацкий М. Идиллия: [Вершы] / С пол. // Там жа. 12 сент. / Пер. пад псеўд. Д. Слижень; Словацкий Ю. На перенесение останков Наполеона: [Верш] / С пол. // Там жа. 19 сент. / Пер. пад псеўд. Д. Слижень; Оппман А. Пойдем за ним: [Верш] / С пол. // Там жа. 9 нояб. / Пер. пад псеўд. Д. Слижень; Вержбицкий И. Плач Словинцев: [Паэма] / С пол. // Там жа. 12 нояб. / Пер. пад псеўд. Д. Слижень; Джакометти. Дума: [Верш] / С итал. // Там жа. 19 нояб. / Пер. пад псеўд. Д. Слижень.

1905. Моя молитва: [Верш] / С пол. // Сев.-Зап. край. 12 марта; Кохановский Я. Из поэзии; Асных А. Орфей и вакханки: [Вершы] / С пол. // Там жа. 15 марта.

1910. Мицкевич А. Сон; Словацкий Ю. Совесть; Тетмайер К. Березы: [Вершы] / С пол. // Земные сны. Мн.

2.3.

**На беларускай мове.** Бас І. Жадаў ён шчасця Беларусі // Бас І. Літаратуразнаўчыя эцюды. Мн., 1977; Яго ж. Літаратурныя пошукі, знаходкі, даследаванні. Мн., 1969. С. 112—114; Яго ж. Справа аб Дарафею Бохане // Маладосць. 1976. № 8; Лапідус Н. Песні і легенды старога Мінска // ЛіМ. 1967. 13 чэрв.

**На рускай мове.** Дорошевич Э., Конон В. Очерк истории эстетической мысли Белоруссии. М., 1972. С. 220—224; Конон В. Вопросы эстетики в периодической печати // Очерки истории философской и социологической мысли Белоруссии (до 1917 г.). Мн., 1973. С. 422—425; По поводу статьи г. Д. Бохана «Печать и общество» // Мин. листок. 1902. 19 марта; Рожин Н. Газета «Северо-Западный край»: Очерк общественнополитической, философской и эстетической позиции. Мн., 1970. С. 150—152.

3.1

ЦБ АН Літвы, аддз. рукап., ф. 155, адз. зах. 155—230; ЦДГА Літвы, ф. 445, воп. 1, спр. 3913.

*В. М. Грышкевіч.*

## БРАЙЦАЎ ЯКУБ



*Брайцаў Якуб (Якаў Раманавіч; 19.2.1861, в. Забялышын Клімавіцкага пав. Магілёўскай губ., цяпер Хоцімскага р-на Магілёўскай вобл.— 23.3.1931, таксама), празаік, драматург, паэт. Пісаў на рускай мове.*

З сялянскай сям'і. Скончыў пачатковую школу ў роднай вёсцы і Клімавіцкае павятовае вучылішча. Захапляўся рускай літаратурай, асабліва М. Някрасавым. Працаваў памочнікам пісара Забялышынскага валаснога праўлення, канторшчыкам цукровага завода на Украіне (г. Трасцінец-

Падольскі). На пачатку 1880-х гадоў паехаў у Маскву, дзе ўладкаваўся бухгалтарам у канторы купца-кветкавода Ф. Ноева. У вольны час шмат чытаў, наведваў Румянцаўскую публічную бібліятэку. Каб здабыць сродкі на жыццё і для выдання сваіх твораў, Я. Брайцаў узяўся за адвакацкую справу, адкрыў у Маскве кветкавы магазін, але неўзабаве абанкруціўся, і набраны ўжо зборнік яго аповесцяў і апавяданняў з-за адсутнасці сродкаў не выйшаў у свет. Пражыўшы ў Маскве два дзесяцігоддзі, Я. Брайцаў у 1900 вярнуўся на радзіму, дзе заняўся гаспадаркай, а таксама адвакацкімі клопатамі па сялянскіх справах. У 1905 за захоўванне нелегальнай літаратуры за ім устанавілі паліцэйскі нагляд. Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі Я. Брайцаў працаваў у Клімавіцкім павятовым выканкаме, быў членам калегій аддзела сацыяльнай аховы і зямельнага аддзела, у 1925—27 выкладаў у Забялышынскай школе сельскай моладзі. Быў членам Усерасійскага саюза сялянскіх пісьменнікаў.

У 1884 напісаў першы твор — апавяданне «Дудалёва лаза». Праз некаторы час выдаў у Маскве за свой кошт і з дапамогай прыхільнікаў аповесць «Багацеі» (1889), якую Я. Карскі назваў «таленавітым творам», адзначыўшы ў аўтара «тонкае веданне беларускай вёскі». У аповесці паказана пранікненне капіталізму ў парэформенную вёску, згубленая ўлада грошай. Побыт і тыпы роднай Клімаўшчыны паказваліся і ў іншых творах гэтага перыяду: аповесцях «Няўдашачка Анюта» (1887), «Старая вёска». Апавяданне «Юда» (1889) напісана пад уплывам філасофіі Л. Талстога. У 1905 Я. Брайцаў напісаў камедыю «Цыганова бяда» пра беларускую вёску часоў першай расійскай рэвалюцыі. Яго сацыяльна-бытавы раман «Сярод балот і лясоў» (1913—16), дзе выведзены вядомы рэвалюцыянер-экспрапрыятар А. Савіцкі, як і многія іншыя творы, не быў надрукаваны. Актыўна супрацоўнічаў у савецкім друку, пасылаў допісы ў «Крестьянскую газету» (Масква), пісаў вершы і апавяданні. Напісаная ў 1925—26 аповесць «Гаспадар» цікавая крытыкай аднаасобнай гаспадаркі. У мове твораў Я. Брайцава шмат беларусізмаў. Яго творчасць прычынілася да мастацкага засваення беларускай рэчаіснасці эпохі крызісу капіталізму і вялікіх рэвалюцый, да станаўлення беларускай мастацкай прозы.

У пасляваенны час сын пісьменніка прафесар Маскоўскага медыцынскага інстытута В. Я. Брайцаў перадаў у ЦДАМЛіМ БССР архіў Я. Брайцава, у тым ліку рукапісы многіх яго неапублікаваных твораў.

*Г. В. Кісялёў.*

## Бібліяграфія


1.2.

Беда цыгана: Этюд. М., 1887.

Богачи: Повесть из белорусской простонародной жизни. М., 1889, Рэц: P o w i e ś ć z życia białorusinów // Prz. Literacki. Dodatek do «Kraju». 1890. Nr 2.

1.5.

**На беларускую мову.** Багачы: [Урывак з аповесці] // Гарэцкі М. Хрэстаматыя беларускае літаратуры. Вільня, 1923; Дудалёва лаза: Апавяданне // Беларусь. 1966. № 9.

2.3.

**На беларускай мове.** К а в а л е н к а В. Вытокі Уплывы. Паскоранасць. Мн., 1975. С. 176—178; К о й д а н а ў с к і С. Якуб Брайцаў: Да стагоддзя з дня нараджэння // ЛіМ. 1961. 17 лют.; Л а р ч а н к а М. Па шляху рэалізма. Мн., 1959. С. 106—109; Х р о м ч а н к а К. Беларуская мастацкая проза (канец XIX — пачатак XX ст.). Мн., 1979. С. 19—21; Ш у ш к е в і ч С. Усё — за жыццё, і нічога — супраць // Голас Радзімы. 1981. 8 кастр.; Я г о ж. Якуб Брайцаў // Беларусь. 1966. № 9; Я к у б Б р а й ц а ў // ЛіМ. 1961. 10 сак.

**На рускай мове.** К а р с к и й Е. Белорусы. Пг., 1922. Т. 3. Вып. 3. С. 143.

3.1.

ЦДАМЛіМ БССР, ф. 7, воп. 1, спр. 1—27.


*В. М. Грышкевіч.*

# БРАНШТЭЙН ЯКАЎ



*Браништэйн Якаў Анатольевіч (псеўд. Я. Бр.; 10.11.1897, Бельск Гродзенскай губ., цяпер Польшча — 29.10.1937, Мінск), крытык, літаратуразнавец. Член-карэспандэнт АН БССР (1936). Член СП СССР з 1934. Пісаў на яўрэйскай, беларускай і рускай мовах.*

Нарадзіўся ў сям'і служачага. З 1914 да 1918 жыў у Варшаве. У 1919 пераехаў у Савецкую Расію (Арол), дабраахвотна пайшоў у Чырвоную Армію, ваяваў на Заходнім і Туркестанскім франтах. Пасля дэмабілізацыі ў 1921 працаваў у рэдакцыі газеты «Орловская правда». Скончыў літаратурны факультэт 1-га Маскоўскага універсітэта (1925), вучыўся ў Камуністычнай акадэміі (1926—30). Член КПСС з 1925. У 1930—37 навуковы супрацоўнік Інстытута літаратуры і мастацтва АН БССР, адначасова з 1932 прафесар Мінскага пединстытута. Выбіраўся адказным сакратаром СП БССР (1932—37), удзельнічаў у Першым усесаюзным з'ездзе савецкіх пісьменнікаў (1934). 6 чэрв. 1937 быў незаконна арыштаваны, 28 кастр. 1937 прысуджаны да вышэйшай меры пакарання. Рэабілітаваны ў 1956.

Друкавацца пачаў у 1918, з літаратурна-крытычнымі артыкуламі пачаў выступаць з 1925, друкаваў іх у яўрэйскім часопісе «Штэрн». Разглядаў як агульнаметадалагічныя светапоглядныя пытанні, так і творчасць асобных пісьменнікаў (Я. Купалы, Я. Коласа, А. Александровіча, М. Зарэцкага, М. Лынькова, І. Харыка і інш.). Пісаў пра ўплыў творчасці А. Пушкіна на беларускую літаратуру. У тэарэтычных канцэпцыях беспадстаўна атаясамліваў метад са светапоглядам, супрацьпастаўляў рэалізм усім іншым «антырэалістычным кірункам». Памылкова лічыў, што ўздым мастацкай культуры непасрэдна залежыць ад уздыму палітычнай свядомасці творцы, а значыць, ад палітычнай накіраванасці мастацкай літаратуры. Прытрымліваўся характэрных для таго часу вульгарна-сацыялагічных пазіцый і ў ацэнцы беларускай дакастрычніцкай літаратуры, а таксама дзейнасці літаратурна-мастацкіх арганізацый «Маладняк», «Узвышша». *І. Э. Багдановіч.*

## Бібліяграфія


1.2.

Атака: (Зборнік артыкулаў). Мн., 1930 / Яўр.

Аб стане яўрэйскай літаратуры ў перыяд рэканструкцыі. Мн., 1932 / Яўр.

Вынікі 15-гадовай барацьбы за марксізм-ленінізм у літаратуразнаўстве. Мн., 1932 / Яўр.

Праблемы ленінскага этапа ў літаратуразнаўстве. Мн., 1932 / Яўр. Рэц.: Рубіна Р. За ленінскае літаратуразнаўства // ЛіМ. 1933. 26 ліст.

На замацаваных пазіцыях. Мн., 1934 / Яўр.

Літаратурная вучоба: У дапамогу выкладчыкам літаратуры і кіраўнікам літгурткоў. Вып. 1. Мн., 1935. Рэц.: К. // ЛіМ. 1935. 30 вер.

Творчыя праблемы ў яўрэйскай савецкай паэзіі. Мн., 1936 / Яўр.

1.3.

**1918.** В вагоне: (Рассказ) // Сов. Правда. № 28.

**1924.** [Рэц. на кн.: Книга для чтения по истории новейшей русской литературы. Л., 1924] // Изв. Гомел. губ. ком. РКП. № 81 / Пад крып. Я. Бр.

**1925.** Праблемы марксісцкай крытыкі мастацтва // Штэрн. № 2 / Яўр.; Яўрэйская пралетарская літаратура на другім этапе // Там жа. № 3 / Яўр.

**1926.** Паэт і грамадзянін: (Да стагоддзя паэзіі дзекабрыстаў // Штэрн. № 1 / Яўр.; «Вялікае перасяленне» лірыкаў // Там жа. № 2—3 / Яўр.; Бібліяграфічныя нататкі // Там жа. № 4 / Яўр.; [Рэц. на кн.: Харык І. На зямлі. М., 1926] // Там жа. № 5—6 / Яўр.; У Касрылаўскім завулку // Там жа. № 9—10 / Яўр.

**1927.** Пытанні марксісцкага мастацтвазнаўства: (Для абмеркавання) // Штэрн. № 5—6 / Яўр.; М. Даніэль (Мееровіч): (Літаратурны нарыс) // Там жа. № 12 / Яўр.

**1929.** Кроў і плоць // Штэрн. № 2 / Яўр.

**1930.** Без пальчатак: (Некалькі слоў да 5-ці гадовага юбілею часопіса «Штэрн») // Штэрн. № 5—6 / Яўр.; Супраць глінянай люлькі і гаршчочкаў // Там жа. № 9 / Яўр.; Творчыя праблемы яўрэйскай савецкай паэзіі // Там жа. № 11 / Яўр.

**1931.** Абрам Уры Коўнэр; Літаратурна-крытычныя вынікі // Цайтшрыфт. Т. 5 / Яўр.; Вынікі барацьбы за дыялектыка-матэрыялістычныя метады літаратуразнаўства; За пралетарскі нарыс // Штэрн. № 4—5 / Яўр.; Адказ маім крытыкам // Там жа. № 8—11 / Яўр.; Памяці бальшавіцкага крытыка: [Некралог] // Там жа. № 10—11 / Яўр.

**1932.** У барацьбе за ленінскі этап у літаратуразнаўстве // Штэрн. № 3—5 / Яўр.; На мове мастацтва // Там жа. № 10—12 / Яўр.; Яўрэйская пралетарская літаратура БССР // ЛіМ. 11 крас. / Сааўт. Х. Дунец, І. Харык; Супраць вульгарызатарства // Там жа. 8 кастр.; Барацьба на два франты працягваецца: (Нататкі на палях часопісаў) // Там жа. 19 ліст.

**1933.** Творчы шлях З. Аксельрода // Афн вісншафтлехн фронт. № 3—4 / Яўр.; Маркс і літаратуразнаўства // Полымя рэвалюцыі. № 4; Штэрн. № 3 / Яўр.; Апошні рэйд шукальнікаў хараства з Сівецкага с-с // Полымя рэвалюцыі. № 8—9; Аб сац. рэалізме і праўдзе ў мастацтве // Штэрн. № 2 / Яўр.; Яшчэ раз да пытання аб палітычным узроўні нашых выступленняў // За пралетарскую навуку. 16 ліст.; Тварам да чытача мастацкай літаратуры // Звязда. 25 жн.; Маркс і мастацкая літаратура // ЛіМ. 19 сак.; Спрэчныя пытанні драматургіі // Там жа. 24 мая; Творчыя пытанні дзіцячай літаратуры: (Аб утапічнай і экзотыка-рэвалюцыйнай аповесці Я. Маўра) // Там жа. 9 ліп.; Пра ўтапічную аповесць Маўра // Там жа. 15 ліп.; Патрэбен перелом // Там. жа. 28 ліп.; Уключыць паэзію ў рэвалюцыйную практыку // Там жа. 13 жн.; Вынікі двух паэтычных нарад // Там жа. 27 жн.; Літаратурную крытыку на трыбуну чысткі // Там жа. 6 вер.

**1934.** Творчая праблема дзіцячай літаратуры: (Аб утапічнай і экзотыка-рэвалюцыйнай аповесці Янкі Маўра) // Аб дзіцячай літаратуры. Мн.; «Недарасль» у БДТ-1 і праблема літаратурная спадчыны ў тэатры // Драматургія. Мн.; Аб рамане Крапівы «Мядзведзічы» // За высокую якасць літаратуры. Мн.; ЛіМ. 12 мая; На шляху творчай перабудовы // Крытыка-бібліяграфічны зборнік. Мн.; [Прамова на Першым Усесаюзным з'ездзе савецкіх пісьменнікаў] // Первый Всесоюзный съезд советских писателей. 1934: Стенографический ответ. М.; Мастацкая літаратура к першаму з'езду савецкіх пісьменнікаў // Бальшавік Бел. № 8; Старые и новые образы: (Заметки о бел. прозе) // Лит. критик. № 7—8; Пра беларускую савецкую прозу // Полымя рэвалюцыі. № 8; ЛіМ. 10, 12 ліп.; Сымон Баранавых на раздарожжы // Полымя рэвалюцыі. № 12; Па прамому шляху да сацыялістычнага рэалізму: Аб паэтычным шляху Г. Камянецкага // Штэрн. № 2 / Яўр.; Творчыя праблемы яўрэйскай савецкай паэзіі // Там жа. № 10 / Яўр.; Памяці А. В. Луначарскага // Звязда. 3 студз.; «На чырвоных лядах»: (Заметкі) // Там жа. 9 чэрв.; З даклада на Усебеларускім з'ездзе пісьменнікаў // Там жа. 12 чэрв.; Улічыць багацейшы вопыт усяго літаратурнага фронта СССР; (З прамовы на Усесаюзным з'ездзе пісьменнікаў) // Там жа. 9 вер.; Критика и опыт национ. литератур: Речь Я. Бронштейна // Известия. 4 авг.; Рыхтую кнігу крытыкі // ЛіМ. 6 студз.; Узмацнім пільнасць на фронце мастацкай мовы // Там жа. 12 студз.; Партыя канкрэтна кіруе // Там жа. 20 студз.; Ленін і літаратура: (Да 10-й гадавіны з дня смерці У. І. Леніна) // Там жа. 26 студз.; «Недарасль» у БДТ-1 і праблема літаратурнай спадчыны ў тэатры // Там жа. 12, 16 лют.; З выступлення на канферэнцыі // Там жа. 21 лют.; Праблемы стылю ў творчасці маладых празаікаў // Там жа. 28, 31 сак.; Пра старыя

галёшы і пра наватарскія балеткі: (Адказ на рэплікі Б. Мікуліча) // Там жа. 26 крас.; Пра беларускую савецкую прозу: Даклад на 1 з'ездзе ССП БССР // Там жа. 10 ліп.; Улічыць багацейшы вопыт усяго літаратурнага фронта СССР // Там жа. 5 вер.; Будзем вучыцца // Там жа. 31 кастр.; Эрэнбург у пошуках стылю // Там жа. 24 ліст.; Плённыя зрухі: [Прамова На III пленуме ССПБ]; Паэма «Цені на сонцы». А. Александровіча: План гутаркі // Там жа. 30 снеж.; Певец романтической реальности // ЛГ. 8 июня; Писатели Белорусской ССР, делегаты Первого всесоюзного съезда,— тов. Сталину // Правда. 1 авг. / Сааўт. А. Александровіч, П. Броўка; Лучше знать национальные литературы // Там жа. 4 авг.

**1935.** Пясняр сацыялістычнага народа // Купала Я. Выбр. тв. Мн. Т. 1. Улічыць багацейшы вопыт усяго літаратурнага фронта СССР // Пісьменнікі БССР на першым Усесаюзным з'ездзе савецкіх пісьменнікаў. Мн. Кн. 2; Пытанні тэорыі і практыкі літаратурнага паходу // Полымя рэвалюцыі; № 2; ЛіМ. 28 лют.; Аб крытыцы // Полымя рэвалюцыі. № 6; Пятнаццацігадовы творчы шлях Ізі Харыка // Там жа. № 11; Творчыя праблемы яўрэйскай савецкай паэзіі // Штэрн. № 1, 5—6 / Яўр.; Ізі Харык // Звязда. 17 ліст.; Ля вытокаў: (Я. Купала ў перыяд рэвалюцыі 1905 г). // Там жа. 11 снеж.; Андрэй Александровіч: (Партрэт) // Там жа. 28 снеж.; «Над ракой Арэсай» Янкі Купалы: (Метод-распрацоўка) // ЛіМ. 26 студз.; «Дрыгва» Якуба Коласа: (Метод-распрацоўка) // Там жа. 31 студз.; Палес. праўда. 15 лют.; Сатырычная паэзія К. Крапівы // ЛіМ. 2 лют.; За бальшавіцкую пільнасць, як сістэму ў рабоце // Там жа. 12 лют.; Пакончыць з гнілым лібералізмам і сямейственасцю ў літаратуры // Там жа. 16 лют.; Аповесць Зм. Бядулі «Салавей»: (Метод-распрацоўка) // Там жа. 27 лют.; Яшчэ раз да пытання аб лёсе ворагаў у беларускай літаратуры: (Трансфармацыя вобраза «Музыкі») // Там жа. 10, 16 крас.; Даклад на 5-ым пленуме Праўлення ССПБ // Там жа. 26 крас.; Ля вытокаў // Там жа. 28 мая; За высокую лірыку сацыялізма: (Пра ўзаемаадносіны лірычнага і паэтычнага ў творчасці Андрэя Александровіча) // Там жа. 6, 12 жн.; У абарону спадчыны; Таямніца харaства // Там жа. 23 кастр.; Проза на ўздыме // Там жа. 7 ліст.; Ізі Харык: (Да 15-ці годдзя творчай дзейнасці) // Там жа. 17 ліст.; Янка Купала // Там жа. 11 снеж.; Правда. 27 июля; Чырв. Полаччына. 17 вер.

**1936.** Янка Купала: [Нарыс творчасці] // Лит. критик. № 1; Памяці Фурманава // Полымя рэвалюцыі. № 4; І. Фефер // Там жа. № 9; Трыццаць год: (Творчы шлях Якуба Коласа) // Там жа. № 10; Народны паэт Савецкай Беларусі // Віцеб. пралетарый. 15 кастр.; Якуб Колас // За ком. просвещение. 10 окт.; Паэзія Савецкай Беларусі пасля ўсесаюзнага з'езда пісьменнікаў // Звязда. 10 лют.; Народный поэт Советской Белоруссии // Известия. 10 окт.; Якуб Колас: Трыццаць год літаратурнай творчасці // Камуніст. 11 кастр.; Жанры паэзіі, іх трансфармацыя // ЛіМ. 6 лют.; Янка Купала // Там жа. 10 лют.; Лаўры Герастрата // Там жа. 11 лют.; Разарваць цэхавую абмежаванасць // Там жа. 22 сак.; За народную сацыялістычную літаратуру // Там жа. 12 крас.; За перабудову работы; Без скідкі: [Рэц. на кн.: К о б е ц Р. На заставе. Мн., 1936] // Там жа, 10 вер.; Якуб Колас: Трыццаць год літаратурнай творчасці // Там жа. 3 кастр.; Палес. праўда. 7 кастр.; Трыццаць год: Творчы шлях Якуба Коласа // ЛіМ. 11 кастр.; Пра жыццё, што загучала як паэзія, і пра паэзію, што загучала як жыццё // Там жа. 7 ліст.; Андрей Александрович // ЛГ. 5 янв.; Поэзия Советской Белоруссии после съезда сов. писателей // Там жа. 10 февр.; Народный поэт Белоруссии: [Рэц. на кн.: К у п а л а Я. Избранные стихи и поэмы. М., 1935] // Правда. 7 февр.

**1937.** Купала Я. // Карелия. 1. Петрозаводск; Пушкин и белорусская литература // Лит. критик. № 5; Вялікі паэт рускага народа // Штэрн. № 1, 2 / Яўр.; Пушкін і беларуская літаратура // Віцеб. пралетарый. 10 лют.; Звязда. 8 лют.; Горкі пра Пушкіна // Звязда. 9 лют.; Маякоўскі і Горкі // Там жа. 14 крас.; Народ у творах Пушкіна // ЛіМ. 9 студз.; Палітычная праграма подласці // Там жа. 28 студз.; За глыбокую бальшавіцкую крытыку // Там жа. 6 крас.; Пушкин и литература белорусского народа // Рабочий. 8 февр.

**1.5.**

**На англійскую мову.** The literature of the White Russian Socialist Soviet Republic // Literature of the peoples of the USSR: VOKS Illustrated Almanac. 1934. N 7—8.

**На літоўскую мову.** 15 metu židu prolietarinio poeto Izi Chariko Kuribos // Raud. artojas. 1935. Lapkr. 26.

**На польскую мову.** O zydowskiej sekcji BiałAPP'u // Orka 1931. 29 sierp.; Izi Charyk // Orka. 1935. 18 list: Janko Kupała. // Orka. 1935. 12 grud.; Jąkób Kołas; Trzydzieści lat tworczości literackiej // Orka. 1936. 12 paźdź.

**На ўкраінскую мову.** Народний поет Радянської Білорусі: До 30-річчя літдіяльності Якуба Коласа // Літ. журнал. 1936. № 4.

**1.6.**

Аб дзіцячай літаратуры: Крытычны зборнік. Мн., 1934 / Рэд.

**2.3.**

**На беларускай мове.** Б а р о д з і ч. Д. Спадчына Я. Бранштэйна // ЛіМ. 1958. 23 ліп.; Б а р ы с е н к а В. Вораг пад маскай крытыка // Там жа. 1937. 30 чэрв.; Д в а гады творчага росту // Там жа. 1934. 26 крас.; З а в ы р а з н а с ц ь, бальшавіцкую прынцыповасць // Там жа. 1936. 22 сак.; З в о н а к А. Пытанні савецкай драматургіі // Там жа. 1935. 20 крас.; К а р а б а н С. Нарысы гісторыі беларускай савецкай крытыкі 20—30-х гадоў. Мн., 1971. С. 13—14, 75—78, 96—97, 102—103, 131—132, 135—137, 151—152; К у л ь б а к В. Да чысткі тав. Бранштэйна // За пралет. н. 1933. 13 ліст.; К у ч а р А. За магутны крытычны голас // ЛіМ. 1935. 16 мая; Л ы н ь к о ў М. Ён быў сярод нас... // Там жа. 1962. 25 снеж.; М і к у л і ч Б. Рэплікі таварышу Бранштэйну: (У парадку творчай дыскусіі) //Там жа. 1934. 6 крас.; П і с ь м е н н і к і Савецкай Беларусі: Кароткі даведнік. Мн., 1981; У г э т ы м месяцы // Беларусь. 1972. № 10; Х а т у л ё ў П. Вылікі // ЛіМ. 1934. 26 крас.; Ц э л е ш М. Класавая барацьба на мовазнаўчым фронце // Там жа. 1933. 25 снеж.

**На рускай мове.** Б а ч у р а С. Белорусский театр рабочей молодежи в 1937 году // Рабочий. 1937. 4 янв.; П е т р о в В., С а д о в с к и й Е. На литературные темы // Там жа. 1937. 4 апр.

*З. У. Драздова.*

# БРОЎКА ПЯТРУСЬ



*Броўка Пятрусь [Пётр Усцінавіч; псеўд.: Аўлас (з Я. Скрыганам), Бандылевіч, Лукаш Бандылевіч (з П. Глебкам), Баравы, Юр. Баравы, Юрка Баравы, П. Далецкий, Дзед Аўлас (з Я. Скрыганом), Дзед Тарас, Дзядок Аўлас, Пятрусь Звычайны, Андрэй Прыгода, Сымон Ракіта, Стары дзядок Аўлас; 12(25).6.1905, в. Пуцілкавічы Барысаўскага пав. Мінскай губ., цяпер Ушацкага р-на Віцебскай вобл.— 24.3.1980; Мінск, пахаваны на Усходніх могілках], паэт, празаік, дзіцячы пісьменнік, перакладчык, грамадскі дзеяч. Народны паэт БССР (1962). Акадэмік АН БССР (1966, член-карэспандэнт з 1953). Заслужаны дзеяч навукі БССР (1975). Герой Сацыялістычнай Працы (1972). Ганаровы грамадзянін Мінска (1980). Член СП СССР з 1934. Лаўрэат Сталінскай прэміі 2-й ступені за паэму «Хлеб», вершы «Думы пра Маскву», «Брат і сястра», «Народнае дзякуй», «Каб мне стаяць...», «Спатканне» (1947), Сталінскай прэміі 3-й ступені за зборнік вершаў «Дарогі жыцця» (1950), Літаратурнай прэміі імя Якуба Коласа за раман «Калі зліваюцца рэкі» (1959), Ленінскай прэміі за кнігу вершаў «А дні ідуць...» (1962), Дзяржаўнай прэміі БССР імя Янкі Купалы за паэму «Заўсёды з Леніным» і за кнігу вершаў «Між чырвоных рабін» (1969), Дзяржаўнай прэміі БССР за ўдзел у стварэнні Беларускай Савецкай Энцыклапедыі (1976).*

П. Броўка нарадзіўся ў беднай сялянскай сям'і (дзевяць дзяцей, зямлі — дзве з паловай дзесяціны). Бацька, Усцін Адамавіч, мог майстраваць куфры, шафы, прырабляў гэтым на пражытак сям'і. Маці, Алена Сцяпанаўна, была цалкам занята працай каля хаты, клопатамі аб дзецях (у час нямецкай акупацыі вывезена ў Асвенцім, дзе і загінула). Жылі бедна, і таму, каб хоць нечым быць карысным і для старэйшых, дзеці з малых гадоў браліся за работу. Пятрусь спачатку пасвіў гусей, пасля авечак, пазней кароў, вадзіў коней на начлег. Дапытлівы, уражлівы, чулы, хлопец пакрысе пазнаваў жыццё, прыроду, назаўсёды запомніў сцежкі-дарожкі на родных палях і лугах. Дзевяцігадовы, літаральна па складах, па просьбе сялянак, мужы якіх былі на фронце, пісаў салдатам пісьмы. Вучыўся П. Броўка спачатку ў школе па хатах. У Лепелі скончыў царкоўнапрыходскую школу і вышэйшае пачатковае вучылішча. Яшчэ ў дарэвалюцыйны час пазнаёміўся з вершамі Я. Купалы, апавяданнямі Я. Коласа, палюбіў паэзію М. Някрасава, хоць свет мастацтва быў для яго, паводле ўласнага прызнання, вельмі далёкі. «Нічога з гэтага свету я не мог уцяміць тады. Але вершы запамінаў і любіў». Пазней успамінаў, што калі чытаў іх у «Родных семенах» (буквары.— Рэд.), то яму здавалася, што пішуць іх нейкія незвычайныя, надзеленыя боскім дарам людзі, якія жывуць у іншым, непадобным да нашага, свеце.

Вялікую Кастрычніцкую рэвалюцыю сустрэў дванаццацігадовым хлапчуком, а ў 1918, трынаццацігадовым, ужо пачаў працаваць у савецкіх грамадскіх установах — спачатку перапісчыкам у Вялікадолецкім валасным ваенным камісарыяце, праз нейкі час справаводам у валвыканкоме, потым рахункаводам у саўгасе. Ахвотна ўдзельнічаў у мастацкай самадзейнасці вясковай моладзі, стаў селькорам. У 1919 перажыў акупацыю буржуазнай Польшчы. У 1923 быў выбраны сакратаром камсамольскай арганізацыі ў роднай вёсцы, у 1924 — старшынёй Маладолецкага сельсавета. Разам з камсамольцамі воласці змагаўся з самагоншчыкамі, займаўся культасветнай працай, быў у гушчы жыцця вёскі. У выканкоме прыходзіла шмат газет і рознай літаратуры. Чытаў з захапленнем. Усё гэта з кожным днём усё больш і больш адкрывала яму вочы на свет. Пачаў дасылаць допісы ў газеты. Пісаў у барысаўскую павятовую газету «Бядняк», у газеты «Беларуская вёска», «Савецкая Беларусь», «Звязда». У 1923 быў выкліканы на 1-ы з'езд селькораў Беларусі, але не паехаў, бо не было сродкаў на дарогу. У 1925 быў накіраваны на працу ў Полацкі акруговы камітэт ЛКСМБ. У 1927—28 працаваў адказным сакратаром акруговай газеты «Чырвоная Полаччына». У Полацку наведваў вячэрнюю школу для дарослых. У 1928 паступіў на літаратурна-лінгвістычнае аддзяленне педагагічнага факультэта БДУ (скончыў у 1931). Шмат даў П. Броўку «Маладняк». Ён захапляўся творамі А. Пушкіна, М. Някрасава, М. Лермантава, Т. Шаўчэнкі. Сваёй надзённасцю прыцягвала яго і паэзія Дз. Беднага. Папераменна захапляўся то С. Ясеніным, то У. Маякоўскім, пасля, нягледзячы на іх рознасць, палюбіў абодвух, знаходзіў ў кожнага геніяльнае. У 1934 П. Броўка ажаніўся з Аленай Міхайлаўнай Рыдзеўскай, у 1936 у іх нарадзіўся сын Юрка. У 1940 быў прызначаны рэдактарам часопіса «Полымя». У першыя дні Вялікай Айчыннай вайны добраахвотна ўступіў у рады Чырвонай Арміі. У 1941—42 працаваў інструктарам-літаратарам

у газеце «За Савецкую Беларусь» на Бранскім і Заходнім франтах, супрацоўнічаў у партызанскім друку. З 1943 — адказны сакратар праўлення Саюза пісьменнікаў БССР, з 1945 зноў рэдактар «Полымя». У 1948—67 — старшыня праўлення СП БССР, з 1967 да 1980 — галоўны рэдактар Беларускай Савецкай Энцыклапедыі. У 1959 як дэлегат ад БССР прымаў удзел у рабоце XIV сесіі Генеральнай Асамблеі ААН. Член ЦК КПБ (1952—80). Дэпутат Вярхоўнага Савета БССР (1947—55). Дэпутат Вярхоўнага Савета СССР (1956—80). Член КПСС з 1940. Узнагароджаны чатырма ордэнамі Леніна, ордэнамі Кастрычніцкай Рэвалюцыі, Чырвонай Зоркі, Дружбы народаў, «Знак Пашаны» і медалямі.

Першыя вершы П. Броўкі надрукаваны ў газеце «Чырвоная Полаччына» і ў альманаху «Наддзвінне» ў 1926 («Ой, не шапчы мая бярозка!» і інш.). Аўтар каля трыццаці кніжак паэзіі — «Гады як шторм», «Прамова фактамі», «Цэхавыя будні», «Паэзія», «Так пачыналася маладосць», «Прыход героя», «Вясна радзімы», «Кацярына», «Шляхамі баравымі», «Насустрач сонцу», «У роднай хаце», «Сонечнымі днямі», «Цвёрдымі крокамі», «Пахне чабор», «Далёка ад дому», «Па сакрэту», «А дні ідуць...», «Высокія хвалі», «Заўсёды з Леніным», «Між чырвоных рабін», «Калі ласка», «Ты — мая пчолка», «Лясы наддзвінскія», «І ўдзень і ўночы», «Што сэрца праспявала». Выдаў кніжкі паэзіі для дзяцей, аповесць «Каландры», нарысы «Ураджай» (разам з П. Глебкам), «Месяц у Чэхаславакіі» (1952), раман «Калі зліваюцца рэкі» (1957), зборнік апавяданняў «Разам з камісарам» (1974), напісаў лібрэта опер «Міхась Падгорны», «Алеся» («Дзяўчына з Палесся», разам з Я. Рамановічам). Пераклаў на беларускую мову творы Т. Шаўчэнкі, У. Маякоўскага, П. Тычыны, М. Бажана, А. Твардоўскага, М. Ісакоўскага, А. Пракоф'ева, У. Бранеўскага, Дж. Байрана.

Ранняя лірыка П. Броўкі прасякнута матывамі радаснага ўслаўлення рэвалюцыі, новай рэчаіснасці. У гады Вялікай Айчыннай вайны паглыбляецца эмацыянальна-рэалістычны змест яго паэзіі, узмацняецца яе патрыятычнае гучанне. У 60—70-я гады адзначаецца ўвага да маральна-этычных, агульначалавечых праблем, праяўляецца цяга да філасофскага асэнсавання жыцця. П. Броўка — паэт высокага грамадзянскага пафасу, мастак з ярка выяўленай рамантычнай паэтыкай і песенна-лірычнай накіраванасцю. Яго паэзіі ўласціва адкрытая публіцыстычнасць, маштабнасць, народнасць мастацкага мыслення, прастата рэалістычнага светаадчування, яна моцна звязана з жыццём народа, з агульнымі задачамі камуністычнага будаўніцтва. У яго творчасці пачуццё роднасці з нацыянальнай культурай, з вечнымі каштоўнасцямі народнага жыцця арганічна спалучаюцца з ідэямі савецкага патрыятызму і сацыялістычнага інтэрнацыяналізму. У Мінску (вул. К. Маркса, 30) створаны літаратурны музей Петруся Броўкі. На доме, дзе ён апошні час жыў, і ў вёсцы Пуцілкавічы ўстаноўлены мемарыяльныя дошкі, у БелСЭ і Вялікадолецкай сярэдняй школе Ушацкага р-на адкрыты мемарыяльныя пакоі, у Пуцілкавічах — хата-музей, каля якой устаноўлена стэла памяці маці паэта. Імя П. Броўкі прысвоена выдавецтву «Беларуская Савецкая Энцыклапедыя», калгасу «Новае жыццё» і Вялікадолецкай школе; яго імем названы вуліцы ў Мінску, Віцебску, Полацку, Гомелі, Бешанковічах, Ушачах. Для студэнтаў філалагічнага факультэта БДУ устаноўлена стыпендыя імя Петруся Броўкі.

*І. П. Чыгрын.*

## Бібліяграфія


**1.1.**

Зб. тв.: У 2 т. Мн., 1957. Т. 1. Вершы. Т 2. Паэмы. Рэц.: Жыдовіч І. Паэтычная сталасць // Мін. праўда. 1957. 14 вер.; Макаревич А. Произведения поэта-патриота // Сов. Бел. 1957. 26 сент.; Перкін Н. Двухтомнік паэзіі П. Броўкі // Беларусь. 1957. № 9.

Зб. тв.: У 4 т. Мн., 1965—66. Т 1. Вершы; Паэмы. 1926—1940. Мн., 1965. Т 2. Вершы; Паэмы. 1941—1951. Мн., 1965; Т 3. Вершы; Паэмы. 1952—1965. Мн., 1966. Т 4. Калі зліваюцца рэкі: Раман. Мн., 1966.

Зб. тв.: У 7 т. Мн., 1975—78. Т 1. Вершы. Паэмы; Пераклады. 1926—1940 гг. Мн., 1975. Т 2. Вершы; Паэмы. Мн., 1976. Т 3. Вершы; Паэмы. Мн., 1976. Т 4. Вершы; Паэмы. 1968—1976. Мн., 1977. Т 5. Калі зліваюцца рэкі: Раман. Мн., 1977. Т 6. Апавяданні; Аповесці; Успаміны. Мн., 1978. Т 7. Артыкулы; Выступленні. Мн., 1978. Рэц.: Гніламёдаў У. Размова з сучаснікам // Звязда. 1979. 8 чэрв.; Ярош М. «Па песню, па сонца, па шчасце Камуны». Да выхаду ў свет Зб. тв. Петруся Броўкі // Беларусь. 1979. № 11.

Зб. тв.: У 9 т. Мн., 1987. Т 1. Вершы; Паэмы. 1926—1941. Мн., 1987. Т. 2 Вершы; Паэмы. 1941—1953. Мн., 1987. Т 3. Вершы. Паэмы. 1954—1964. Мн., 1988. Т 4. Вершы. Паэма. 1965—1972. Мн., 1989. Т 5. Вершы. Паэма. 1972—1980. Мн., 1989. Т 6. Калі зліваюцца рэкі: Раман. Мн., 1990.

Выбраныя вершы і паэмы. Мн., 1934.

Выбр. тв. Мн., 1945. Рэц.: Жыдовіч І. Выбраныя творы П. Броўкі // Беларусь. 1946. № 1; Зарыцкі А., Вялюгін А. Паэтычная сталасць // ЛіМ. 1945. 22 снеж.; Казека Я. Паэзія Петруся Броўкі // Звязда. 1946. 15 мая; Минов В. От чистого сердца // Сов. Бел. 1945. 4 нояб.

Выбр. тв. Мн., 1947. Рэц.: Карпачоў М. Творы пра барацьбу і будаўніцтва // Гомел. праўда. 1948. 17 студз.; Майхровіч С. Паэтычная творчасць Петруся Броўкі // Полымя. 1947. № 3; Наст. газ. 1947. 25 вер.

Выбраныя вершы і паэмы. Мн., 1948. (Б-ка школьніка).

Выбр. тв. Мн., 1951. Рэц.: Есакоў А. У ногу з жыццём // Беларусь. 1952. № 4.

Выбр. тв. Мн., 1952. Рэц.: Жыдовіч І. Паэзію, якую любіць народ // Калг. праўда. 1952. 27 крас.; Кніжная паліца // Там жа. 1952. 27 лют.

**1.2.**

Гады як шторм: Вершы. Мн., 1930. Рэц.: Фігloўская Л. // Маладняк. 1931. № 10.

Прамова фактамі: Паэма. Мн., 1930. Рэц.: Васілення А. // Узвышша. 1931. № 1; Кабакоў Н. На верным шляху // Крытыка-бібліягр. бюлетэнь. 1934. № 5; Куніцкі С. // Маладняк. 1930. № 11.

Каландры: Аповесць. Мн., 1931. Рэц: Кучар А. Заўвагі пра два новыя творы // ЛіМ. 1932. 20 жн.; Меяровіч М. Пра «Каландры» Петруся Броўкі // Там жа. 1932. 30 крас.; 2 выд. Мн., 1933.

Цэхавыя будні: Вершы. Мн., 1931. Рэц.: Фіглоўская Л. // Маладняк. 1931. № 10; 2 выд. Мн., 1932. (Б-ка для малапісьменных). Рэц.: Кабакоў Н. На верным шляху // Крытыка-бібліягр. бюлетэнь. 1934. № 5.

Паэзія. Мн., 1932.

Ураджай: Нарысы. Мн., 1933 // Сааўт. П. Глебка.

Магілёў, і папрасіў ваенкамат накіраваць яго на фронт. Удзельнічаў у баях пад Сталінградам, Кіевам, у Карпатах.

Пасля вайны быў карэспандэнтам газеты «Советское слово», якая выдавалася савецкай ваеннай адміністрацыяй у Германіі. 10 жніўня 1949 Р. Бярозкіна арыштавалі ў другі раз з тым жа абвінавачаннем, што і ў 1941. У чэрвені 1950 асуджаны на 10 гадоў лагераў. Зняволенне адбываў у Карагандзінскай і Омскай абласцях. Вызвалены ў 1955. У 1956 быў рэабілітаваны.

З 1960 Р. Бярозкін працаваў у часопісе «Советская Отчизна», газеце «Літаратура і мастацтва», літсупрацоўнікам бюлетэня «Помнікі гісторыі і культуры Беларусі».

Узнагароджаны ордэнамі Айчыннай вайны 2-й ступені, Чырвонай Зоркі, медалямі.

Друкаваўся з 1935 (першыя публікацыі не выяўлены), але сур'ёзнай літаратурнай працай, як адзначаў сам пісьменнік, пачаў займацца з 1936. Тэматыка даваенных артыкулаў, публічных выступленняў крытыка была шырокая: станаўленне беларускай савецкай паэзіі, прозы, драматургіі, фарміраванне ў беларускай літаратуры метаду сацыялістычнага рэалізму. У пачатку 1941 ён прымаў актыўны ўдзел у літаратурных дыскусіях. У канцы 50-х — пачатку 60-х г. Р. Бярозкін многа пісаў, імкнуўся аднавіць імёны таленавітых паэтаў, жорстка і несправядліва выкрасленых з жыцця і літаратуры, вітаў прыход у літаратуру новых паэтаў, падсумоўваў дасягненні беларускай савецкай паэзіі і г. д. Крытык даследаваў пытанні культуры творчасці, пісьменніцкага майстэрства (П. Броўкі, А. Куляшова, М. Танка, П. Панчанкі і інш.), тэорыі жанраў, псіхалогіі творчасці, пераемнасці і ўзаемаўплываў літаратур (кнігі «Паэзія праўды», «Спадарожніца часу», «Постаці», «Свет Купалы», «Чалавек на досвітку», «Звенні»).

*М. Р. Міхайлаў.*

## Бібліяграфія


**1.1.**

Кніга пра паэзію: Выбранае. Мн., 1974. Рэц.: Т ы ч и н а М. Звенья общего процесса // Вопр. лит. 1978. № 5.

Свет Купалы; Звенні: Літ. крытыка. Выбранае. Мн., 1981. Рэц.: Б а р с т о к М. Урокі крытыка: Па старонках аднатомніка выбр. твораў Р. Бярозкіна // ЛіМ. 1982. 23 ліп.

**1.2.**

Паэзія праўды. Мн., 1958. Рэц.: Б а р о д з і ч Д. Патрабавальна і па-таварыску // Беларусь. 1959. № 1; Б о й к а У. Майстэрства крытыка // ЛіМ. 1959. 28 лют.; К л ы ш к а А. Майстэрства паэта і майстэрства крытыка // Там жа. 1959. 24 кастр.; К л ы ш к о А. Мастерство критика // Дружба народов. 1960. № 1; К у л я ш о ў Ф. Паэт і крытык // Полымя. 1959. № 3; М а к а р э в і ч А. Паэзія праўды // Маг. праўда. 1959. 14 сак.

Аркадий Кулешов: Критико-биогр. очерк. М., 1960. Рэц.: Б о й к а У. Новая кніга пра А. Куляшова // ЛіМ. 1960. 26 ліп.

Спадарожніца часу: Артыкулы аб паэзіі. Мн., 1961. Рэц.: А д а м о в і ч А. Талент крытыка // Полымя. 1962. № 6; Г о р б а ч е в М. В ногу со временем // Вопр. лит. 1962. № 8; К у д р а ў ц а ў І. Са шчырай заклапочанасцю // Беларусь. 1961. № 10; К у ч а р А. Аб паэзіі — па законах паэзіі // ЛіМ. 1961. 12 снеж.; Я г о ж. Поэзия — спутница времени // Дружба народов. 1962. № 12; У с і к а ў Я. Густаўшчына ў крытыцы — дрэнны павадыр // Звязда. 1962. 4 жн.

Свет Купалы: Думкі і назіранні. Мн., 1965. Рэц.: З а р ы ц к і А. Пранікненне ў свет паэта // Беларусь. 1966. № 7; Л о й к о О. Открытие поэта // Вопр. лит. 1967. № 3; П с і к а ў А. Веліч купалава слова // ЛіМ. 1967. 29 вер.; Я р о ш М. Свет Купалы // Полымя. 1966. № 6.

Пімен Панчанка: Крытыка-біягр. нарыс. Мн., 1968. Рэц.: Б у р ' я н Б. Свет і палітра паэта // Беларусь. 1968. № 9; К а в а л е н к а В. Крытык і паэт // Полымя. 1969. № 5.

Человек на заре: Рассказ о Максиме Богдановиче — белорусском поэте. М., 1970. Рэц.: А д а м о в и ч А. Для всесоюзного читателя // Вопр. лит. 1972. № 1; К у д р а ў ц а ў І. Пра зорку нашай паэзіі // Полымя. 1971. № 10; Х а д з е е ў К., Т р э с т м а н Г. «...Калі разам ляцім да зор» // ЛіМ. 1971. 23 ліп.

Постаці: Артыкулы пра паэтаў. Мн., 1971. Рэц.: Б а р с т о к М. Яркая творчая індывідуальнасць: Пра кнігу Р. Бярозкіна «Постаці» // ЛіМ. 1972. 24 ліст.; Б у р ' я н Б. Чытаючы як след, як мае быць... // Полымя. 1972. № 7.

Звенні: Творчая індывідуальнасць і ўзаемадзеянне літаратур: Нарысы. Мн., 1976. Рэц.: Б е ч и к В. В неразрывном единстве // Неман. 1978. № 6; К а л е с н і к У. Крытэрый самабытнасці // ЛіМ. 1978. 18 сак.; Т к а ч о ў П. Пра ўзаемадзеянне літаратур // Беларусь. 1977. № 11; Т ы ч и н а М. Звенья общего процесса // Вопр. лит. 1978. № 5.

Аркадзь Куляшоў: Нарыс жыцця і творчасці. Мн., 1978. (Нар. паэты БССР). Рэц.: Б е ч ы к В. На вялікай прасторы // ЛіМ. 1979. 13 ліп.; Г н і л а м ё д а ў У. Выдатнай спадчыне прысвячаецца // Наст. газ. 1979. 8 снеж.

Паэзія — маё жыццё: Літ.-крытыч. артыкулы. Мн., 1989 / Скл. Ю. Канэ.

**1.3.**

**1936.** «Малодшая за мяне»: [Рэц. на кн.: Л е в і н а Х. Малодшая за мяне. Мн., 1935] // Штэрн. № 4 / Яўр.; Аб «кантакце» Галкіна // Там жа. № 10 / Яўр.; Аб канкрэтнасці сапраўднай і ўяўнай: Нататкі пра дзве паэмы А. Куляшова // ЛіМ. 30 кастр.

**1937.** За паэтычную канкрэтнасць // Штэрн. № 4 / Яўр.; Аб вершах Рахіль Боймвал // Там жа. № 12 / Яўр.; Песняр мужнасці: Эдуард Багрыцкі. 1934—1937 // ЛіМ. 16 лют.; Маякоўскі і Пушкін // Там жа. 14 крас.; Праглядаючы часопіс // Там жа. 28 мая; Паэма аб мінулым // Там жа. 15 чэрв.; Свет без глыбіні: [Рэц. на кн.: А к с е л ь р о д З. Стихи. М., 1937] // Там жа. 30 ліп.; На паэтычныя тэмы // Там жа. 2 ліст.; Яўрэйская савецкая літаратура БССР // Там жа. 16 ліст.

**1938.** Вершы Маякоўскага аб заграніцы // Полымя рэвалюцыі. № 4; Вершы аб Радзіме: [Рэц. на кн.: Б р о ў к а П. Вясна радзімы. Мн., 1937] // Там жа. № 7—8; Спяваючы // Штэрн. № 7 / Яўр.; Аб «бадзёрых рытмах» Ф. Лятча // ЛіМ. 6 студз.; Лірыка Петруся Броўкі: [Рэц. на кн.: Б р о ў к а П. Вясна Радзімы. Мн., 1937] // Там жа. 16 студз.; Да пытання аб выкладанні літаратуры // Там жа. 16 крас.; «Мяшчане»: (Прэм'ера Дзяржаўнага Віцебскага тэатра) // Там жа. 22 крас.; Вялікі гуманіст: (45 год з дня нараджэння У. У. Маякоўскага) // Там жа. 23 ліп.; Аркадзь Куляшоў // Там жа. 30 кастр.; Зінаіда Васільева // Там жа. 23 снеж. / Сааўт. В. Вольскі, А. Кучар; Октябрьская поэма Маяковского // Сталин. молодежь. 14 апр.

**1939.** Вершы Пімена Панчанкі // Полымя рэвалюцыі. № 5—6; Аркадзь Куляшоў // Там жа. № 8; «Ленін» В. Маякоўскага // Звязда. 21 кастр.; Выдатны майстар: Слова-развітанне з Э. Самуйлёнкам // ЛіМ. 15 лют.; Эдуард Багрыцкі: (Да 5-годдзя з дня смерці) // Там жа. 23 лют.; «Мы жывём на граніцы»: (Пра зборнік вершаў Аркадзя Куляшова) // Там жа. 11 мая; Слава! // Там жа. 21 вер.; Вершы З. Цялесіна // Там жа. 3 кастр.; Вершы Сяргея Хмары // Там жа. 11 кастр.; Пятрусь Броў-

ка // Там жа. 11 снеж.; Лейбке солдат: Новая постановка Гос. еврейского театра БССР // Сов. Бел. 28 янв.; Анна Каренина: В русском Гос. драм. театре // Там жа. 22 февр.; Владимир Маяковский // Там жа. 14 апр.; «Гибель волка»: (В Витебском Белорусском гос. драм. театре) // Там жа. 5 июня / Сааўт. А. Кучар.

**1940.** Исторические поэмы Янки Купалы // Купала Я. Курган: Поэма. Мн.; Уладзімір Маякоўскі // Маякоўскі У. Выбр. творы. Мн.; Уладзімір Маякоўскі // Полымя рэвалюцыі. № 4; Чалавек проста // Там жа. № 8; Сацыялістычная лірыка Янкі Купалы // Бальш. Пал. 8 снеж.; Віцеб. рабочы. 8 снеж.; Вольная праца. 8 снеж.; Гомел. праўда. 8 снеж.; Зара. 8 снеж.; Палес. праўда. 8 снеж.; Сялян. газ. 8 снеж.; Чырв. звязда. 8 снеж.; Першы беларускі драматычны тэатр // Вольная праца. 6 чэрв.; Чалавек проста // Звязда. 14 крас.; «Крамлёўскія куранты»: Пастаноўка Ленінградскага Вялікага драм. тэатра імя Горкага // Там жа. 16 ліп.; «У дрымучых лясах»: (Аповесць Зм. Бядулі) // Там жа. 3 кастр.; Гістарычныя паэмы Янкі Купалы // Там жа. 2 ліст.; З дзённіка // ЛіМ. 1 студз.; Аб першай кнізе // Там жа. 11 студз.; Ленін у паэзіі Маякоўскага // Там жа. 21 студз.; «Член урада» // Там жа. 23 лют.; Аб вершах // Там жа. 11 сак.; Вобраз і каментарый: [Рэц. на: Чорны К. Бацькаўшчына: П'еса // Полымя рэвалюцыі. 1939. № 10] // Там жа. 23 мая; Нашы п'есы // Там жа. 5 чэрв.; Дружба і «дружба» // Там жа. 3 ліп.; Выспяванне мужнасці // Там жа. 10 жн.; Лёс героя // Там жа. 28 вер.; Аб культуры прозы: Раман М. Паслядовіча «Паўстанне» // Там жа. 26 кастр.; Вачыма маладосці: Максім Танк. Выбр. вершы // Там жа. 7 ліст.; Аб лірыцы дзейснага чалавека // Там жа. 28 снеж.; Янка Купала: (К 35-летию лит. деятельности) // Сов. Бел. 24 нояб.; Мир поэта // Сталин, молодежь. 5 окт.; Янка Купала // Там жа. 7 дек.

**1941.** Узнагарода за песню // Звязда. 20 сак.; Лірыка рэвалюцыйнага дзеяння // Там жа. 27 сак.; Уяўная паэтычнасць // ЛіМ. 11 студз.; Стварыць беларускі літаратурны музей // Там жа. 18 студз. / У сааўт.; Школьнае выданне П. Броўкі // Там жа. 8 лют. / Пад псеўд. С. Тарасаў; Дыскусія аб прозе // Там жа. 5 сак.; Фільм аб Чкалаве // Там жа. 29 сак.; Маякоўскі ў камсамольскай прэсе Беларусі // Там жа. 12 крас. / Сааўт. М. Сурначоў; Патрэбныя словы: Аб вершах Пімена Панчанкі // Там жа. 7 мая; Скажоны Багрыцкі: [Рэц. на кн.: Багрыцкі Э. Выбранае. Мн., 1941] // Там жа. 7 мая / Пад псеўд. С. Тарасаў.

**1946.** Лінія роста: [Рэц. на кн.: Панчанка П. Далёкія станцыі. Мн., 1945] // Полымя. № 8—9; Сталин. молодежь. 7 апр.; Дняпроўскае рэха: [Рэц. на кн.: Зарыцкі А. Дняпроўскае рэха. Мн., 1946] // ЛіМ. 20 крас.

**1948.** Паэзія мужнасці: (Да гадавіны з дня смерці Валянціна Таўлая) // ЛіМ. 24 крас.; Амаралізм і апалогія смерці: (Ліст з Берліна) // Там жа. 5 чэрв.

**1955.** Два цыклы вершаў // ЛіМ. 10 снеж.

**1956.** Уладзімір Хадыка // Хадыка У. Выбр. вершы. Мн.; Маладосць — гэта пошукі // Беларусь. № 2; Паэзія рэвалюцыйнай салідарнасці: [Рэц. на кн.: Таўлай В. Вершы і паэмы. Мн., 1955] // Там жа. № 4; Лірыка Пімена Панчанкі // Полымя. № 8; Облик героя // Сов. Отчизна. № 2; Праўда вымыслу // ЛіМ. 3 сак.; Вершы Уладзіміра Хадыкі // Там жа. 12 мая; Радаснае натхненне // Там жа. 16 чэрв.; Свет паэта // Там жа. 21 ліп.; З аршынам па вершах // Там жа. 29 вер.; У добры час! // Там жа. 13 кастр.; Ізі Харык // Там жа. 8 снеж.; Першая аповесць // Там жа. 15 снеж.; Поэзия любви и ненависти // Сов. Бел. 1 апр.

**1957.** Літаратура пасляваеннага дзесяцігоддзя // На шляху служэння народу: (Сорак год бел. сав. літаратуры). Мн. / Сааўт. Д. Палітыка; Полымя. № 9; Вершы Юлія Таўбіна: [Рэц. на кн.: Таўбін Ю. Выбраныя вершы. Мн., 1957] // Беларусь. № 12; «Сцяг брыгады» Аркадзя Куляшова: (З вопыту бел. сав. паэзіі) // Полымя. № 4; Слово молодых // Сов. Отчизна. № 5; Крывёю сэрца // ЛіМ. 12 студз.; Подых гісторыі: [Рэц. на: Танк М. Лірыка: Вершы з дарогі // Полымя. 1957. № 2, 3] // Там жа. 3 крас.; Прыход героя: (Здабыткі і традыцыі нашай літаратуры) // Там жа. 26 чэрв.; Вершы Алеся Наўроцкага // Там жа. 27 ліп.; Проста аб ім: (З успамінаў пра Кузьму Чорнага) // Там жа. 10 жн.; Толькі ўперад // Там жа. 11 вер.; Слова пра таварыша // Там жа. 18 вер. / Сааўт. А. Вялюгін; Гора і мужнасць // Там жа. 26 кастр.

**1958.** Ізі Харык // Харык І. Выбр. тв. Мн.; Лірыка чалавечнасці: [Рэц. на кн.: Платнер І. Соль жыцця. Мн., 1957] // Беларусь. № 4; Путь поэта // Дружба народов. № 2; Сердце и родина: [Рэц. на кн.: Фининберг Э. Избранное. М., 1957] // Дружба народов. № 7; Маяковский в Белоруссии: [Рэц. на кн.: Маякоўскі ў Беларусі. Мн., 1957] // Сов. Отчизна. № 3; Рамантыка будучыні // ЛіМ. 22 сак.; Перачытваючы «Безназоўнае» // Там жа. 28 чэрв.; Аб маладой паэзіі // Там жа. 26, 29 ліст., 3 снеж.; Раннія творы Валянціна Таўлая // Чырв. змена. 2 лют.

**1959.** Проста аб ім // Кузьма Чорны: Зб. матэрыялаў аб жыцці і творчай дзейнасці пісьменніка. Мн.; Ружа і штык: [Рэц. на кн.: Вітка В. Ружа і штык. Мн., 1958] // Беларусь. № 3; Крокі гісторыі // Там жа. № 4; Кветка шчасця: [Рэц. на кн.: Тарас Н. Кветка шчасця. Мн., 1959] // Там жа. № 7; Горячая правда поэзии: [Рэц. на кн.: Панчанка П. Кніга вандраванняў і любові. Мн., 1959; Яго ж. Стихотворения. М., 1958] // Дружба народов. № 5; Поэзия Петруся Бровки // Звезда. № 1; Паэзія — у жыцці!: Размова аб майстэрстве // Маладосць. № 10; Паэзія Максіма Лужаніна // Полымя. № 11; Паэзія — арліныя далягляды: Нататкі крытыка // Звязда. 11 сак.; Паэзія глыбокіх думак: [Рэц. на кн.: Дубоўка У. Выбр. тв. Мн., 1959] // Там жа. 12 вер.; Палемічныя нататкі // ЛіМ. 6 мая; Міма паэзіі // Там жа. 26 жн.; Чалавек і яго справа: Адкрыты ліст да Аляксея Русецкага // Там жа. 12 снеж.

**1960.** Перачытваючы «Безназоўнае» // Любімы паэт беларускага народа. Мн.; Вершы аб сучаснасці // Беларусь. № 1; Таварыш загінуў на вайне: [Рэц. на кн.: Сурначоў М. Барвовая заря. Мн., 1959] // Там жа. № 3; Так о поэзии писать нельзя!: [Рэц. на кн.: Залесская Л. Поэзия Советской Белоруссии. М., 1960] // Неман. № 4; Культура творчасці: [Рэц. на кн.: Адамовіч А. Культура творчасці. Мн., 1959] // Полымя. № 2; Паэты аднаго пакалення // Там жа. № 5, 7, 10, 12; У добры час // Там жа. № 7; Кніга пра Максіма Танка: [Рэц. на кн.: Калеснік У. Паэзія змагання. Мн., 1959] // ЛіМ. 30 студз.; Апавяданні Васіля Віткі // Там жа. 20 вер.; Адна старонка: (Пра вершы П. Глебкі ваеннага часу) // Там жа. 29 ліст.

**1961.** Вясёлка над полем: [Рэц. на кн.: Бялевіч А. Вясёлка над полем. Мн., 1961] // Беларусь. № 11; Выпрабаванне часам // Маладосць. № 1; Поплеч з героем: [Рэц. на кн.: Барадулін Р. Маладзік над стэпам. Мн., 1959; Яго ж. Рунець, красаваць, налівацца. Мн., 1961] // Там жа. № 9; Кому много дано...: [Рэц. на кн.: Пысин А. Эхо. М., 1960] // Неман. № 6; Калі перачытваеш Чарота...: (Да праблемы метаду ў бел. сав. лірыцы) // Полымя. № 5; Так пачыналася ў Куранях...: [Рэц. на: Мележ І. Людзі на балоце // Полымя. 1961. № 8—10] // Звязда. 21 ліст.; Паэзія подзвігу // ЛіМ. 19 мая; З блізкае далечы // Там жа. 11 ліп.; Зборы і песня // Там жа. 11 жн.; Мая Германія // Там жа. 6 кастр.; Пошукі патрэбны! // Там жа. 29 снеж.

**1962.** Слова пра друга: [Прадмова] // Шведзік Г. Лірыка. М.; Вернасць: [Рэц. на кн.: Гаўрылаў Л. Вернасць. Мн., 1961] // Беларусь. № 2; Песня пра хлеб: [Рэц. на кн.: Вярцінскі А. Песня пра хлеб. Мн., 1962] // Там жа. № 8; Свет у сэрцы // Там жа. № 9; Маладосць шукае: [Рэц. на кн.: Наўроцкі А. Неба ўсміхаецца маланкаю. Мн., 1962] // Там жа. № 12; Украинский критик о белорусском поэте // Вопр. лит. № 9; Жил-был мальчишка: (Из дневников Михаила Молочко) // Неман. № 4; Свет Купалы // Полымя. № 7, 10; Лірычнае наступленне: [Рэц. на кн.: Асеев Н. Лад. М., 1962] // Звязда. 3 крас.; За акрэсленасць пазіцыі // ЛіМ. 19 студз.; А які ж ён

станоўчы?.. // Там жа. 23 лют.; Шлях да вышынь: [Рэц. на кн.: Г а ў р у с ё ў С. Шчодрасць. Мн., 1962] // Там жа. 30 сак.; Святло Ільічовых акон // Там жа. 28 снеж.; На просторах поэзии: [Рэц. на кн.: В е л ю г і н А. Черемуховые холода. Л., 1960] // ЛГ. 3 июля; Максім Танк // Ніва. 8 вер.; Поэзия армейских будней: [Рэц. на кн.: Е ф и м о в Ф. Армия. Мн., 1962] // Сов. Бел. 23 февр.

**1963.** Шлях да вышынь // Літаратура нашых дзён. Мн.; Поплеч з усімі // Беларусь. № 7; Дакладна і складна // Там жа. № 12; Полесье, двадцатые годы // В мире книг. № 2; С перевала на перевал // Дружба народов. № 2; Вровень с временем // Знамя. № 11; Стране и миру // Неман. № 1; Над кастром вялікага сяброўства: [Рэц. на кн.: К о р ш а к А. Апаленыя пялёсткі. Мн., 1963] // Полымя. № 6; Трэцяя кніга: [Рэц. на кн.: Б а р а д у л і н Р. Нагбом. Мн., 1963] // Там жа. № 12; Радкі любві і мужнасці // ЛіМ. 22 лют.; Пераклаў Язэп Семяжон // Там жа. 12 крас.; Правафланговы // Там жа. 19 ліп.; Самыя маладыя // Там жа. 20 жн.

**1964.** Вобраз чалавека, вобраз часу // Куляшоў А. Выбр. тв. У 2 т. Мн. Т. 1; Вецер з Волгі: [Рэц. на кн.: В я л ю г і н А. Вецер з Волгі. Мн., 1963] // Беларусь. № 4; Кніга друга: [Рэц. на кн.: П а н ч а н к а П. Чатыры кантыненты. Мн., 1964] // Там жа. № 6; З намі размаўляе Колас // Там жа. № 9; Товарищ // Дружба народов. № 2; Без войнаў, рабства і багоў: Да 50-годдзя А. Куляшова // Маладосць. № 2; Тры паэты // Там жа. № 12; Правда превыше всего: [Рэц. на кн.: Л о с ь Е. Купалка. М., 1963] // Неман. № 3; Голос юности: [Рэц. на кн.: А к с е л ь р о д З. Утренний свет. М., 1963] // Там жа. № 6; Беседь впадает в океан // Новый мир. № 2; Он сделал все, что мог...: [Рэц. на кн.: Л у ж а н и н М. Якуб Колас рассказывает... М., 1964] // Там жа. № 12; Свет Купалы // Полымя. № 1; Праўда веку // Звязда. 5 лют.; Запісана ад народа // ЛіМ. 22 мая; Я з рэвалюцыяй з маленства жыў... [Рэц. на: Р у с е ц к і А. Яго Вялікасць // Полымя. 1964. № 6, 7] // Там жа. 24 ліп.; Рогаў, Маша і паэзія // Там жа. 25 жн.; Хлеб і песня // Там жа. 10 ліст.; Не па службе, а па душы... // Там жа. 4 снеж.; Не магу пагадзіцца // Там жа. 22 снеж.; Источник неиссякаемый: [Рэц. на кн.: Б а р а д у л і н Р. Нагбом. Мн., 1963] // ЛГ. 9 июля; Перад часам і светам: [Рэц. на кн.: В я л ю г і н А. Адраз любві. Мн., 1964] // Мін. праўда. 27 ліст.

**1965.** З крытычнага дзённіка // Дзень паэзіі — 65. Мн.; На историческом перевале // Чорный К. Третье поколение; Мележ И. Люди на болоте. М.; Свежасць і чысціня: [Рэц. на кн.: Б і ч э л ь-З а г н е т а в а Д. Нёман ідзе. Мн., 1964] // Беларусь. № 1; Раўняцца на лепшае: [Рэц. на кн.: П а ў л а ў У. Далягляд. Мн., 1964] // Там жа. № 5; «Дзень паэзіі», 1965: [Рэц. на кн.: Д з е н ь паэзіі. Мн., 1965] // Там жа. № 9; Многообразие индивидуальностей // Вопр. лит. № 2; З павагай да рэчаіснасці: [Рэц. на кн.: П ы с і н А. Мае мерыдыяны. Мн., 1965] // Маладосць. № 6; Люди добрые: [Рэц. на кн.: Х о м ч е н к о В. Военный городок. М., 1965] // Неман. № 4; Четыре океана // Там жа. № 6; Рукопожатие // Новый мир. № 12; Свет Купалы // Полымя. № 3; Сто вузлоў і яшчэ адзін вузел: [Рэц. на кн.: Г і л е в і ч Н. Бальшак. Мн., 1965] // Там жа. № 6; Блізкія людзі, родны дом: [Рэц. на кн.: М а л ь ц і н с к і Х. Родны дом. Мн., 1965] // Там жа. № 12; Моладзь у «Маладосці» // Звязда. 24 жн.; Чалавек сярод людзей: [Рэц. на кн.: Б р ы л ь Я. Жменя сонечных промняў. Мн., 1965] // Там жа. 24 вер.; Сёння аб вайне: [Рэц. на кн.: Б ы к а ў В. Адна ноч. Мн., 1965] // Мін. праўда. 19 кастр.; Дабро, якое змагаецца: [Рэц. на кн.: К и с л и к Н. Повесть о прессованном порохе. Мн., 1964] // ЛіМ. 29 студз.; Адзін лісток // Там жа. 19 сак.; Паўгоддзе палымянскай паэзіі // Там жа. 9 ліп.; Час ідзе, раман разгортваецца // Там жа. 3 снеж.; Пад адной вокладкай: [Рэц. на кн.: А д а м ч ы к В. Міг бліскавіцы. Мн., 1965] // Там жа. 17 снеж.; О мире и о себе // ЛГ. 11 марта; А ты — вечна жывы: [Рэц. на кн.: Л у ж а н і н М. Колас расказвае пра сябе. Мн., 1964] // Мін. праўда. 8 студз.; У шынялі салдата // Там жа. 11 чэрв.; [Рэц. на кн.: П а н ч а н к а П. Чатыры кантыненты. Мн., 1964] // Правда. 11 янв.; ... И сиянье от них далекое: [Рэц. на кн.: К у л е ш о в А. Новая книга. М., 1964] // Сов. Бел. 16 марта; Лонва, сорок шестой...: [Рэц. на кн.: П т а ш н і к а ў І. Лонва. Мн., 1965] // Там жа. 7 авг.

**1966.** Дзейсная чалавечнасць: [Рэц. на кн.: П а н ч а н к а П. Пры святле маланак. Мн., 1966] // Беларусь. № 8; На розных узроўнях: [Рэц. на кн.: С е р б а н т о в і ч А. Азбука. Мн., 1966] // Там жа. № 12; Няроўны ўзлёт; [Рэц. на кн.: У з л ё т. Мн., 1965] // Маладосць. № 6; Аб праблемах надзённых: [Рэц. на кн.: П а ш к е в і ч Н. На шырокіх шляхах жыцця. Мн., 1966] // Там жа. № 7; Связь времен: [Рэц. на кн.: В е л ю г и н А. Ветер с Волги. М., 1965] // Неман. № 5; Сердце и горы: [Рэц. на кн.: Т а б и д з е Т. Стихотворения и поэмы. М.; Л., 1965] // Там жа. № 8; Руку, таварыш!: [Рэц. на кн.: М о л о ч к о М. Жил-был мальчик. Мн., 1965; М о л о ч к о М., М о л о в а А. Тебе, моя жизнь. М., 1965] // Полымя. № 4; Лірыка Міхайлы Грамыкі // Там жа. № 7; Простае жыццё: [Рэц. на кн.: П т а ш н і к а ў І. Сцяпан Жыхар са Сцешыц. Мн., 1966] // Там жа. № 12; Хлеб, які патрэбны ўсім... // Мін. праўда. 12 крас.

**1967.** Проба агнём // Беларусь. № 8; Нягучна, але шчыра: [Рэц. на кн.: Ш а в е л ь К. Мой кут салаўіны. Мн., 1967] // Там жа. № 10; Трэці зборнік: [Рэц. на кн.: Д з е н ь паэзіі — 67. Мн., 1967] // Там жа. № 12; Персідскі ўзор і «Цвяток радзімы васілька» // Маладосць. № 8; Страничка дружбы // Неман. № 6; Выпрабаванне агнём // Полымя. № 5; Лірыка народнага быцця: [Рэц. на кн.: П ы с і н А. Твае далоні. Мн., 1967] // Звязда. 17 мая; Адказнасці, больш адказнасці... // ЛіМ. 14 лют.; Мудрасць і дабрата // Там жа. 15 вер.; Верыць жыццю!: [Рэц. на кн.: А р о ч к а М. Крылатае семя. Мн., 1967] // Там жа. 15 снеж.

**1968.** Без войнаў, рабства і багоў // На высокай хвалі. Мн.; Чалавек пры агні // Беларусь. № 4; Слова жывое і дзейснае: [Рэц. на кн.: К а в а л е н к а В. Давер. Мн., 1967] // Там жа. № 8; Творы дзейснага жанру: [Рэц. на кн.: Ю р ч а н к а Г. Вярхом на вожыку. Мн., 1968] // Там жа. № 12; Зерно правды и правда зерна // Неман. № 2; По поводу одной поэмы // Новый мир. № 12; Права на верш: [Рэц. на кн.: К л ы ш к а А. Права на верш. Мн., 1967] // Полымя. № 1; Пра Юлія Таўбіна // Там жа. № 9; Маладое натхненне: Да 70-годдзя Уладзіміра Сасюры // ЛіМ. 5 студз.; Інфармацыйна, без пачуцця: [Рэц. на кн.: Ч а р н я ў с к і М. Апошні бой. Мн., 1967] // Там жа. 16 студз. / Пад псеўд. Р. Барута; Сувязі даўнія, непарыўныя: [Рэц. на кн.: М а к с і м Г о р к і і Беларусь. Мн., 1968] // Там жа. 2 крас. / Пад псеўд. Р. Барута; Мінскі, паэтычны... // Там жа. 26 крас.; Майстэрства, што з табою рабіць?: [Рэц. на кн.: М а к а л ь П. Акно. Мн., 1967] // Там жа. 28 мая; Сорак шосты мірны год // Там жа. 29 чэрв.; Толькі ў жыцці: [Рэц. на кн.: Б а р а д у л і н Р. Адам і Ева. Мн., 1968] // Там жа. 30 ліп.; Істотнае гаворыць проста: [Рэц. на кн.: А с т а п е н к а З. Выбранае. Мн., 1968] // Там жа. 29 ліст. / Пад псеўд. Р. Барута.

**1969.** Голас маладосці // Таўбін Ю. Выбраная паэзія. Мн.; З краінай поўны дагавор // Хадыка У. Вершы. Мн.; Адказнасць: [Прадмова] // Харык І. Выбранае. Мн.; Падсумоўваючы гады: [Рэц. на кн.: Х в е д а р о в і ч М. Зоркі на камені. Мн., 1968] // Беларусь. № 2; Нямецкая паэзія — па-беларуску // Там жа. № 4 / Пад псеўд. Р. Барута; Кніга пра Багдановіча: [Рэц. на кн.: С т р а л ь ц о ў М. Загадка Багдановіча. Мн., 1968] // Там жа. № 7; Калі ў крытыку жыве чытач: [Рэц. на кн.: Ш к р а б а Р. Літаратура і мова. Мн., 1969] // Там жа. № 10; Вырос в Ушачах мальчишка...: [Рэц. на кн.: Б а р а д у л і н Р. Адам і Ева. Мн., 1968] // Дружба народов. № 9; Цвет правоты // Неман. № 10; Наш общий мир: [Рэц. на кн.: П ы с и н А. Меридианы. Л., 1968] // Новый мир. № 2; Годы тревог и мужества: [Рэц. на кн.: Т а н к М. Листки календаря. М., 1969] // Там жа. № 10; Часоў былых і новых сувязь: [Рэц. на кн.: П ы с і н А. Пойма. Мн., 1968] // Полымя. № 2; Па законах красы // Там жа. № 4; Рознымі шляхамі: [Рэц. на кн.: П я р э д н і я выйшлі ў заўтра. Мн., 1968] // Там жа. № 6; Цётка // Там жа. № 11; Еднасць // ЛіМ. 18 лют.; Пра лірыку і фізіку // Там жа. 4 крас.; Вялікі песняр дэмакратыі // Там жа.

30 мая // Пад псеўд. Р. Барута; Першая ластаўка: [Рэц. на кн.: Р а л ь к о І. Беларускі верш. Мн., 1969] // Там жа. 15 ліп.; Роздум над «Песняй пра зубра»: [Рэц. на: Г у с о ў с к і М. Песня пра зубра / Пер. з лац. Я. Семяжон // Полымя. 1969. № 6] // Там жа. 12 жн.

**1970.** Майсей Кульбак: [Уступны артыкул] // Кульбак М. Выбранае. Мн.; «Я знаю хлеб»: [Рэц. на кн.: З у ё н а к В. Крутаяр. Мн., 1969] // Беларусь. № 3; Пахвала і папрокі: [Рэц. на кн.: Р а з а н а ў А. Адраджэнне. Мн., 1970] // Там жа. № 7; Вначале было дело...: [Рэц. на кн.: Р у с е ц к і А. Вершы і паэмы. Мн., 1969] // Дружба народов. № 11; «Лежит он, как витязь...» // Неман. № 5; Свое и общее: [Рэц. на кн.: Б у р с о в И. Горсть. Мн., 1970] // Там жа. № 7; Мысль и слово // Там жа. № 12; Пачатак: [Рэц. на кн.: Г о л у б Ю. Гром на зялёнае голле. Мн., 1969] // Полымя. № 3; Лермантаў па-беларуску: [Рэц. на кн.: Л е р м а н т а ў М. Выбраная паэзія: У перакладах А. Куляшова. Мн., 1969] // Там жа. № 4; Ад радка да верша: [Рэц. на кн.: К у с я н к о ў М. Без прывалу. Мн., 1969] // Там жа. № 7; Паэт і яго час // Сав. хэймланд. № 11 / Яўр.; Навальніца над Куранямі: [Рэц. на кн.: М е л е ж І. Людзі на балоце. Мн., 1968] // Вяч. Мінск, 9 крас.; З пакалення першых: Да 70-годдзя з дня нараджэння А. Моркаўкі // ЛіМ. 27 студз.; Па абавязку і праву: А. Твардоўскаму — 60 гадоў // Там жа. 19 чэрв.; Крытык радуецца, крытык смуткуе... // Там жа. 28 жн.; Стихи и время: [Рэц. на кн.: Л у ж а н і н М. Зб. тв.: У 3 т. Мн., 1968—1970] // Сел. газ. 25 июня; Возвращение к истокам: [Рэц. на: К у л я ш о ў А. Далёка ад акіяна // Полымя. 1970. № 6—7] // Там жа. 28 окт.

**1971.** Изи Харик // Харик И. От полюса к полюсу. М.; Рух, а не прывал: [Рэц. на кн.: К у л я ш о ў А. Сасна і бяроза. Мн., 1970] // Беларусь. № 4; Пецёфі на мове Купалы // Там жа. № 8; Голас Радзімы. № 42; Гаворыць друг // Беларусь. № 12; Праз першае лісце: [Рэц. на кн.: Я н і ш ч ы ц Я. Снежныя грамніцы. Мн., 1970] // Маладосць. № 5; [Рэц. на кн.: В о с п о м и н а н и я об Иване Катаеве. М., 1970] // Новый мир. № 7; Паэзія — лёс і адказнасць: [Рэц. на кн.: Г р а ч а н і к а ў А. Круглая плошча. Мн., 1971] // Полымя. № 7; Разнастайнасць і шырыня: Да 75-годдзя з дня нараджэння Майсея Кульбака // ЛіМ. 19 сак.; Толькі рэпліка // Там жа. 15 кастр.

**1972.** Хлопец з партызанскага краю // Барадулін Р. Вяртанне ў першы снег. Мн.; Памяць вайны: [Рэц. на кн.: Д р а к а х р у с т А. Мост. Мн., 1972] // Беларусь. № 7; «І голас гулкім серабром...» // Голас Радзімы. № 39; Чырв. змена. 17 вер.; Купала, Багдановіч, руская паэзія // Полымя. № 2; **1973.** № 1; «А горды човен мой імчыць...»: [Рэц. на кн.: К р ы в е ц С. Дубок. Мн., 1972] // Там жа. № 11; ... Однозвучно с именем Беларуси // Знамя юности. 7 июля; Вечны агонь: [Рэц. на: А д а м о в і ч А. Хатынская аповесць // Маладосць. № 8, 9] // ЛіМ. 10 ліст.; Опаленные строки: [Рэц. на кн.: С у р н а ч е в М. Одна любовь. М., 1971] // Сел. газ. 6 мая.

**1973.** Ён быў сярод першых // Моркаўка А. Вершы. Мн.; Вечны агонь // На стрыжні часу. Мн.; «Рух, а не прывал...»: [Рэц. на кн.: К у л я ш о ў А. Далёка да акіяна. Мн., 1972] // Беларусь. № 6; З людзьмі ідучы: [Рэц. на кн.: П ы с і н А. Да людзей ідучы. Мн., 1972] // Там жа. № 2; Кніга Пятра Глебкі: [Рэц. на кн.: Г л е б к а А. Паэзія барацьбы і перамог. Мн., 1973] // Там жа. № 12; Андрэй Вялічка з Мсціжоў: [Рэц. на кн.: П т а ш н і к а ў І. Мсціжы. Мн., 1972] // Маладосць. № 4; Каб перадаць само гарэнне: [Рэц. на кн.: В я р ц і н с к і А. Выбранае. Мн., 1973] // Там жа. № 10; Хараша, чыста...: [Рэц. на кн.: Б і ч э л ь-З а г н е т а в а Д. Доля. Мн., 1972] // Полымя. № 4; Спадчына крытыка: [Рэц. на кн.: Г у с а к С. Пафас праўды. Мн., 1973] // Там жа. № 7; Единство и цельность: [Рэц. на кн.: Т а н к М. Хай будзе святло. Мн., 1972] // Сел. газ. 23 марта.

**1974.** Купала, Багдановіч, руская паэзія // На арбіце часу. Мн.; Няходжанай дарогай: [Рэц. на кн.: Я с к е в і ч А. Грані майстэрства. Мн., 1974] // Беларусь. № 9; Майстэрства сталее: [Рэц. на кн.: Б у р а ў к і н Г. Вытокі. Мн., 1974] // Там жа. № 11; Боевое перо // Правда Востока. 6 февр.; Песни, подхваченные народом // Сел. газ. 4 мая.

**1975.** О поэзии Анатолия Велюгина // Велюгин А. Синий вереск. М.; Сменяет время караулы // Дракохруст А. Мои вы годы-эшелоны... Мн.; Сродное и отличное: (Кулешов и Твардовский) // Единство. М. Вып. 2; О стихах Наума Кислика // Кислик Н. Избранное. Мн.; Багдановіч і Пушкін // Беларусь. № 6; З трывогамі і радасцямі: 70 год з дня нараджэння Пятра Глебкі // Там жа. № 7; Паэзія Украіны // Там жа. № 10; Куляшоў і Твардоўскі // Маладосць. № 1; Купала и Пушкин // Неман. № 9; Движение белорусской прозы: [Рэц. на кн.: А д а м о в и ч А. Горизонты белорусской прозы. М., 1974] // Юность. № 8; «Сталасць — гэта не старасць» // Вяч. Мінск. 24 чэрв.; Паэма пра Кастуся Каліноўскага: [Рэц. на: К у л я ш о ў А. Хамуціус // Полымя. 1975. № 11—12] // Там жа. 23 снеж.; В ногу со временем // Гродн. правда. 25 июня; Правда Укр. 25 июня; В ногу с жизнью // Заря. 25 июня; «Я — твой живой аистенок»: [Рэц. на кн.: Л і с і ц ы н У. Жураўлінае вясло. Мн., 1974] // ЛГ. 26 февр.; Зрелость — прицела точность // Правда Востока. 25 июня; Заветное поэта: [Рэц. на кн.: Г і л е в і ч Н. Запаветнае. Мн., 1975] // Сов. Бел. 17 июля.

**1976.** Цётка // Пра таварышаў па пяру. Мн.; [Прадмова] // Ясенін С. Выбранае. Мн.; Святло і рух: [Рэц. на кн.: Б і ч э л ь-З а г н е т а в а Д. Ты — гэта ты. Мн., 1976] // Маладосць. № 6; Лёс аднаго верша // Там жа. № 11; Голоса дружбы: [Рэц. на кн.: У к р а і н с к а я савецкая паэзія: Анталогія ў двух тамах. Мн., 1975] // Неман. № 5; «Я — тваё жывое бусляня»: [Рэц. на кн.: Л і с і ц ы н У. Жураўлінае вясло. Мн., 1974] // Голас Радзімы. 1 крас.; Скарына, пісар і неба: Урывак з кнігі // ЛіМ. 2 ліст.

**1977.** Пра Кастуся Шавеля і яго зборнік // Шавель К. Музыка нівы. Мн.; Новая кніга А. Куляшова: [Рэц. на кн.: К у л я ш о ў А. Хуткасць. Мн., 1976] // Беларусь. № 2; Адзінства: [Рэц. на кн.: Т а н к М. Дарога, закалыханая жытам. Мн., 1976] // Там жа. № 5; Ад сэрца ў сэрца: Пімену Панчанку — 60 год // Там жа. № 8; Праз многія гады: [Рэц. на кн.: В е ч а р А. Зварот да слова. Мн., 1977] // Там жа. № 12; Подлинность: [Рэц. на кн.: Б і ч э л ь-З а г н е т а в а Д. Ты — гэта ты. Мн., 1976] // Дружба народов. № 4; Пять судеб // Там жа. № 12; «Пусть зреют думы — отзвуки судьбы»: [Рэц. на кн.: Г р е ч а н и к о в А. Звезды и курганы. М., 1976] // Неман. № 10; Строкой измеренное время // Октябрь. № 12; «Я — сын земли, наследник хлебопашцев» // Юность. № 7; Паэт сучаснасці // Вяч. Мінск. 23 жн.; У абарону жыцця // ЛіМ. 2 вер.; С революцией в сердце // Сел. газ. 23 авг.; Дороги поэта // Сов. Бел. 27 апр.; Певец современности // Сов. Литва. 23 авг.

**1978.** Стала песняй...: [Рэц. на кн.: А р а б е й Л. Стану песняй. Мн., 1977] // Беларусь. № 5; Чалавек у свеце // Маладосць. № 1; Ваенныя дзённікі Івана Мележа: [Рэц. на кн.: М е л е ж І. Першая кніга. Мн., 1977] // ЛіМ. 3 лют.; Калі паэт і паэзія — тэма... // Там жа. 9 чэрв.; У першую мірную раніцу... // Там жа. 1 снеж.

**1979.** Аб вершах Анатоля Грачанікава // Грачанікаў А. Калі далёка ты... Мн.; Трэцяя кніга хронікі: [Рэц. на кн.: М е л е ж І. Завеі, снежань. Мн., 1978] // Беларусь. № 2; ... И найден ключ: (Поэзия Аркадия Кулешова 30-х годов) // Неман. № 11; Лірыка сейбіта і салдата: Творчы партрэт // ЛіМ. 2 сак.

**1980.** Лірыка сейбіта і салдата // Пысін А. Выбр. тв.: У 2 т. Мн. Т. 1.

**1983.** Прафесійныя забойцы // ЛіМ. 1 ліп.

**1984.** Таварыш // Валянцін Таўлай: Дакументы, успаміны, артыкулы. Мн.

**1985.** ... І знойдзен ключ: (Паэзія Куляшова 30-х гадоў) // Вобраз-85. Мн.

**1988.** Дзве з соцен...: З выдавецкіх рэцэнзій // Полымя. № 8.

**1.4.**

**1969.** Х а р ы к І. «Век настане такі...»; «Мой верш, што заўсёды звінеў...»: [Вершы] / З яўр. // Харык І. Выбранае. Мн.

**1974.** С е р г е е в А. После боя: [Верш] / З мар. // Сов. Бел. 31 окт.

**1.5.**

**На англійскую мову.** Yanka Kupala: (On the occasion of his ninetieth birthday // Soviet Literature. 1972. N 7.

**На балгарскую мову.** Съвременни белоруски поети // Септември. 1960. № 11; Аркадь Куляшов: Предговор // Куляшов А. Избрани стихотворения и поеми. София, 1963.

**На беларускую мову.** Чалавек напрадвесні: Расказ пра М. Багдановіча / Пер. с рус. Ю. Канэ. Мн., 1986.

**На літоўскую мову.** Pokarinė baltarusiu literatūra // Pergale. 1958. Nr 9 / Сааўт. А. Палітыка.

**На польскую мову.** Janko Kupała // Szt. Wolności. 1941. 4 kwiet.

**На рускую мову.** Мир Купалы: Мысли и наблюдения / Пер. З. Крахмальникова. М., 1973. Рэц.: Е р м о л о в и ч М. В мире Купалы // Неман. 1974. № 6.

Звенья: Творческая индивидуальность и взаимодействие литератур / Пер. Ю. Канэ. М., 1984.

**На ўкраінскую мову.** Поезия служить народові // Літ. газ. 1957. 24 вер.; Грані таланту // Прапор. 1961. № 7.

**1.6.**

А н т а л о г і я беларускай паэзіі: У 3 т. Мн., 1961. Т. 2 / Скл. з М. Лужаніным.

Ш в е д з і к Г. Лірыка / Пер. з яўр. Мн., 1962 / Скл.

Т а ў б і н Ю. Вершы. Мн., 1969 / Скл.

М о р к а ў к а А. Вершы. Мн., 1973. (Б-ка бел. паэзіі) / Скл.

В а т а ц ы Н. Максім Багдановіч: Паказальнік выданняў, аўтографаў і крытыч. літаратуры. Мн., 1976 / Рэд.

Ш а в е л ь К. Музыка нівы: Вершы і паэма. Мн., 1977 / Рэд.

П у ш к и н А. Стихотворения и поэмы. Мн., 1978 / Скл.

Л е р м о н т о в М. Стихотворения и поэмы. Мн., 1979 / Скл.

**2.3.**

**На беларускай мове.** А д а м о в і ч А. Літаратура ў святле параўнальнага вывучэння // ЛіМ. 1978. 14 ліп.; Б а р а д у л і н Р. На палях вечнасці // Там жа. 1981. 4 снеж.; Б е ч ы к В. У непарыўным адзінстве: (Рыгор Бярозкін) // Бечык В. Прад высокаю красою... Мн., 1984; Б о й к а У. Майстэрства крытыка // ЛіМ. 1959. 28 лют.; В а р н о У. Строгая добразычлівасць // Там жа. 1961. 20 студз.: Г і л е в і ч Н. Крыху роздуму ў сувязі // Там жа. 1968. 26 ліп.; Г і с т о р ы я беларускай дакастрычніцкай літаратуры: У 2 т. М., 1968. Т. 1. С. 45; Г л е б к а П. Аб нашай паэзіі і аб новых вершах Петруся Броўкі // ЛіМ. 1940. 17 жн.; Г р а х о ў с к і С. Ёсць святло і ў «Акне» // Там жа. 1968. 12 ліп.; К а в а л е н к а В. З паэзіяй у сэрцы // Беларусь. 1976. № 7; Я г о ж. Крытык і паэт // Каваленка В. Прага духоўнасці. Мн., 1975; Я г о ж. Праблемы сучаснай беларускай крытыкі. Мн., 1977. С. 86—89, 117—119; К а н э Ю. Восем радкоў // Беларусь. 1988. № 7; К у ч а р А. Лірычны штамп // ЛіМ. 1940. 7 вер.; Л е н с у А. З чым нельга пагадзіцца // Там жа. 1963. 26 крас.; Л у ж а н і н М. Свет Купалы // Там жа. 1966. 7 чэрв.; М у ш ы н с к і М. Беларуская крытыка і літаратуразнаўства: 40-я — першая палавіна 60-х гадоў. Мн., 1985. С. 194—195, 210—213, 215—216, 286—289; П а л т а р а н В. Голас высокае грамадзянскасці // ЛіМ. 1978. 30 чэрв.; П а н ч а н к а П. [Уступнае слова да артыкула Р. Бярозкіна «Прафесійныя забойцы»] // Там жа. 1983. 1 ліп.; П і с ь м е н н і к і Савецкай Беларусі. Мн. 1981. С. 54—55; П с і к а ў А. Веліч Купалава слова // ЛіМ. 1967. 29 вер.; П ы с і н А. Са шчырым клопатам: (Да 50-годдзя з дня нараджэння Рыгора Бярозкіна) // Маг. праўда. 1968. 4 ліп.; Р а г у л я А. Вышыня крытэрыяў // ЛіМ. 1977. 11 сак.; Р а л ь к о І. Беларускі верш. Мн., 1969. С. 192—199; Я г о ж. Вершаскладанне. Мн., 1977. С. 33—35; Р у с е ц к і А. Крытык павінен быць аб'ектыўным: Адказ на адкрыты ліст Р. Бярозкіна // ЛіМ. 1960. 6 студз.; Р ы г о р Бярозкін: [Некралог] // Там жа. 1981. 4 снеж.; Р ы г о р у Бярозкіну — 50 гадоў: [Віншаванне] // Там жа. 1968. 2 ліп.; Р ы г о р у Бярозкіну — 60: [Віншаванне] // Там жа. 1978. 30 чэрв.; С т ы л ь пісьменніка. Мн., 1974. С. 43—44; Ш а р а х о ў с к і Я. Аб беларускай паэзіі // Полымя. 1941. № 2; Я г о ж. Аб крытыцы: (Некаторыя заўвагі) // ЛіМ. 1939. 11 чэрв.; Ш а ў ц о ў П. Шляхамі краіны паэзіі // Вяч. Мінск. 1972. 24 кастр.; Ш к р а б а Р. Кнігу прачытаў крытык // Полымя. 1961. № 4; Я г о ж. Характар, стыль, дэталь. Мн., 1965. С. 181—183; Я ф і м а ў Ф. Улюбёны ў паэзію // Полымя. 1968. № 7.

**На рускай мове.** А з г у р З. Минские встречи // Азгур З. То, что помнится... Мн., 1977; Я г о ж. Со временем сверяя слово // Сов. Бел. 1978. 9 июля.

*З. У. Драздова.*

# БЯСПАЛЫ ЗМІТРО



**Бяспалы Змітро (Дзмітрый Аляксандравіч; псеўд.: Д. Аляксандраў, Зм. Верас, Зм. Вялікаборац, Д. Дзядовіч, В. Дубец, Д. Змітровіч, З. Змітровіч, З. Івановіч, З. Казак, Зм. Казак, Д. Каліна, Дзямід Каліна, Зм. Корань, Адам Курыла, Д. Патапаў; н. 3.1.1936, в. Вялікі Бор Хойніцкага р-на Гомельскай вобл.), празаік. Член СП СССР з 1974.**

Нарадзіўся З. Бяспалы ў калгаснай сям'і. Скончыўшы першы клас Аўрамаўскай СШ, вучыўся ў Вялікаборскай сямігодцы, а потым паступіў у Рэчыцкі землеўпарадчы тэхнікум, адначасова рабіў першыя крокі ў журналістыцы — друкаваў карэспандэнцыі ў рэчыцкай раённай газеце «Дняпровец». Пасля сканчэння тэхнікума (1952) працаваў землеўпарадчыкам у Іўеўскім р-не Гродзенскай вобл. Адтуль прызваны ў армію. Служыў на Паўночным флоце. У час службы змяшчаў свае артыкулы і карэспандэнцыі ў газетах «На страже Заполярья» і «Комсомолец Заполярья». Там жа, у арміі, скончыў аднагадовую партыйную школу. Пасля дэмабілізацыі (1958) паступіў на аддзяленне журналістыкі філалагічнага факультэта БДУ. У 1959 стаў членам КПСС. На трэцім курсе (1960) быў прыняты на працу ў часопіс «Вожык». Пісаў артыкулы, нарысы, фельетоны, апавяданні.

Першыя гумарыстычныя творы З. Бяспалага былі надрукаваны ў 1963. У 1969 выдаў першую кніжку апавяданняў і замалёвак аб прыродзе «Лясныя хітруны». У 1972 ён быў пераведзены адказным сакратаром у інфармацыйна-метадычны бюлетэнь «Родная прырода», а пасля яго рэарганізацыі ў часопіс (1977) прызначаны галоўным рэдактарам. У той час у друку выйшлі многія зборнікі яго апавяданняў, аповесцей, замалёвак аб прыродзе Беларусі, аб узаемаадносінах чалавека з прыродай. З. Бяспалы пераклаў таксама з рускай мовы на беларускую анімалістычныя апавяданні рускіх і замежных аўтараў, аповесць У. Сысоева «Залатая Рыгма».

Жыве ў Мінску. *Г. П. Харошка.*

## Бібліяграфія

**1.2.**

Лясныя хітруны: Апавяданні. Мн., 1969. Рэц.: Кірэйчык І. // Гомел. праўда. 1970. 31 студз.; Лявонава П. Свет зямных таямніц // ЛіМ. 1970. 31 ліп.

Сякера пад лаваю: Гумарэскі. Мн., 1970. (Б-ка «Вожыка»). Рэц.: Праvасуд У. Дасціпны гумар // Звязда. 1970. 28 ліп.

У лясной каморы: Апавяданні. Мн., 1972. Рэц.: Хамянкоў М. Без дакучлівай дыдактыкі // Гомел. праўда. 1972. 8 вер.

Мядзведзеў пачастунак: Апавяданні. Мн., 1976.

Страшны звер: Апавяданні аб прыродзе. Мн., 1978.

Дзіўны птах: Апавяданні. Мн., 1981.

Казкі Сіняга лесу. Мн., 1983.

С полным лукошком: Записки грибника. Мн., 1985.

Лясныя хітруны: Замалёўкі, апавяданні, казкі. Мн., 1986.

Звери Беловежской пущи. Мн., 1987.

Птицы Беловежской пущи. Мн., 1988.

**1.3.**

**1960.** Галава Каца, рукі — Фралова // Вожык. № 12; Памочкі Вайнера // Там жа. № 14; Таўкуць ваду // Там жа. № 15; Дзе ж прэтэнзія?: (Фельетон) // Там жа. № 16; У аварыйным парадку: (Фельетон) // Там жа. № 17 / Пад псеўд. З. Івановіч; Дзе ж набраць вады? // Там жа. № 20; Ні людзям, ні сабе // Там жа. № 21 / Пад псеўд. Д. Дзядовіч; Вось дык пагналі!...: (Фельетон) // Там жа. № 23; Непрапісаны жыхар // Там жа. № 24.

**1961.** Аддай рукамі, а хадзі нагамі // Вожык. № 2 / Пад псеўд. З. Змітровіч; І ў адной нянькі дзіця без носу // Там жа. № 3; Тэатральна-драматычныя афёры / Пад псеўд. Адам Курыла; Дзякуй не скажаш / Пад псеўд. Д. Змітровіч: [Фельетоны] // Там жа. № 6; Як пячнік стаў печнікам // Там жа. № 7 / Пад псеўд. Д. Змітровіч; Барадатыя «студэнты» // Там жа. № 8 / Пад псеўд. Адам Курыла; Курыная слепата // Там жа. № 9 / Пад псеўд. Д. Змітровіч; Шумеў банкет: (Фельетон) // Там жа. № 10 / Пад псеўд. Адам Курыла; Саўгасныя невідзімкі: (Фельетон) // Там жа. № 11 / Пад псеўд. Адам Курыла; Не працуюць, а ядуць // Там жа. № 12 / Пад псеўд. Адам Курыла; Дарагі Вожык!: [Ліст у рэдакцыю] // Там жа. № 13 / Пад псеўд. Д. Патапаў; Бунт у вітрыне: (Фельетон) // Там жа. № 14 / Пад псеўд. Адам Курыла; Кім толькі ён яшчэ не быў... / Пад псеўд. Адам Курыла; Мацыён са слоікамі / Пад псеўд. Д. Змітровіч; Чобаты, чобаты... / Пад псеўд. З. Івановіч // Там жа. № 15; Зашумелі, загудзелі правады // Там жа. № 16 / Пад псеўд. Адам Курыла; Беспрацоўныя коні: (Фельетон) / Пад псеўд. Адам Курыла; Іванова гневаецца // Там жа. № 17; Праполка трактарам // Там жа. № 18 / Пад псеўд. Д. Змітровіч; Шыварат-навыварат // Там жа. № 19 / Пад псеўд. З. Івановіч; Пры дапамозе пілы, сякеры і запісак Грынберга: (Фельетон) / Пад псеўд. Адам Курыла; Плёнка-невідзімка / Пад псеўд. Д. Патапаў // Там жа. № 21; Скарга кухоннай пліты: (Фельетон) // Там жа. № 24 / Пад псеўд. Адам Курыла.

**1962.** Толькі вецер гуляў у правадах // Вожык. № 1 / Пад псеўд. Адам Курыла; Пра ножкі і рожкі, рыбакоў і рыбку: (Фельетон) // Там жа. № 4 / Пад псеўд. Адам Курыла; Каб хамут не гуляў: (Фельетон) // Там жа. № 5 / Пад псеўд. Адам Курыла; Пачалі за здароўе... // Там жа. № 7; Даплата за хуткасць // Там жа. № 10 / Пад псеўд. З. Івановіч; Хачу на пенсію: (Споведзь інструкцыі): [Фельетон] // Там жа. № 12 / Пад псеўд. Адам Курыла; Пра лыжку дзёгцю... // Там жа. № 14; Хоць круці матор рукамі: (Фельетон) // Там жа. № 15; Крысько і яго заступнік / Пад псеўд. Д. Патапаў; Грозны механік / Пад псеўд. З. Івановіч // Там жа. № 16; Чарга ёсць чарга // Там жа. № 17; Зайцы ваўкоў паелі // Там жа. № 19 / Пад псеўд. З. Івановіч; Завочная экскурсія // Там жа. № 22.

**1963.** Сумленне выдадзена напракат / Пад псеўд. Зм. Верас; Сам пасеяў, сам прыбраў / Пад псеўд. З. Івановіч // Вожык. № 3; Ісціну знайшлі пад снегам // Там жа. № 4; Горкія вяселлі // Там жа. № 15; Бяссільны дырэктар // Там жа. № 16 / Пад псеўд. Зм. Верас; Нявыхаваны выхавацель // Там жа. № 19; Ведаюць, ды маўчаць // Там жа. № 21; Інтарэсы рабой курачкі перамаглі: (Фельетон) // Там жа. № 22.

**1964.** Кампенсацыя за... хуліганства // Там жа. № 2 / Пад псеўд. Зм. Верас; Як мой брат жаніўся: Апавяданне // Там жа. № 4; Гарантаваныя страты // Там жа. № 6; Дырэктары-нехацімцы // Там жа. № 7 / Пад псеўд. Зм. Верас; Адзін супраць трынаццаці // Там жа. № 8 / Пад псеўд. Зм. Верас; Па «ўласнаму жаданню...»: (Фельетон) / Пад псеўд. Д. Аляксандраў; Першае ўражанне: (Гумарэска) // Там жа. № 9; Тэхдакументацыя і аргументацыя // Там жа. № 11 / Пад псеўд. Зм. Верас; Засада: [Апавяданне] // Там жа. № 12; Смелы баязлівец // Там жа. № 13 / Пад псеўд. Зм. Верас; Без скідкі на брак // Там жа. № 14 / Пад псеўд. Зм. Верас; Прадавец паветра // Там жа. № 15 / Пад псеўд. Зм. Верас. Сааўт. Ф. Пазнякоў; Не працягнуў у час руку // Там жа. № 16; Вандроўныя слесары: Па слядах аднаго пісьма // Там жа. № 18; Пасябраваў старшыня / Пад псеўд. Зм. Верас; Без прапіскі // Там жа. № 19; Маленькія апавяданні: Рэкамендацыя; Каб не латка // Там жа. № 20; Рэдкасны талент: [Гумарэска] // Чырв. змена. 18 чэрв.

**1965.** З апошнім папярэджаннем... // Там жа. № 1; Не ідзе сена да казы... // Там жа. № 2; Маленькія апавяданні: Хіба гэта дзеці...; Сарвалася з языка // Там жа. № 3; Вучоныя браканьеры // Там жа. № 6 / Сааўт. У. Мяжэвіч; Апошні раз: Гумарэска // Там жа. № 10; Многа ведае: [Мініяцюра] / Пад псеўд. Зм. Корань; Шчодры скнара // Там жа. № 13; Нарада без рэгламенту: (Фельетон) // Там жа. № 14; Орсаўскія хлебапёкі / Пад псеўд. Зм. Верас; Нечаканая падзяка: [Мініяцюра] / Пад псеўд. Зм. Корань // Там жа. № 17; Дзе ж сабака закапаны?.. // Там жа.

№ 18; Толькі бурбалкі пайшлі // Там жа. № 20 / Пад псеўд. Зм. Вялікаборац; Лятучка з дрыжыкамі: (Фельетон) // Там жа. № 23.

**1966.** Дарагі падаруначак / Пад псеўд. Зм. Вялікаборац; Пра хатку, дзе няма парадку: [Фельетоны] // Вожык. № 1; Стук-грук, абы з рук...: Пра апошні цвік // Там жа. № 2 / Пад псеўд. Зм. Вялікаборац; Грошы марна гінуць // Там жа. № 4 / Пад псеўд. Зм. Вялікаборац; Толькі на два дні // Там жа. № 6; Фантазёры... / Пад псеўд. Зм. Верас; З мяшком на плячах, з вядром у руках: [Гумарэска] // Там жа. № 7; Вагон сюды — вагон туды // Там жа. № 8 / Пад псеўд. Зм. Верас; Седзячы на печы... // Там жа. № 9 / Пад псеўд. Зм. Верас; З чаго гародзяць плот? // Там жа. № 11; У магазіне прыроды: [Мініяцюра] // Там жа. № 12 / Пад псеўд. Зм. Казак. Сааўт. Р. Рыгораў; Пра дачу і аддачу: (Фельетон) // Там жа. № 13 / Сааўт. В. Зуб; Трэнер... трэніруецца // Там жа. № 15 / Пад псеўд. Зм. Верас; Прыкінулі, падумалі... // Там жа. № 16 / Пад псеўд. Зм. Верас; На халастых абаротах: Па слядах аднаго пісьма // Там жа. № 17; Прафесійнае пажаданне: (Жарт) / Пад псеўд. Зм. Казак. Сааўт. Р. Рыгораў; Не дамовіліся: (Фельетон) // Там жа. № 21; Вясёлая трасянка: Гумарэскі з даўнейшых беларускіх народных жартаў // ЛіМ. 27 снеж.

**1967.** Перадрыжаў; Лепшы сябра; Далёкі прыцэл: (Гумарэскі) // Вожык. № 2; Яшчэ б адна рэвізія... / Пад псеўд. Зм. Верас. Сааўт. М. Галімскі; Дзе ж справядлівасць? // Там жа. № 4; Незаменны заменнік: (Фельетон) // Там жа. № 12; Непажаданая асоба: (Фельетон) // Там жа. № 13 / Пад псеўд. Зм. Верас; Прэтэнзія самому сабе // Там жа. № 14 / Пад псеўд. Зм. Верас; Ці ўсе лугі пакошаны?: [Фельетон] // Там жа. № 16; Незалатаныя дзіркі: (Фельетон) // Там жа. № 22 / Сааўт. В. Зуб; Маленькія апавяданні: Паплацішся; Чужое пісьмо; Перастараўся // Там жа. № 23; Біты козыр: (Фельетон) // Там жа. № 24.

**1968.** Прабіўная кропля: (Фельетон) // Вожык. № 2 / Пад псеўд. Зм. Верас; Ганцы на ўсе канцы: (Фельетон) // Там жа. № 4; Пераблытала: [Мініяцюра] / Пад псеўд. З. Казак. Сааўт. Р. Рэлес; Стралялі варон...: (Фельетон) / Пад псеўд. Зм. Верас // Там жа. № 5; Таямнічы скарб // Там жа. № 6 / Пад псеўд. Зм. Верас; Адвакат бароніць адваката // Там жа. № 7 / Пад псеўд. Зм. Верас; Дружа Вожык!: [Ліст у рэдакцыю] // Там жа. № 8 / Пад псеўд. Зм. Верас; Ціт у новай ролі: (Фельетон) // Там жа. № 12 / Пад псеўд. Зм. Верас; Кнігалюбы // Там жа. № 13; Замест асушкі — перасушка: (Фельетон) // Там жа. № 15 / Пад псеўд. Зм. Верас; Які ж мост? // Там жа. № 17 / Пад псеўд. Зм. Верас; Вясковыя жарты: Чыя сякера?; Халімонава схованка // Там жа. № 20; Ліпавыя венікі // Там жа. № 21 / Пад псеўд. Зм. Верас; Жнівеньскім днём: Абразкі // ЛіМ. 6 вер.

**1969.** Пасунься, вуліца...: (Фельетон) // Вожык. № 2; І на пуп не бралі... // Там жа. № 4 / Пад псеўд. Зм. Верас; У снежна-лёдавым палоне // Там жа. № 5 / Пад псеўд. Зм. Верас; Ні рожак, ні ножак...: (Фельетон) // Там жа. № 6 / Пад псеўд. Зм. Верас; Спакусіла шыльда... // Там жа. № 8 / Пад псеўд. Зм. Верас; Злодзей пад вагамі: (Фельетон) // Там жа. № 9 / Пад псеўд. Зм. Верас; Мінулася кату масленіца...: (Фельетон) // Там жа. № 10 / Пад псеўд. Зм. Верас; Таварыш Брак і яго апекуны: (Фельетон) // Там жа. № 11; Не хадзіце ў суд: [Гумарэска] // Там жа. № 14; Непрадбачаная экскурсія: (Фельетон) // Там жа. № 15; Завочныя падзякі // Там жа. № 16 / Пад псеўд. Зм. Верас; На ільготных умовах // Там жа. № 17 / Пад псеўд. Зм. Верас; Заказ з сакрэтам // Там жа. № 20 / Пад псеўд. Зм. Верас; Сеўшы ў крэсла... // Там жа. № 21. / Пад псеўд. Зм. Верас; Салодкае малачко; Мядзведзеў пачастунак: [Апавяданні] // Работніца і сялянка. № 8.

**1970.** Падзяка разявакам // Вожык. № 2 / Пад псеўд. Зм. Верас; Жывы кажух // Там жа. № 3 / Пад псеўд. Зм. Верас; Каб толькі захацелі... // Там жа. № 4 / Пад псеўд. Зм. Верас; Трэба прыняць... // Там жа. № 5 / Пад псеўд. Зм. Верас; Начныя госці // Там жа. № 6 / Пад псеўд. Зм. Верас; У добры шлях! Да мільёнпага! // Там жа. № 7; Натурлівы «бычок» // Там жа. № 8; Для «падтрымання» здароўя // Там жа. № 9 / Пад псеўд. Зм. Верас; Промыславая камерцыя // Там жа. № 13 / Пад псеўд. Зм. Верас; Маўклівае трыо // Там жа. № 16 / Пад псеўд. Зм. Верас; Райспажыўсаюзаўскія краявіды // Там жа. № 17 / Пад псеўд. Дзяміл Каліна; Валі кулём: (Фельетон) // Там жа. № 18 / Пад псеўд. Дзяміл Каліна; Дзе ж бульбачка?: (Фельетон) // Там жа. № 19 / Пад псеўд. Дзяміл Каліна; Лежачы на печы...: (Фельетон) // Там жа. № 20 / Пад псеўд. Дзяміл Каліна; Перакуплены падарунак // Там жа. № 22 / Пад псеўд. Дзяміл Каліна; Яго зброя — сатыра // Звязда. 25 жн.; Нашэсце // Там жа. 29 вер.; Чый гусак?: Даўнейшы беларускі жарт // ЛіМ. 27 ліст.

**1971.** Пашкраблі б і пятку... // Вожык. № 1 / Пад псеўд. Дзяміл Каліна; Ганіце манету / Пад псеўд. Дзяміл Каліна; У Пінску, як у Мінску; Паганы язык: [Гумарэскі] // Там жа. № 3; Папяровы мёд: (Фельетон) // Там жа. № 4 / Пад псеўд. Дзяміл Каліна; Пасля рэвізіі: Гумарэска // Там жа. № 6; Мяшок на закуску: (Фельетон) // Там жа. № 7 / Пад псеўд. Дзяміл Каліна; Вучоба патрабуе ахвяр: (Фельетон) // Там жа. № 8 / Пад псеўд. Дзяміл Каліна; Каб не дзеці...: (Фельетон) // Там жа. № 9 / Пад псеўд. Дзяміл Каліна; На пні і пад пнём // Там жа. № 10 / Пад псеўд. Дзяміл Каліна; Ах, гэтая нячыстая сіла...// Там жа. № 12 / Пад псеўд. Зм. Верас; Ажыла карова / Пад псеўд. Дзяміл Каліна; А дах цячэ... / Пад псеўд. Зм. Верас // Там жа. № 13; У прынцыпе згодны... / Пад псеўд. Зм. Верас; Сарокі дзён не падзяўблі... // Там жа. № 14; Грэшны анёл // Там жа. № 16 / Пад псеўд. Зм. Верас; Кінакадры аб кінатэатры: Кінасцэнарый у пяці частках // Там жа. № 17 / Пад псеўд. Дзяміл Каліна; Папяровая сляза / Пад псеўд. Д. Каліна; Пра штукі-трукі / Пад псеўд. Зм. Верас // Там жа. № 18; Рамантуюць-лямантуюць // Там жа. № 19; «Выбачайце, праваронілі...»: (Фельетон) // Там жа. № 20 / Пад псеўд. Зм. Верас; Не разабраўшыся; Сярод былых знаёмых; Вясёлы прымак: [Гумарэскі] // Там жа. № 21; Сын на шыі: Па слядах пісьма // Там жа. № 22; Даўным-даўно... // Там жа. № 23; Мініяцюры // Маладосць. № 8; Ахова прыроды і грамадскасць // Звязда. 29 студз.; Для ўсіх узростаў // Там жа. 11 жн.; Ластаўчын прысуд: Маленькае апавяданне // Там жа. 1 кастр.; Кветкі Ральфа // Там жа. 17 ліст.; Музштат: Гумарэска // ЛіМ. 5 сак.; Калектыўнае абмеркаванне: Гумарэска // Там жа. 19 сак.; Шышка: Гумарэска // Там жа. 20 жн.; Падарунак: Гумарэска // Там жа. 3 снеж.; Снежань — месяц зімовы: [Навелы]: Танец зайца; Выйшлі пагуляць; Снежныя раскопкі; Чые ніткі? // Чырв. змена. 12 снеж.

**1972.** Карміў да вусоў — кармі да сівых валасоў // Вожык. № 4 / Пад псеўд. Зм. Верас; Лельчыцкія дзіркі // Там жа. № 5 / Сааўт. Я. Пархута; Плодагароднінны дэфіцыт: (Фельетон) // Там жа. № 6 / Пад псеўд. Зм. Верас; Дзе цякуць рэкі малака... // Там жа. № 9 / Пад псеўд. Зм. Верас; Не лячыўся, а весяліўся // Там жа. № 13 / Пад псеўд. Зм. Верас; Не планам, дык падманам: (Фельетон) / Пад псеўд. Д. Каліна; Асечка пасля стрэлу / Пад псеўд. Зм. Верас // Там жа. № 14; Тэлефон з песнямі // Там жа. № 17 / Пад псеўд. Зм. Верас; За бурбалкі — прэміі: (Фельетон) // Там жа. № 19 / Пад псеўд. Зм. Верас; Сарочка, пыласос і... аўтарытэт // Там жа. № 22 / Пад псеўд. Зм. Верас; Валакіта з-за склепа: (Фельетон) // Там жа. № 23 / Пад псеўд. Зм. Верас; Уладар птушынага свету // Голас Радзімы. № 6; Буслы «пераехалі»: З блакнота натураліста // Там жа. № 35; Птушак чароўны свет // Звязда. 26 студз.; Апошні трафей: Маленькае апавяданне // Там жа. 22 лют.; Пяром, як штыком // Там жа. 6 крас.; Да таямніц азёр: Прырода і людзі // Там жа. 28 крас.; Буслы «пераехалі»: Быль // Там жа. 25 ліп.; Зімовыя эцюды: Сойчын халадзільнік; Памыліўся...; Касы браканьер; Начны канцэрт // Чырв. змена. 12 лют.; [Рэц. на кн.: Д з е ц і расказваюць пра птушак. Мн., 1972] // Там жа. 30 крас.; Таямнічая птушка; Заячая «Дзялянка»; Птушыны прысуд; Адважная плыў-

